МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МЕДЫЦЫНСКІ ЎНІВЕРСІТЭТ
КАФЕДРА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОЎ

**В. П. Клімавец**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ДЛЯ ПАДРЫХТОЎКІ ДА ЦЭНТРАЛІЗАВАНАГА ТЭСЦІРАВАННЯ

Зборнік тэстаў




Мінск БДМУ 2013

УДК 811.161.3(075.8)
ББК 81.2 Бел-923
К49

Рэкамендавана Навукова-метадычным саветам універсітэта ў якасці зборніка тэстаў па беларускай мове 20.02.2013 г., пратакол № 6

Рэцэнзенты: ст. выкл. каф. беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Н. Я. Савіцкая; ст. выкл. каф. беларускай і рускай моў Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта Г. У. Мядзведзь

**Клімавец, В. П.**

К49 Беларуская мова для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання : зборнік тэстаў / В. П. Клімавец. – Мінск : БДМУ, 2013. – 136 с.

ISBN 978-985-528-834-4.

Прызначаны для падрыхтоўкі навучэнцаў да цэнтралізаванага тэсціравання. Уключае шаснаццаць варыянтаў разнастайных заданняў па ўсіх раздзелах школьнай праграмы. Работа над заданнямі зборніка тэстаў дазволіць добра падрыхтавацца да ЦТ і паспяхова вытрымаць яго.

У канцы дапаможніка падаюцца адказы да ўсіх заданняў.

Адрасаваны навучэнцам старшых класаў школ і гімназій, выпускнікам, слухачам падрыхтоўчых аддзяленняў.

**УДК 811.161.3(075.8)**
**ББК 81.2 Бел-923**

---

Вучэбнае выданне

**Клімавец** Вольга Паўлаўна

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ДЛЯ ПАДРЫХТОЎКІ ДА ЦЭНТРАЛІЗАВАНАГА ТЭСЦІРАВАННЯ

Зборнік тэстаў

Адказны за выпуск В. У. Белы
Рэдактар Ю. В. Кісялёва
Камп'ютарны набор М. А. Амельчанка
Камп'ютарная вёрстка А. В. Янушкевіч

Падпісана да друку 21.02.13. Фармат 60×84/16. Папера пісчая «Снегурочка».
Рызаграфія. Гарнітура «Times».
Ум. друк. арк. 7,9. Ул.-выд. арк. 6,34. Тыраж 60 экз. Заказ 498.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі «Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт».
ЛІ № 02330/0494330 ад 16.03.2009.
Вул. Ленінградская, 6, 220006, Мінск.

**ISBN 978-985-528-834-4**

## ПРАДМОВА

Зборнік тэстаў падрыхтаваны згодна з Праграмай базавай школы і з улікам Праграмы для паступаючых у ВНУ.

Дадзенае выданне ўключае шаснаццаць варыянтаў разнастайных заданняў па ўсіх раздзелах Праграмы: фанетыцы, арфаэпіі, арфаграфіі, лексікалогіі, марфалогіі, словаўтварэнні, культуры мовы.

Першыя трынаццаць варыянтаў з’яўляюцца комплекснымі. Па сваёй будове яны аналагічныя тым, што прапануюцца на ЦТ.

Варыянты з чатырнаццатага па шаснаццаты ўтрымліваюць заданні па сінтаксісе і пунктуацыі і маюць на мэце паглыбленне ведаў навучэнцаў па больш складаных пытаннях: члены сказа і спосабы іх выражэння, адасобленыя члены сказа, пунктуацыя ў складаных сказах розных відаў, у сказах з чужой мовай.

Выкананне гэтых заданняў скіравана на павышэнне ўзроўню ведаў абітурыентаў па асноўных пытаннях сінтаксісу і пунктуацыі, на выпрацоўку ўмення будаваць схемы складаных сказаў, правільна ставіць знакі прыпынку ў іх.

Як сведчыць вопыт выкладання, найбольш цяжкімі для выпускнікоў з’яўляюцца пытанні, што патрабуюць разумення спецыфікі беларускай мовы. Таму ў зборнік тэстаў уключаны ў вялікай колькасці адпаведныя заданні па фанетыцы, марфалогіі і сінтаксісе. Яны засяроджваюць увагу навучэнцаў на асаблівасцях роднай мовы ў параўнанні з рускай.

Работа над заданнямі зборніка тэстаў будзе выдатным практыкумам, які дазволіць выпрацаваць трывалыя навыкі валодання нормамі беларускай мовы і паспяхова выканаць заданні цэнтралізаванага тэсціравання.

Дадзенае выданне можа быць выкарыстана як для работы пад кіраўніцтвам выкладчыка, так і для самастойнай работы.

Поспехаў вам!

# ВАРЫЯНТ I

## Тэст А

***А1. Адзначце словы, у якіх літара*** *я* ***абазначае два гукі:***

1) раяль;
2) цягнік;
3) мясцовы;
4) баявы;
5) якасны.

***А2. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *е****:***

1) гал...рэя;
2) г...рань;
3) н...маўля;
4) кал...ндар;
5) зерн...склад.

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *э****:***

1) пр...снаводны;
2) р...монт;
3) ц...мент;
4) экз...мпляр;
5) ц...рква.

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *ыя****:***

1) хар...графія;
2) аж...таж;
3) д...спара;
4) іхт...фаўна;
5) рэперт...р.

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны*** *ь* ***(****мяккі знак****):***

1) ваз...му;
2) сур...ёзны;
3) кас...ба;
4) ц...мяны;
5) кал...ян.

***А6. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *у* ***(****складовае****):***

1) ска...т;
2) архівары...с;
3) дрэдно...т;
4) А...гій;
5) Ланда... .

***А7. Адзначце спалучэнні слоў, у якіх прапушчана літара*** *с****:***

1) ра...чараванне засмуціла;
2) ра...чыніць акно;
3) ра...чыніць цеста;
4) ра...чуліць сястру;
5) разбураны да...чэнту.

***А8. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *і****:***

1) пра...сці;
2) раз...граць;
3) дэз...нфармацыя;
4) за...нтрыгаваць;
5) пра...грываць.

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара*** *я****:***

1) ды...лекталогія, цыбул...водства;
2) в...лікагрузны, чэмпі...нат;
3) тры...лет, л...генда;
4) кл...новы, Пал...сціна;
5) кул...мёт, В...часлаў.

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) гладкашэрстны, мадонна;
2) замужства, посны (сняданак);
3) кантрасны, панначка;
4) аб'ездчык, расстанне;
5) Жанна, міласэрны.

***А11. Адзначце радкі, у якіх ва ўсіх словах адбываецца дзеканне:***

1) фрыка(дэ, дзе)лька, мела(ды, дзі)чны;
2) аў(ды, дзі)торыя, (д, дз)весце;
3) по(д, дз)віг, (Д, дз)віна;

4) Бара(ды, дзі)но, брыга(ды, дзі)рскі;
5) бар(ду, дзю)р, гвар(дэ, дзе)йскі.

***А12. Адзначце словы з прыстаўной літарай в:***
1) вольнасць; 3) водпуск; 5) волкасць.
2) наводшыбе; 4) навугольнік;

***А13. Адзначце правілы арфаграфіі, заснаваныя на фанетычным прынцыпе:***
1) правапіс падоўжаных зычных;
2) правапіс *ў* пасля галосных;
3) правапіс шыпячых зычных перад свісцячымі;
4) правапіс літары *с* на месцы спалучэння *сс*;
5) правапіс літары *е* ў прыназоўніку *без*.

***А14. Адзначце словы, лексічнае значэнне якіх падаецца правільна:***
1) *айчына* — для кожнага чалавека краіна, дзе ён нарадзіўся, грамадзянінам якой ён з’яўляецца;
2) *навізна* — толькі што атрыманая вестка, паведамленне пра штонебудзь новае;
3) *ужывальны* — які ўмее жыць у згодзе, ладзіць з людзьмі;
4) *адрасат* — той, хто пасылае паштовае адпраўленне;
5) *аператыўны* — здольны хутка і правільна выконваць практычныя задачы.

***А15. Адзначце словы з аднолькавымі прыстаўкамі:***
1) абстрэл; 3) абуральны; 5) абшыўка.
2) абстрактны; 4) абходчык;

***А16. Адзначце словы, якія маюць аднолькавую марфемную будову:***
1) высакародны; 3) недасягальны; 5) упрыгожаны.
2) неахвотна; 4) заскочыўшы;

***А17. Адзначце назоўнікі, якія адрозніваюцца родам у рускай і беларускай мовах:***
1) прастора; 3) камода; 5) гар.
2) глыб; 4) салата;

***А18. Адзначце абстрактныя назоўнікі:***
1) сантыметр; 3) бадзёрасць; 5) адвага.
2) будынак; 4) нецярплівасць;

***А19. Адзначце правільную форму назоўніка роднага склону:***
1) твара; 4) цэнтнера;
2) гоману; 5) настроя.
3) мядзведзя;

***А20. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***
1) Петрапаўлаўск-Камчацкі, левабярэжны;
2) обер-пракурор, паў-апельсіна;
3) унтэр-афіцэр, малапрыкметны;

4) кілават-гадзіна, нова-барысаўскі;
5) паў Оршы, леў-талстоўскі.

***A21. Адзначце радкі, у якіх усе словы з’яўляюцца лічэбнікамі:***

1) двайны, колькі;
2) сорак, адзінаццацера;
3) удзвюх, падвойны;
4) соценны, адна пятая;
5) трэці, пяцёра.

***A22. Адзначце пераходныя дзеясловы:***

1) наведаць бацькоў;
2) зарабіць грошай;
3) пасябраваць з Аленай;
4) з’есці хлеба;
5) хадзіць па лесе.

***A23. Адзначце характэрныя для сучаснай беларускай мовы формы дзеепрыметнікаў:***

1) пачарнелы снег;
2) прагледжаны сцэнарый;
3) павітаўшаяся жанчына;
4) пракапаны канал;
5) узыходзячае сонца.

***A24. Адзначце граматычныя катэгорыі, якія з’яўляюцца агульнымі для прыслоўя і дзеепрыслоўя:***

4) род;
5) скланенне;
6) нязменнасць;
4) сінтаксічная роля — акалічнасць;
5) лік.

***A25. Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў ужываецца*** *не* ***асобна:***

1. Колькі … капаў няшчасны бядак, гэтак і … дакапаўся да скарбу (*В. Чаропка*).

2. … толькі знікне звер у нас, але й глушэц;а прыйдзе час, што й качкі ... пабачаць людзі (*Я. Лучына*).

3. Нават і … заўважыў спачатку, як … шта асцярожна павяло гусінае пяро паплаўка (*А. Камароўскі*).

4. А калі я … буду ведаць усё пра краіну, то якой бы каштоўнай ... была марка, бацька яе забярэ (*Н. Міцкевіч*).

5. Грынька любіў сваіх меншых брацікаў і сястрычку і на зробленыя грошы ... раз купляў ім цукеркі, марожанае, чаго бацькі ніколі ... рабілі (*Н. Міцкевіч*).

***A26. Адзначце сказы з памылкамі ў правапісе прыназоўнікаў:***

1. «Пэўна, ён лютаранін, — думаў я, — вось і блюзнерыць з святога» (*В. Чаропка*).

2. Я ўвесь час чакаў Ганну са скрухай сардэчнай (*В. Чаропка*).

3. Госці за князем прайшлі ў святліцу,дзе стаялі сталы з стравамі (*В. Чаропка*).

4. Першая з згаданых кніг ёсць у маёй асабістай бібліятэцы (*Г. Макарчык*).

5. Шмат хто іншы са знакамітых людзей звязваў свой лёс з Пастаўшчынай (*Г. Макарчык*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць працяжнікам (працяжнікамі):***

1. Тры кветкі: дзівасіл, валяр’ян, любіста спрадвеку былі абярэгамі для беларускага народа (*А. Сасноўская*).

2. Рыба пайшла на нераст, карова на верас, пчаляр да вулляў, араты ў поле (*У. Ліпскі*).

3. Вяльможныя госці ахнулі да брамы па саляной дарозе пад’ехалі сані, запрэжаныя парай мядзведзяў (*А. Камароўскі*).

4. Ты з мяне бяры прыклад ем больш рыбкі я, таму ногі прыткія (*А. Камароўскі*).

5. Раптам прачнуўся я ад гвалту на двары брахалі сабакі, іржалі коні, гучна крычалі людзі (*В. Чаропка*).

***А28. Адзначце сказы з адасобленымі членамі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Масіўныя дзверы вызваленыя ад тоўстага шпінгалета паволі пачалі адкрывацца (*А. Камароўскі*).

2. Зрэшты пра нацыянальнасць на хутары асаблівай гаворкі не заводзілі (*А. Бутэвіч*).

3. Ран не адчуваючы болю ўскочыў на ногі (*В. Гігевіч*).

4. Выплыві выплыві з завадзі сом дай мне яшчэ раз зірнуць на цябе! (*В. Гігевіч*).

5. Цёця Ліза хворыя вас любяць вы такая добрая клапатлівая (*А. Тулупава*).

***А29. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коску (коскі):***

1. Толькі цяпер мінулае паўстае ў поўны рост і хвалюе … як тэлепраграма «Час» (*В. Ліпневіч*).

2. Як і спрадвеку … найбольш часу забірала змаганне з зеллем (*А. Камароўскі*).

3. Курсанткі сёння не ведалі спачыну, круціліся … як заведзеныя (*А. Камароўскі*).

4. Разы тры Мікола сеяў кроп … як зялёную падкормку сабе (*А. Камароўскі*).

5. Ён знікае … як камень на дно … і ніякіх слядоў … як вецер іх заносіць (*В. Чаропка*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Назва Смольні пайшла ад смалярні якая была недалёка дзе ў катлах кіпелі смольныя карчы і гнаўся шкіпінар (*А. Камароўскі*).

2. Ніна здзівілася пачуўшы раптам рускую мову адказала і ўважліва ўставілася на жанчыну, чакаючы новых пытанняў (*В. Шабалтас*).

3. На развітанне пан пацікавіўся дзе я жыву і паабяцаў прыслаць па мяне (*В. Чаропка*).

4. Я радаваўся душой што такое хараство рукамі людскімі створана ў хвалу божую (*В. Чаропка*).

5. Прырода зладзіла Стасю так што каб і хацеў то не знайшоў бы да чаго прычапіцца (*А. Бутэвіч*).

***А31. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца азначэннямі:***

1. **Засоленае** і **замарынаванае** апускалася ў халодны пограб на драўляныя паддоны.

2. Дзве ямачкі на шчоках пры ўсмешцы прыдавалі ёй **асаблівую** вабнасць.

3. А **тое**, што прыгатуем, у банкетнай зале і пакаштуем.

4. Шматгадовая цыбуля-лізуха **першая** выпстрыквала пасля маразоў, уздымала сакавітае зяленіва.

5. **Трэцяя** частка пляцу ішла пад гарбузы і кабачкі.

(*А. Камароўскі*)

***А32. Адзначце сказы з правільна пастаўленымі знакамі прыпынку пры цытатах:***

1. Як было тутэйшаму «цёмнаму» селяніну, што ўвесь век звекаваў у сваёй вёсцы, не верыць больш дасведчанаму, бываламу і разумнаму супляменніку, што размаўляе на адной з ім гаворцы: «…Я шмат дзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў, і пераканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая» (*Я. Янушкевіч*).

2. Нечакана згадалася: «Рана пташачка запела, каб яе кошачка не з'ела…» (*З. Дудзюк*).

3. «Ну, калі панна Паўлінка так пекна просіць…» — здзівіў Васіль усіх сваім веданнем п'есы Я. Купалы (*А. Бутэвіч*).

4. Пісьменнік Анатоль Бароўскі адлюстраваў непаўторную і таямнічую прыгажосць роднага Палесся, паказаў яе сувязь з загадкава-мудрай, «сатканай з дабрыні і пяшчоты душой палешука-ліцвіна» (*С. Цыбакова*).

5. Леанід Галубовіч паведаміў, што: «у часопісе «Дзеяслоў» выдрукавана нізка вельмі добрых вершаў добрага чалавека Фелікса Баторына».

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Уласнабеларуская лексіка — словы, якія складаюць нацыянальную спецыфіку беларускай лексічнай сістэмы.

2. Этымалогія — раздзел мовазнаўства, які вывучае лексіку, характэрную для пэўнай тэрыторыі.

3. Прафесіяналізмы — словы, якія з’яўляюцца афіцыйнымі назвамі паняццяў навукі, мастацтва, тэхнікі.

4. Архаізмы — назвы рэалій, якія зніклі з рэчаіснасці.

5. Кніжныя словы ўжываюцца пераважна ў навуковай і навучальнай літаратуры, афіцыйных дакументах, публіцыстычных творах.

***В2. Вызначце суадносіны паміж сказамі і іх характарыстыкай.***

| | |
|---|---|
| А. У гэты час ад Рана і Маі зыходзіла лёгкае, чыстае блакітнаватае ззянне, якое ўсе бачылі і якім звычайна свецяцца закаханыя (*В. Гігевіч*).<br>Б. Ціха зоры смяяліся ў вецці, я ж на іх задуменна глядзеў (*Я. Пушча*).<br>В. Раптам пасярод статка адбылося хваляванне; лясныя волаты ўзрушана заварушыліся і скіравалі галовы ў адным напрамку (*А. Брытун*).<br>Г. Пыл, узняты капытамі стомленага каня, доўга асядаў на гарачы пясок (*А. Камароўскі*). | 1. Складаны бяззлучнікавы сказ.<br>2. Складаназалежны сказ з сузалежным аднародным падпарадкаваннем.<br>3. Просты ўскладнены сказ.<br>4. Складаназлучаны сказ.<br>5. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі. |

***В3. Вызначце, якім знакам прыпынку трэба дапоўніць пунктуацыю ў кожным са сказаў. Устанавіце адпаведнасць паміж сказам і яго характарыстыкай.***

| | |
|---|---|
| А. Заставалася адно выйсце батрачыць на багацеяў (*А. Бутэвіч*).<br>Б. У роднамоўных вершах і паэмах Васіля Гадулькі ёсць усё глыбіня думкі і пачуцця, адметная вобразнасць, беззаганная гартоўка радка (*А. Каско*).<br>В. Род ведаў здабыча крэменя — вялікая рызыка (*В. Гігевіч*).<br>Г. Му разумеў, што цяпер самае важнае не выпусціць з дзіды сома (*В. Гігевіч*). | 1. Двукроп’е ставіцца, бо другая частка складанага бяззлучнікавага сказа дапаўняе, раскрывае сэнс першай.<br>2. Працяжнік ставіцца паміж дзейнікам і выказнікам, які выражаны інфінітывам.<br>3. Працяжнік ставіцца пры адасобленым недапасаваным азначэнні, якое выражана інфінітывам з залежнымі словамі.<br>4. Працяжнік ставіцца ў складаным бяззлучнікавым сказе, бо другая частка выражае неадпаведнасць, нечаканы вынік таго, пра што гаворыцца ў першай.<br>5. Двукроп’е ставіцца ў простым сказе пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі. |

***В4. Укажыце нумары пропускаў, на месцы якіх трэба паставіць коску:***

Яшчэ я даведаўся[1] … коннікаў было ў мінулы раз не болей[2] … як дзесяць чалавек[3] … бо толькі палова коней ідзе так[4] … як ідзе конь[5] … калі ў яго на спіне звычайная чалавечая вага (*У. Караткевіч*).

**Тэкст да заданняў В5–В8**

1. Было гэта ў Вялікую Айчынную вайну. 2. Аднойчы на хутар, дзе жыла сям'я Язэпа Мікалаевіча Мацяша, прыйшло некалькі мадзьяраў. 3. Ім нехта паведаміў, што тут ёсць вельмі прыгожы малады конь, якога яшчэ ніхто не запрагаў. 4. Сапраўды, бацька прыхаваў гадаванца за патаемнай сцяной у хляве — не адразу чужынцы змаглі знайсці стрыгунка. 5. Іншаземцы вырашылі забраць яго, але некалькі дзён запар ім гэта не ўдавалася: конік шалёна адбіваўся і не даваўся ў рукі. 6. Гаспадар тлумачыў, што конік малады, буйны і нават ён сам не здольны справіцца з жывёлінай. 7. Але мадзьяры даўмеліся і прывялі ў **двор** нямоглую кабылу. 8. Вядома, малады жарэбчык унюхаў госцю, заржаў і кінуўся да яе. 9. Якраз у гэты момант захопнікі накінулі на яго лейцы, але сесці на коніка ніхто не адважыўся. 10. Жарэбчыка адвялі ў Пескі, у паліцэйскі ўчастак, і вельмі доўга не маглі прыручыць.

*М. Жуковіч, В. Аляксеева*

***В5. Вызначце тып тэксту.***

***В6. Сярод сказаў 3–6 знайдзіце сказ, які звязаны з папярэднім з дапамогай сiнонiма і займенніка. Запішыце нумар сказа.***

***В7. Выпішыце са сказаў 2–4 дзеяслоў, якому адпавядаюць наступныя марфалагічныя прыкметы:***

1) пераходны;
2) незваротны;
3) закончанага трывання;
4) II спражэння;
5) ужыты ў форме прошлага часу.

***В8. Адзначце лексіка-граматычныя характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў 7-м сказе назоўніку:***

1) абстрактны;
2) канкрэтны;
3) 2-га скланення;
4) у форме роднага склону мае канчатак -*а*;
5) у форме меснага склону мае канчатак -э.

## ВАРЫЯНТ II

### ТЭСТ А

***А1. Адзначце словы, у якіх спалучэнне літар*** *дз* ***абазначае адзін гук:***

1) прадзед;
2) адзвінець;
3) адзнака;
4) надзённы;
5) адзываецца.

***А2. Адзначце пары слоў, у якіх націск служыць для адрознення іх граматычнай формы:***

1) ста́лы — сталы́;
2) а́тлас — атла́с;
3) тру́бы — трубы́;
4) велічы́ні — велічыні́;
5) на́сыпка — насы́пка.

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *я:*

1) м...дзведжы;
2) в...раўчаны;
3) гн...здзіцца;
4) ва...жор;
5) в...рашчака.

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *ія:*

1) мемар...льны;
2) б...графія;
3) алімп...да;
4) д...грама;
5) ф...ска.

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны*** ь (*мяккі знак*)***:***

1) проц...ма;
2) вераб...і;
3) кудыс...ці;
4) п...еса;
5) кан...ён.

***А6. Адзначце словы (спалучэнні слоў), дзе прапушчана літара*** *ў (нескладовае)****:***

1) еду ... горад;
2) бакала...р;
3) сакса...л;
4) га...птвахта;
5) архівары...с.

***А7. Адзначце спалучэнні слоў, у якіх прапушчана літара*** *з:*

1) дапамог гру...чык;
2) падка...кі не трэба;
3) заўважаецца ды...гармонія;
4) пачуў про...ьбу;
5) рэ...чык па дрэве.

***А8. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *і:*

1) двух...мпульсны;
2) пера...начыць;
3) з...начаны;
4) звыш...нфляцыя;
5) за...скрыцца.

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара*** *е:*

1) г...рлянда, п...ларгонія;
2) эл...ксір, ба...вікі;
3) с...нсацыя, бег...мот;
4) удал...чынь, камен...ломня;
5) б...расцянка, кол...р.

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) манаства, каменне;
2) птаства, балада;
3) мецца-сапрана, ярастны;
4) баластны, адплыццё;
5) спазніцца, аблічча.

***А11. Адзначце радкі, дзе ва ўсіх словах назіраецца цеканне:***

1) астранаў(ты, ці)ка, ас(тэ, це)роід;
2) увер(ту, цю)ра, ак(то, цё)рскі;
3) с(ты, ці)мул, оп(ты, ці)ка;
4) блакно(ты, ці)к, транспар(ты, ці)р;
5) ма(тэ, це)рыял, ла(ты, ці)нскі.

***А12. Адзначце словы з прыстаўной літарай*** *г:*

1) гісторыя;
2) гэты;
3) Ганна;
4) гарнец;
5) гонар.

***А13. Адзначце правілы арфаграфіі, заснаваныя на марфалагічным прынцыпе:***

1) правапіс зычных *д, т* у спалучэннях *дс, дч, тч;*
2) правапіс літары *з* або *с* у прыстаўках;
3) правапіс зычных *б, д* у прыстаўках;
4) правапіс літары *е* ў часціцы *не;*
5) правапіс літары *я* ў 1-м складзе перад націскам у словах славянскага паходжання.

***А14. Адзначце словазлучэнні, у якіх парушана лексічная спалучальнасць слоў:***

1) суседская вёска;
2) футбольны матч;
3) гвардыі старшыня;
4) навуковы год;
5) вадзяныя пырскі.

***А15. Адзначце словы, у якіх няма канчатка:***

1) па-суседску;
2) цяжка;
3) замаскіраваўшы;
4) патэфон;
5) разгледзеў.

***А16. Адзначце словы, якія маюць аднолькавую марфемную будову:***

1) падрыхтаваць;
2) міралюбівы;
3) заблакітнець;
4) добраахвотна;
5) здзекавацца.

***А17. Адзначце назоўнікі, якія адрозніваюцца родам у рускай і беларускай мовах:***

1) фальш;
2) боль;
3) далонь;
4) цемень;
5) сажань.

***А18. Адзначце радкі, у якіх усе назоўнікі адносяцца да 2-га скланення:***

1) імя, тэатр;
2) бярэмя, пошчак;
3) паратунак, надрыў;
4) акно, барока;
5) стварэнне, кашпо.

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме давальнага склону адзіночнага ліку маюць канчатак -ы:***

1) русалка;
2) сведка (Іван);
3) шчака;
4) беларучка (Аня);
5) калега (Сяргей).

***А20. Адзначце радкі, дзе ўсе словы напісаны правільна:***

1) каменяпад, гросмайстар;
2) механік-вадзіцель, грашоварэчавы;
3) экс-прэзідэнт, жоўта-блакітны;
4) электраверцел, старажытна-беларускі;
5) перакаці-поле, улан-батарскі.

***А21. Адзначце назоўнікі, з якімі спалучаюцца зборныя лічэбнікі:***

1) сасна;
2) боты;
3)кураняты;
4) сані;
5) настаўніца.

***А22. Адзначце дзеясловы закончанага трывання:***

1) маляваць;
2) вярнуцца;
3) паказваць;
4) адштурхваць;
5) прагучаць.

***А23. Адзначце нехарактэрныя для сучаснай беларускай мовы формы дзеепрыметнікаў:***

1) расцвіўшыя кветкі;
2) ахутаны смугой;
3) будуемая хата;
4) загарэўшыйся святлафор;
5) падсыхаючая зямля.

***А24. Адзначце радкі, у якіх правільна суаднесены дзеяслоў і дзеепрыслоўе:***

1) прынесці — прыносячы;
2) адказваць — адказваючы;
3) карміць — пакарміўшы;
4) даверыць — давяраючы;
5) даведацца — даведаўшыся.

***А25. Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў ужываецца*** *ні* ***асобна:***

1. Дагледалі кожную магулінку лесу, поля, лугу, поплаву, нават балота, песталі зямлю, як малое дзіця, абы давала яна скібку хлеба надзённага, без якога ... жыць немагчыма, ... з бяды выбавіцца (*А. Бутэвіч*).

2. Бедавалі, што мала зямлі, няма дзе ... самому разгарнуцца, ... дзяцей на ногі паставіць (*А. Бутэвіч*).

3. Што б ... здарылася з Ганнай, ... пакідай яе (*В. Чаропка*).

4. І чаго ляцець за далягляды, і чаго імкнуцца ў белы свет, калі там табе ... хто ... рады і ... будзеш ласкаю сагрэт? (*Х. Жычка*).

5. Без звяроў, птушак, матылёў, мурашоў, дрэў, зорак паэт Аляксей Пысін не ўяўляе ... свайго жыцця, ... сваіх вершаў (*В. Карамазаў*).

***А26. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы пішуцца злітна:***

1. Зразумела, што сёння лабарскай мовай ніхто не карыстаецца, **за (тое)** на Брэстчыне добра ведаюць фальклорны гурт «Лабары» Іванаўскага раённага Дома культуры (*Г. Макарчык*).

2. Выкапаўшы бульбу, гаспадар колькі дзён трымаў яе **(на) версе** пограба, каб падсохла (*А. Камароўскі*).

3. У замку, **з (боку)** выязной брамы, быў невялікі пакой, поўнасцю засланы сенам, а па ім пакрыты дываном (*А. Камароўскі*).

4. Сын прыйшоў дадому **як (раз)** у свой час, ён нідзе пасля працы асабліва не затрымліваецца (*Т. Гарэлікава*).

5. Мы прыйшлі да яе **ў (чатырох)**, да высокай прывабнай жанчыны (*Г. Тарасевіч*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць працяжнікам:***

1. Морач на Клеччыне, безумоўна, вельмі спеўная вёска (*Д. Кулеш*).

2. Усё начынне: плуг, воз, барану, вупраж у сакавіку гаспадар мусіў агледзець (*З. Дудзюк*).

3. Уся прыгажосць жанчыны ў вачах таго, хто яе кахае (*Я. Сіпакоў*).

4. Соф'я Гальшанская апошняя жонка польскага караля Ягайлы (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

5. Жуль Верн адзін з самых славутых у свеце пісьменнікаў-фантастаў.

***А28. Адзначце сказы з некалькімі радамі аднародных членаў:***

1. Галоўны кухар пасылаў заплаканага Данілу чысціць сцерлядзь і асятроў, прывезеных з Прыпяці ці Дняпра (*А. Камароўскі*).

2. Зязюлі голас падавалі, надвор'е добрае прадказвалі, новыя гады людзям адлічвалі (*У. Ліпскі*).

3. Трое рыбакоў і сом круціліся на водмелі, падымаючы пырскі, з шумам каламуцячы ваду (*В. Гігевіч*).

4. Як я любіў чытальныя залы, гэтую цішыню, паліцы з кнігамі, свежыя часопісы і газеты! (*Н. Гальпяровіч*).

5. Том выдатна бегаў на доўгія дыстанцыі, па-майстэрску вадзіў матацыкл, машыну, умеў чаканіць па медзі (*Н. Гальпяровіч*).

***А29. Адзначце сказы з адасобленымі азначэннямі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Нам адчыніў чалавек вельмі падобны на пасланца (*В. Чаропка*).

2. Не буду ласкавы чытач пераказваць табе змест нашай гутаркі (*В. Чаропка*).

3. Па прыступках мы спусціліся ўніз у лёхі асветленыя ліхтарамі (*В. Чаропка*).

4. Захопленыя паэтычным настроем хлопцы забыліся і пра наваколле (*А. Бутэвіч*).

5. Сонін муж фельчар Лепейка зараз у адпачынку (*А. Тулупава*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць дзвюма коскамі.***

1. У байкаслоўе пра разбойнікаў якія падарожных абдзіраюць я не верыў і была мне вольная дарога да Вільні (*В. Чаропка*).

2. Імгненні раставалі як снег на далоні і нельга было іх затрымаць (*В. Чаропка*).

3. Фёдар выйшаў на вуліцу і спыніўся не ведаючы куды ісці (*Н. Міцкевіч*).

4. Я прапанаваў: «Свет гэты вялікі і калі нам тут няма месца то знойдзем сабе іншы край» (*В. Чаропка*).

5. Мы дзеці моўчкі глядзелі на ўсё што адбывалася і амаль нічога не разумелі (*Н. Алейнік*).

***А31. Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Мы са Сцяпанам прывезлі мяшок *нарэзаных* яблыкаў, бручкі, бульбачкі для зуброў (*А. Брытун*). | 1. Выказнік. |
| Б. Тэма народнага жыцця *цэнтральная* ў паэзіі Францішка Багушэвіча (*Я. Янушкевіч*). | 2. Дапаўненне. |
| В. Іван ужо шкадаваў, што дарэмна вынес на чужы досвед сваё *таемнае* (*А. Бутэвіч*). | 3. Акалічнасць. |
| Г. Тур выйшаў на край поля *пашчыпаць* сакавітую азіміну (*А. Камароўскі*). | 4. Дзейнік. |
| | 5. Азначэнне. |

***А32. Адзначце сказы з правільна пастаўленымі знакамі прыпынку пры цытатах:***

1. Нельга не пагадзіцца з А. Карлюкевічам і ў тым, што «Адам Іосіфавіч Мальдзіс ва ўсе гады сваёй руплівасці быў і застаецца Краязнаўцам з вялікай літары» (*Г. Макарчык*).

2. Э. Ажэшка часта згадвала Францішка Багушэвіча: «…Ён чытаў мне свае беларускія творы і нават пакінуў мне іх копіі з асобным вершам, таксама напісаным па-беларуску, адрасаваным мне» (*Я. Янушкевіч*).

3. Аб тым, што Уладзімір Ліхадзееў, кажучы ягонымі словамі, «выходзіць на дастаткова шырокія прасторы», сведчаць яго развагі наконт гісторыі Полацкай зямлі і самога Полацка (*А. Карлюкевіч*).

4. Пасля дыспуту пан пайшоў са мной і прамаўляў, што: «Многа бязлепіцы нагаварылі нам» (*В. Чаропка*).

5. Крытык Лада Алейнік падкрэслівае, што «для сучаснага чытача творы Уладзіміра Карпава — найкаштоўнейшая скарбніца дакументальных фактаў і гістарычных звестак, асобных лаканічных замалёвак і буйных разгорнутых ілюстрацый» («Полымя»).

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Гукі [д], [дз′] не могуць быць на канцы слова.

2. У беларускай мове гук [ц′] парны па цвёрдасці–мяккасці гуку [ц].

3. Аснова нязменнага слова заўсёды складаецца толькі з кораня.

4. Па наяўнасці даданых членаў сказы падзяляюцца на няўскладненыя і ўскладненыя.

5. Па мэце выказвання сказы падзяляюцца на апавядальныя, пабуджальныя і пытальныя.

***В2. Вызначце суадносіны паміж сказамі і іх характарыстыкай.***

| | |
|---|---|
| А. На мове сваёй Айчыны песні спяваць. | 1. Назыўны. |
| Б. У шчыльнай сябрыне за чаем гаворку пра дружбу вядзём. | 2. Двухсастаўны няпоўны. |
| В. Сягоння з бацькамі і дзеці — двух валанцёраў сыны. | 3. Пэўна-асабовы. |
| Г. Бясцэнны скарб штодня сюды вязуць — пяшчотаю зацепленую дружбу. *М. Мятліцкі* | 4. Няпэўна-асабовы. |
| | 5. Інфінітыўны. |

***В3. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай з пункту гледжання вытрыманасці граматычных (марфалагічных і сінтаксічных) норм.***

| | |
|---|---|
| А. Мы не толькі дзяліліся думкамі пра вартасць Васілёвых вершаў і паэм, а і ўспамінамі пра сустрэчы з ім, пасля якіх выносілі яркія ўражанні ад прачытанага і ад асобы аўтара (*А. Каско*). | 1. Граматычныя нормы не парушаны. |
| Б. Убачыўшы гэтую страшную карціну, над палянай пранёсся аглушальны гул чалавечых воклічаў (*А. Брытун*). | 2. Парушаны нормы будовы сказа з дзеепрыслоўным зваротам. |
| В. Шырокі дубовы стол, здаецца, угнуўся пад цяжарам шэсцьдзясят двух локцяў, якія застылі ў чаканні шэф-повара (*А. Камароўскі*). | 3. Памылка ва ўтварэнні формы лічэбніка. |
| Г. Яўсей Пух пайшоў ад Гардзея расчараваны, а гаспадар застаўся задаволены: не будзе гэтая няздара назаляць пустымі размовамі (*З. Дудзюк*). | 4. Парушаны нормы будовы сказа з аднароднымі членамі. |
| | 5. Памылка ў дапасаванні займенніка да назоўніка. |

***В4. Вызначце суадносіны паміж складаназалежнымі сказамі і тыпамі даданых частак.***

| | |
|---|---|
| А. Ніякі чалавек, нават самы разумны, не здатны стварыць тое, што зрабіў Бог (*З. Дудзюк*). | 1. Спосабу дзеяння. |
| Б. Як засмяглы конь пасля ворыва, брыгадзір прыпаў да пітва і за глыткоў пяць апалавініў слоік (*А. Камароўскі*). | 2. Дзейнікавая. |
| В. Дзядзька разумеў пляменнікавы хваляванні і паабяцаў дапамагчы паставіць хату, дзе маладыя змогуць уладкаваць уласнае жыццё (*З. Дудзюк*). | 3. Дапаўняльная. |
| Г. Дзіўна, як лёгка і хутка сыходзяцца маладыя людзі! (*В. Гігевіч*). | 4. Параўнальная. |
| | 5. Азначальная. |

## Тэкст да заданняў В5–В8

1. Як было дамоўлена, назаўтра збіраліся паказаць каралю скарбніцу Радзівілаў. 2. Што ўяўлялі сабой скарбніцы старадаўніх магнацкіх родаў, цяпер цяжка апісаць. 3. Іх лепей было б назваць малымі музеямі [1]даўніны ў шырокіх межах, пачынаючы ад косткі [2]мамантa і [3]рога адзінарога, вялізных зубровых і ласіных рагоў, ад цудоўных [4]паясоў са скур казачных звяроў і да [5]карцін, статуй — там было поўна ўсяго. 4. Скарбніцы былі перапоўнены таксама рознай зброяй, амуніцыяй, ваенным рыштункам.

5. З пакалення ў пакаленне пераходзілі падарункі ад рымскіх пап, каралёў, ваенная здабыча, набытак за час замежных падарожжаў. 6. Праўда, са скарбніц бралася нешта на падарункі, якія ў тыя часы былі ў нас традыцыяй — рэдкае гасцяванне абыходзілася без іх, але самае каштоўнае заставалася ў сям'і.

7. Са старадаўніх манускрыптаў можна атрымаць пэўнае ўяўленне пра багацце польскіх магнатаў, але там нічога не напісана пра скарбы такога роду, як радзівілаўскі. 8. **Прыхамаці**, на якія заўжды былі здатныя прадстаўнікі гэтага роду, падарожжы, дары манархаў дазволілі назапасіць самыя разнастайныя прадметы нечуванай рэдкай каштоўнасці. 9. Спадчына караля Яна Трэцяга, нядаўна атрыманая Радзівіламі, узбагаціла нясвіжскія скарбы каштоўнымі сведчаннямі паходаў караля на турак.

10. Чаго толькі не было ў гэтых трох вялізных залах, пачынаючы ад мноства карцін, габеленаў і аж да дванаццаці драўляных коней у поўным рыштунку — са збруяй, сёдламі і надзвычай прыгожай зброяй рэдкай работы!

*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*

***В5. Сярод сказаў 3–6 вызначце складаны з рознымі відамі сувязі. Запішыце нумар сказа.***

***В6. Дапішыце сказ:*** *Сродкам сувязі 1-га і 2-га сказаў з'яўляецца…*

***В7. Вызначце, якія з пранумараваных у 3-м сказе слоў мнагазначныя. Адзначце нумары гэтых слоў.***

***В8. Адзначце лексічныя прыкметы, якія адпавядаюць слову, выдзеленаму ў 8-м сказе:***

1) агульнаўжывальнае;
2) абмежаванага ўжывання;
3) сінонім — дзівацтва;
4) запазычанае;
5) устарэлае.

## ВАРЫЯНТ ІІІ

### Тэст А

***А1. Адзначце словы, у якіх спалучэнне літар*** *дж* ***абазначае адзін гук:***

1) аджарац;
2) паджылкі;
3) джэм
4) аджартавацца;
5) паджаўціць.

***А2. Адзначце словы з няправільна пастаўленым націскам:***

1) крыху́; 3) ра́кушка; 5) укра́інец.
2) шэсцьдзяся́т; 4) таварышы́;

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *а:*

1) поруч...нь; 3) майст...р; 5) кр...дытаздольнасць.
2) р...дактар; 4) світ...р;

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *еа:*

1) р...кцыя; 3) т...рэма; 5) г...лагічны.
2) ген...логія; 4) гел...троп;

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны апостраф:***

1) здароў...е; 3) сузор...е; 5) урал...скі.
2) Мал...ер; 4) п...яўка;

***А6. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *у (складовае):*

1) опі...м; 3)кампенды...м; 5) літа...ры.
2) бра...нінг; 4) стра...с;

***А7. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *ж:*

1) му...чына; 3) старо...ка; 5) бікла...ка.
2) лі...ба; 4) перабе...чык;

***А8. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *ы:*

1) про...грыш; 3) спад...спаду; 5) супер...нтэлект.
2) пад...ход; 4) дэз...нтэгратар;

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара*** *э:*

1) канц...лярыя, ...підэмія;
2) лід...р, т...хнічны;
3) ж...тон, др...ваапрацоўка;
4) д...лікатны, шніц...ль;
5) ка...фіцыент, сурв...тка.

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) праязны, віскнуць;
2) бразгнуць, шчаслівы;
3) абласны, фарпосны;
4) помстлівы, Мекка;
5) капусны, саванна.

***А11. Адзначце спалучэнні слоў, у якіх на месцы пропуску пішацца прыстаўная галосная літара*** *і:*

1) у ...льняным касцюме;
2) заарaлі ...ржышча;
3) дождж ...мжыць;
4) не прывык ...лгаць;
5) набыў ...льготны білет.

***А12. Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі парамі слоў і іх характарыстыкай.***

| | |
|---|---|
| А. **Незвычайная** памяць — **неверагоднае** здарэнне. | 1. Амонімы. |
| Б. **Ордэн** «Знак Пашаны» — Тэўтонскі **ордэн**. | 2. Мнагазначныя словы. |
| В. Аб’ява па **селектары** — работа **селекцыянера**. | 3. Паронімы. |
| Г. **Выпісаць** з кнігі — **выпісаць** хворага. | 4. Сінонімы. |
| | 5. Антонімы. |

***A13. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *с:*

1) рас...цілаць; 3) ра...шчапіць; 5) рос...тань.
2) падрэ...ка; 4) у...бегчы;

***A14. Адзначце словазлучэнні, у якіх парушана лексічная спалучальнасць слоў:***

1) каралеўская світка; 4) прадуктыўная дзейнасць;
2) эскадрылля мінаносцаў; 5) дзейсны сродак.
3) прадукцыйная жывёлагадоўля;

***A15. Адзначце словы, у якіх суфікс выдзелены правільна:***

1) спрынт***ар***; 3) грэйд***ар***; 5) маўкл***івы***.
2) пачу***ццё***; 4) па-розн***аму***;

***A16. Адзначце словы, будова якіх адпавядае схеме:*** *прыстаўка + корань + суфікс + суфікс:*

1) заручыны; 3) бессюжэтны; 5) пералавіўшы.
2) забракаваўшы; 4) беспрабудна;

***A17. Адзначце назоўнікі, якія адрозніваюцца родам у рускай і беларускай мовах:***

1) мазоль; 3) насып; 5) дрэва.
2) жаль; 4) сухмень;

***A18. Адзначце радкі, у якіх усе назоўнікі адносяцца да 3-га скланення:***

1) косць, ясень; 4) глянец, кроп;
2) тамат, чырвань; 5) бездань, Нарач.
3) адлегласць, глухмень;

***A19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме адзіночнага ліку меснага склону маюць канчатак -і:***

1) дэндрарый; 3) стайня; 5) госць.
2) палетак; 4) зямля;

***A20. Адзначце радкі, дзе ўсе словы напісаны правільна:***

1) гарыхвостка, давыд-гарадоцкі;
2) Верхнядзвінск, беласнежны;
3) штаб-афіцэр, днепрабугскі;
4) Доўнар-Запольскі, пуэрта-рыканец;
5) змеяед, далёкаўсходні.

***A21. Адзначце лічэбнікі, якія скланяюцца так, як і прыметнік:***

1) дваццаць тры; 4) сямнаццаты;
2) трацічны; 5) дзвесце трыццаць пяць.
3) васьмідзясяты;

***A22. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 2-й асобы множнага ліку цяперашняга або простага будучага часу абвеснага ладу напісаны правільна:***

1) аддаеце; 3) лежыцé; 5) стукніце.
2) сцеражыце; 4) кладзяцé;

***А23. Адзначце дзеепрыметнікі з суфіксам -н- :***

1) засеянае поле;
2) пафарбаваныя дзверы;
3) стрыманы ў пачуццях;
4) уезджаная дарога;
5) ветранае надвор'е.

***А24. Адзначце граматычныя катэгорыі, агульныя для дзеяслова і дзеепрыслоўя:***

1) пераходнасць — непераходнасць;
2) лік;
3) час;
4) зваротнасць — незваротнасць;
5) трыванне.

***А25. Адзначце сказы, у якіх*** *не* ***пішацца асобна:***

1. Іван яшчэ больш улягаў у працу, каб ёю задушыць любыя (н...) дазволеныя памкненні.

2. Іван намагаецца даказаць, што ён ні кропелькі (н...) горшы за шляхцюкоў.

3. Былі сярод тутэйшага люду і тыя, хто (н...) супраць палавіць рыбку ў каламутнай вадзе.

4. Часу ў мяне (н...) стае, клопатаў па хаце звыш галавы.

5. Сцяна дажджу рухалася разам з (н...) спыннымі маланкамі і аглушальнымі раскатамі грому.

*А. Бутэвіч*

***А26. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы пішуцца асобна:***

1. Стала відавочна, **(на) колькі** на Іванаўшчыне зліваюцца ў адно цэлае два падыходы да культуры — падзвіжніцкі і дзяржаўны (*Г. Макарчык*).

2. Прасіў я ў князя дазволу выйсці супраць звера на бой, хацеў адвагай сваёй заслужыць увагу Ганны, **(на) што** і атрымаў яго згоду (*В. Чаропка*).

3. **(На) заўтра** ездзілі мы вярхом на конях (*В. Чаропка*).

4. **(На) чале** вясковых актывістаў у Крачках быў Захар Маркевіч (*З. Дудзюк*).

5. У Варшаве Зося працавала на пана **(на) працягу** двух гадоў (*З. Дудзюк*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць працяжнікам:***

1. Максіма Багдановіча пераканалі, што сабраныя грошы гэта аванс пад будучую кнігу, над якой ён будзе працаваць у Ялце (*Б. Мікуліч*).

2. Ты нібы сонца весняе, што ад нягод захінае (*М. Шабовіч*).

3. Змоўкне гармонік скончыцца танец (*З. Дудзюк*).

4. Зэльва радзіма мужа славутай паэткі Ларысы Геніюш («*Полымя*»).

5. Радэн прымусіў Камілу пахудзець і спалохаўся дзяўчына зрабілася зусім маладою, нават юнаю (*Я. Сіпакоў*).

***А28. Адзначце сказы, у якіх аднародныя члены звязаны размеркавальнымі злучнікамі:***

1. Асабліва звонка ваўчок екатаў, калі бачыў калючага вожыка ці шумных вераб'ёў (*В. Гігевіч*).

2. Ты мне ў душу не зазірай ні ноччу, ні пры ясным дні (*Г. Аўласенка*).

3. Цень вераснёвы ці быў, ці то проста здалося (*Н. Бурдзейка*).

4. Ран ведаў, што пад паверхняю ракі моцнае цячэнне запраста зносіць як чалавека, так і звера (*В. Гігевіч*).

5. І нічога тут страшнага альбо смешнага хлопец не бачыць (*А. Бутэвіч*).

***А29. Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх прапушчаны неабходныя знакі прыпынку:***

1. Але куды ты пойдзеш і хто табе дапаможа?(*З. Дудзюк*).

2. Холад здаўся часовым падманам ды туман далягляд засмуціў (*Н. Маеўская*).

3. Алена сказала пра мужа праўду Кацярыне — і ўжо яна быццам не адна са сваім горам (*Т. Гарэлікава*).

4. У сабакі напружыліся мускулы і бязгучна ашчэрылася пашча (*А. Брытун*).

5. Дрыготкі агеньчык грамнічнае свечкі трымціць а воск сцякае слязамі (*Т. Сямёнава*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Як шкада як балюча бачыць тое што было такім дарагім і родным стала знявечаным і дзікім (*Н. Алейнік*).

2. Маня і сказала б тое што думае але нехта нібыта папярэдзіў: навошта бяросту на вуголле кідаць? (*А. Бутэвіч*).

3. Ехалі на радзіму Андрэя туды дзе прыгожы Нёман уплятаўся ў аксамітныя косы лугоў (*А. Камароўскі*).

4. Як хораша ў раннім бязмежжы ісці па забытай алеі дзе лісце ў тумане мярэжыць і сонца смялее, смялее (*У. Марук*).

5. Цяжка растлумачыць чаму так прыцягваў голас Ларысы Александроўскай і на чым заснавана яе сцэнічнае абаянне (*А. Ладыгіна*).

***А31. Адзначце сказы з адасобленымі акалічнасцямі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Было ў новага начальніка адно захапленне паляванне з сокаламі (*А. Брытун*).

2. Такім чынам нягледзячы на сваю маладосць і сіроцтва Гардзей лічыўся ў вёсцы добрым і разумным гаспадаром (*З. Дудзюк*).

3. Сабака паслухмяна сеў на вызначанае яму месца (*А. Брытун*).

4. Аматар вытанчанай разумнай гаворкі ён акружыў сябе адукаванымі людзьмі (*С. Саўко*).

5. Малады прафесар займаючыся выкладаннем і навукай адначасова працягваў рэвалюцыйную дзейнасць (*М. Бандарэнка*).

***А32. Адзначце сказы з чужой мовай, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. І тут хочацца згадаць адно выказванне класіка французскай літаратуры Бальзака, што «Паляпшаць норавы свайго часу — вось мэта, да якой павінен імкнуцца кожны пісьменнік» (*Р. Баравікова*).

2. Раіў ён мне такое: «Пане, ніколі не схіляйся перад сілай: сіла слабее перад годнасцю» (*В. Чаропка*).

3. «Рашучы штуршок беларускаму руху надала кніжка Мацея Бурачка “Дудка беларуская”, якая выйшла ў Кракаве ў 1891 годзе на беларускай мове», — канстатаваў Яфім Карскі (*Я. Янушкевіч*).

4. Усё наша вернецца нам па справах нашых, — згадзілася Каця (*З. Дудзюк*).

5. Каця, якая нешта шыла, седзячы за ручною машынкаю, узрадавана ўскінула на госця вочы і сказала:

« — Зусім ты забыў да нас дарогу, Гардзей» (*З. Дудзюк*).

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. У беларускай мове дзесяць літар служаць для абазначэння шасці галосных гукаў.

2. Сказы, у якіх прапушчаны той ці іншы галоўны або дадаткі член сказа, называюцца няпоўнымі.

3. Зваротак з′яўляецца членам сказа.

4. Марфалогія — раздзел мовазнаўства, які вывучае марфемы.

5. Прыназоўнік *па* ужываецца толькі з месным склонам.

***В2. Вызначце суадносіны паміж складаназалежнымі сказамі і тыпамі даданых частак.***

| | |
|---|---|
| А. Часам Міхась Назан так глыбока залазіў у свае думкі-меркаванні, што ледзь выбіраўся на ратавальны бераг (*А. Бутэвіч*). | 1. Акалічнасная меры і ступені. |
| Б. Тое, што так хораша рынулася ў рост, пачало памалу марнець, блякнуць, губляць сваю вабнасць і раскошу (*А. Камароўскі*). | 2. Азначальная. |
| В. Запомніўся Міхасю Мацейкаў сказ пра тое, адкуль ліха ўзялося на свеце (*А. Бутэвіч*). | 3. Дапаўняльная. |
| Г. Акурат тады Іван згадзіўся абрабляць зямлю нясвіжскаму ксяндзу, у якога паўсюль былі надзелы (*А. Бутэвіч*). | 4. Дзейнікавая. |
| | 5. Параўнальная. |

***В3. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай з пункту гледжання вытрыманасці граматычных (марфалагічных і сінтаксічных) норм.***

| | |
|---|---|
| А. — Беражы Маланню, Рыгорка, — працягвала размову старая. — Табе вельмі пашанцавала, кахае яна цябе. Я яе выхоўвала з самога маленства ў строгасці (*А. Брытун*).<br>Б. Адчуўшы нешта нядобрае, давялося клікаць домакіраўніка і міліцыянера (*Н. Міцкевіч*).<br>В. Я паслаў ужо некалькіх стралкоў па Сцяпана (*А. Брытун*).<br>Г. У пакоі, адведзеным для дзяўчат, ужо жылі сямёра ўкраінак (*З. Дудзюк*). | 1. Граматычныя нормы не парушаны.<br>2. Памылка ва ўжыванні лічэбніка.<br>3. Памылка ва ўжывані займенніка.<br>4. Парушаны нормы будовы сказа з дзеепрыслоўным зваротам.<br>5. Парушаны нормы будовы сказа з дзеепрыметным зваротам. |

***В4. Колькі лічэбнікаў у наступным сказе? Пазначце адказ адпаведнай лічбай.***

Недзе тут, у самых нетрах, развальваючы лычамі мурашнікі, мясілі рыхлы снег тры старыя ўчарнелыя секачы, чатыры замацярэлыя дзічыхі, каля дзясятка даволі ладных шэрых падсвінкаў, дзясяткі два паўтарагадовых парасят, на баках якіх не сышлі яшчэ палосы (*А. Камароўскі*).

**Тэкст да заданняў В5–В8**

1. На другі дзень раніцай павезлі паказваць навакольныя мясціны. 2. Важныя замежныя госці доўга рассаджваліся ў карэты і брычкі. 3. Па камандзе генерала Зялёнага працэсія кранулася з галоўнай сядзібы ў пушчу. 4. Лясной дарогай усе з цікавасцю глядзелі вакол і захапляліся векавымі дрэвамі. 5. Навакольная прыгажосць выклікала захапленне ў іншаземцаў. 6. Якраз у пушчы стаяла залатая восень. 7. Дрэвы афарбаваліся ў розныя колеры і выглядалі нібы спецыяльна прыбраныя. 8. Здавалася, пушча гарыць рыжым, чырвоным, пурпурным, залатым агнём. 9. Навакольны векавы лес быў сапраўды казачна прыгожы.

10. Вось госці паглыбіліся ў самую глухмень пушчы, дзе давялося спыніцца. 11. Ім прапанавалі ісці далей пешшу. 12. Наперадзе крочыў Ціхан, за ім обер-фарстмайстар Фёдар Канстанцінавіч, генерал Зялёны і замежныя госці. 13. Рыгор пабег **папярэдзіць** стралкоў, каб былі гатовыя. 14. Каля ўваходу ў тунэль з высокіх раскідзістых дрэў, густа пераплеценых ліянамі, не міргаючы вокам, як варта ў палацах, стаялі два рослыя стралкі.

15. Госці з цікавасцю, адзін за адным, пачалі ўваходзіць у тунэль.

*А. Брытун*

***В5. Вызначце, якая з прыведзеных характарыстык адпавядае дадзенаму тэксту:***

1) мастацкі стыль;
2) публіцыстычны стыль;
3) тып тэксту — апісанне;
4) тып тэксту — апавяданне з элементамі апісання;
5) задача тэксту — паказаць прыгажосць восеньскага пушчанскага лесу.

***В6. У сказах 4-8 знайдзіце адносны прыметнік, ужыты ў значэнні якаснага, і выпішыце яго ў пачатковай форме.***

***В7. У сказах 5–7 знайдзіце словы, будова якога адпавядае схеме:*** *прыстаўка + корань + суфікс + суфікс + суфікс + канчатак + постфікс.* ***Выпішыце гэтае слова.***

***В8. Вызначце сінтаксічную функцыю выдзеленага ў 13-м сказе слова. Запішыце адказ у форме творнага склону.***

## ВАРЫЯНТ IV

### ТЭСТ А

***А1. Адзначце словы з аднолькавай колькасцю літар і гукаў:***

1) прыкроіць; 3) субсідзіраванне; 5) п′еса.
2) раіць; 4) ядловец;

***А2. Адзначце пары слоў, у якіх націск служыць для адрознення іх лексічнага значэння:***

1) ду́хі — духі́; 4) пра́гнуць — прагну́ць;
2) гра́мы — грамы́; 5) звалі́цца — зва́ліцца.
3) ту́га — туга́;

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *о**:***

1) выс...катраўе; 4) в...гнетрывалы;
2) р...знакаляровы; 5) в...льналюбівы.
3) шыр...карадны;

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *ыё**:***

1) патр...т; 3) кард...лаг; 5) ід...лаг.
2) акс...ма; 4) баст...н;

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны апостраф:***

1) Юр...еў; 3) Кандрац...еў; 5) мадз...яр.
2) біл...ярд; 4) б...ецца;

***А6. Адзначце словы (спалучэнні слоў), у якіх прапушчана літара*** *ў (нескладовае)**:***

1) а...кцыён; 3) гарэза - ...нучка; 5) поды...м.
2) увесь ... маці; 4) пакга...з;

***А7. Адзначце словы (спалучэнні слоў), у якіх прапушчана літара*** *ш:*

1) у...чынаць; 3) збіраць ...чаўе; 5) пры...чапіць.
2) бе...чалавечны; 4) разно...чык;

***А8. Адзначце словы, ў якіх прапушчана літара*** *ы:*

1) аб...мшэлы; 4) сан...нструктар;
2) контр...дэя; 5) звыш...мклівы.
3) дэз...нфіцыраваць;

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара*** *а:*

1) ш...разём, шч...бятаць; 4) кр...пасны, чырв...нафлоцкі;
2) Антары..., ш...вялюра; 5) карц...р, д...ўгатэрміновы.
3) м...раплаванне, выкр...сліць;

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) бязлітасны, расада;
2) колькасны, манна (крупа);
3) скарастны, Ганна;
4) жаластлівы, Палессе;
5) зайдросны, расаднік (у агародзе).

***А11. Адзначце спалучэнні слоў, у якіх на месцы пропуску пішацца прыстаўная галосная літара*** *і:*

1) убачыў ...львяня; 4) рыба пад ...льдом;
2) дрот ...ржавы; 5) наступнае ...мгненне.
3) спякла ...ржаны хлеб;

***А12. Адзначце словы (спалучэнні слоў), у якіх прапушчана літара:***

1) без ...лгання; 3) ...оканне; 5) на...оддаль.
2) ...усцішна; 4) ...онікс;

***А13. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *з:*

1) ...эканоміць; 4) ...ыходзіць (па лесвіцы);
2) ...ымправізаваць; 5) ...чарнець.
3) ...ыходзіць (з меркаваннях);

***А14. Адзначце словазлучэнні, у якіх парушана лексічная спалучальнасць слоў:***

1) балотная птушка; 4) скурнае паліто;
2) эфектныя жэсты; 5) абагульненая маёмасць.
3) крамяны баравік;

***А15. Адзначце словы з прыстаўкай*** *пад-* ***:***

1) падатак; 3) падагульненне 5) падборка.
2) падабрэць; 4) падарунак;

***А16. Адзначце словы, утвораныя ад дзеясловаў:***

1) паваротлівы; 4) кавальства;
2) мерзлата; 5) перагародка.
3) афарбоўка;

***А17. Адзначце назоўнікі мужчынскага роду:***

1) кішэнь; 3) кіпень; 5) гусь.
2) вір; 4) скронь;

***А18. Адзначце радкі, у якіх усе назоўнікі адносяцца да 1-га скланення:***

1) мужчына, нарада; 4) лямпа, кніга;
2) стараста, будаўніцтва; 5) Таня, Пеця.
3) пустэльня, санацыя;

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме адзіночнага ліку меснага склону маюць канчатак -у:***

1) стараста; 3) двор; 5) беларучка (Віця).
2) зямляк; 4) дуб;

***А20. Адзначце правільнае напісанне прыметнікаў у словазлучэннях:***

1) Толіна куртка; 4) ад бацькава парога;
2) бацькоўскі дом; 5) да лесніковае сядзібы.
3) дзядулева парада;

***А21. Адзначце лічэбнікі, якія напісаны няправільна:***

1) васямнаццаць; 3) стотысячны; 5) дзевяноста.
2) васьмы; 4) дзве сёмых;

***А22. Адзначце сказы з дзеясловамі, якія ўжыты ў форме загаднага ладу:***

1. Цяпер дзяўчына не сумнявалася, што аднойчы сустрэне сваё шчасце.
2. Пойдзем хутчэй адсюль, далей ад сабачага галасу.
3. Дзяўчыне даравалі б грэх, ніхто ніколі не папракнуў бы нават.
4. «Не чапай Зосю, няхай паспіць», — параіла дачцэ Агатэля.
5. Цьмянае святло напоўніла прастору хаты.

*З. Дудзюк*

***А23. Адзначце дзеепрыметнікі, у якіх на месцы пропуску пішацца літара е:***

1) разве...ны; 3) вызвал...ны; 5) адчын...ны.
2) насто...ны; 4) пасе...ны;

***А24. Перакладзіце на беларускую мову дзеепрыслоўі закончанага трывання і запішыце іх:***

1) играя; 3) наблюдая; 5) задумавшись.
2) объяснив; 4) встречая;

***А25. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, у якіх словы з** не **(**ня**) пішуцца разам:***

1) (не) гарачы, а прахалодны дзень;
2) работа (не) праверана;
3) (не) знайшоў выхаду;
4) (не) дааціаніўшы сябра;
5) (не) доўгае спатканне.

***А26. Адзначце сказы, у якіх неабходна ўжыць прыназоўнік** са:*

1. Пад дажджавы струмень ... страхі матка падстаўляла пустое вядро, якое напаўнялася ўмірг вока (*А. Бутэвіч*).

2. Па вяртанні ... Старavолі Зося звыкла ўцягнулася ў бясконцы калаўрот сялянскай працы на полі і сенажаці, у хаце і хляве (*З. Дудзюк*).

3. Аканом пан Падгурскі разлічыўся ... наймітамі збожжам (*З. Дудзюк*).

4. Жэня намагалася накрыць Паўліка ... галавой, каб не даймаў бляск маланкі (*А. Бутэвіч*).

5. Хто ... славутых падтрымаў Аляксея Пысіна ў пачатку дарогі? (*В. Карамазаў*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць працяжнікам:***

1. Зоры над палямі бы арэхі (*М. Федзюковіч*).

2. Мы з табой, Аляксей, як нітка з іголкай (*Ул. Ліпскі*).

3. У мяне ёсць такое хобі апісваць старыя паштоўкі (*А. Карлюкевіч*).

4. Дзяўчына спынілася ў здзіўленні два хлопцы пра нешта ажыўлена гамоняць і час ад часу смяюцца (*А. Бутэвіч*).

5. Бульбу змянялі палосы льну, пасевы пшаніцы, аўса, ячменю усяго таго, што патрэбна селяніну для свайго спажывання (*А. Бутэвіч*).

***А28. Адзначце сказы з адасобленымі членамі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Лагодная і сур'ёзная яна асцярожненька паклала на мае калені толькі што народжанае дзіцятка (*Л. Хаб'яновіч-Джуравіч*).

2. Усё сынку давай злазіць з дрэва і збірацца дамоў (*А. Брытун*).

3. На шчасце маці нікога не сустрэла і вярнулася ў вёску (*Н. Міцкевіч*).

4. Паляўнічыя пачуўшы роў мядзведзя збіраліся ісці да дупла (*В. Гігевіч*).

5. Хлопец і дзяўчына цяпер ужо не саромеючыся свайго шчасця тут жа сплялі рукі (*В. Гігевіч*).

***А29. Вызначце часцінамоўную прыналежнасць выдзеленага ў сказе слова.***

| | |
|---|---|
| А. Андрэй за паўмесяца **нават** крыху паправіўся.<br>Б. У жніўні **другая** хваля баравікоў поўніла лес людскімі галасамі.<br>В. Ліпавыя і ядлоўцавыя венікі, мяцёлкі палыну — **усё** гэта спатрэбіцца ў лазні.<br>Г. Квас Ной піў **нагбом** і стараўся з тыдзень амаль нічога не есці.<br>*А. Камароўскі* | 1. Прыметнік.<br>2. Прыслоўе.<br>3. Лічэбнік.<br>4. Займеннік.<br>5. Часціца. |

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Нечаканая здабыча маладых паляўнічых абрадавала род не трэба было ісці на паляванне людзі заняліся іншым (*В. Гігевіч*).

2. Як птушка шчабятала дзяўчына гаворачы пря мясціны ўсцяж якіх мы ішлі (*В. Чаропка*).

3. Хто не заглядаў у Ноеў агарод той не ведае сапраўднага багацця якое родзіць невялікі лапік зямлі, мо сотак з пятнаццаць (*А. Камароўскі*).

4. Цяпло і парнасць гналі ў рост россыпы жаўтлявых лісічак цыбатых падбярозавікаў а падлескі шчодрыліся на ліпкія маслякі (*А. Камароўскі*).

5. Удар дзіды быў такі магутны што яна крэменем наскрозь працяла сома і яе завостраны канец увайшоў у пясчаную водмель (*В. Гігевіч*).

***А31. Адзначце сказы з простым дзеяслоўным выказнікам:***

1. Хата дзядзькі Міколы была другая з краю вёскі.

2. Любаваўся далёкім зубчатым лесам, зялёнымі купамі алешніку на лузе.

3. Сантыметр за сантыметрам пачаў выйграваць Андрэй.

4. Ціха і спакойна было да дня палявання.

5. Высушаныя зёлкі будуць вісець у торбах на шастку ля печы.

*А. Камароўскі*

***А32. Адзначце сказы з чужой мовай, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Муж спытаў мяне: «А ці ўмееш ты, любая, варыць боршч?» — «Пэўна ж, умею», — адказала я. — «А што трэба, каб ён быў смачны? — спытаў мой Мікола. – «Трэба мець добрую свякроў і галоднага мужа», — пажартавала я (*А. Камароўскі*).

2. — Я пайду і прынясу крэмень, — зноўку выгукнуў Сын мядзведзя. — І тады Мая стане маёй жонкай (*В. Гігевіч*).

3. Міла паглядзела здымак і сказала, што ў цябе, Баркавец, вельмі прыгожыя рукі (*Я. Сіпакоў*).

4. Пасля доўгіх дзённых размоў Алесь часта тэлефанаваў вечарам мне і пытаўся: «Я цябе часам не пакрыўдзіў?» (*Н. Гальпяровіч*)

5. «Для лепшае пэўнасці ідзі да яго на службу», — загадаў мне пан ваявода (*В. Чаропка*).

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Назоўнікі змяняюцца па склонах, родах і ліках.

2. Да дробавых лічэбнікаў адносяцца *паўтара (паўтары), паўтараста*.

3. У няпэўна-асабовым сказе дзейнік выражаны няпэўным займеннікам.

4. Многія невытворныя прыназоўнікі бытуюць у мове ў некалькіх варыянтах.

5. Дапасаванне — такі від сінтаксічнай сувязі, пры якім залежнае слова стаіць у родзе, ліку і склоне, што ўласцівыя галоўнаму слову.

***В2. Вызначце суадносіны паміж сказам і яго характарыстыкай.***

| | |
|---|---|
| А. Раптам Гардзей згадаў, як карчаваў з Паўлінаю пень на дровы.<br>Б. Такую працу не ўсякі здаровы мужык пацягне.<br>В. Трэба абкапаць пень, абсячы тоўстае карэнне, вывернуць.<br>Г. Да крывавых мазалёў і знямогі працавалі, а свайго дамагліся.<br>*З. Дудзюк* | 1. Няпэўна-асабовы.<br>2. Складаназалежны.<br>3. Безасабовы.<br>4. Двухсастаўны.<br>5. Пэўна-асабовы. |

***В3. Вызначце, калі ставіцца коска (коскі) у сказах са злучнікам*** *як.* ***Укажыце суадносіны паміж слупкамі табліцы.***

| | |
|---|---|
| А. У віры калгаснага жыцця старшыня адчуваў сябе як рыба ў вадзе (*Ул. Ліпскі*).<br>Б. Уладзімір Карпаў найперш заявіў пра сябе як пра адметнага крытыка, даследчыка літаратуры (*Л. Алейнік*).<br>В. Бацька намагаўся паказаць мне як мага больш новага і незвычайнага (*Н. Міцкевіч*).<br>Г. Бацьку як самага старога і адукаванага чалавека прызначылі на працу ў праўленне калгаса (*Н. Міцкевіч*). | 1. Коска не ставіцца, бо зварот мае значэнне «ў якасці».<br>2. Коска не ставіцца, бо зварот мае значэнне акалічнасці меры і ступені.<br>3. Зварот выдзяляецца коскамі, бо мае акалічнаснае значэнне прычыны.<br>4. Коска не ставіцца, бо зварот з'яўляецца фразеалагізмам.<br>5. Коска ставіцца перад падпарад-кавальным злучнікам, які звязвае дадзеную параўнальную частку з галоўнай у складаназалежным сказе. |

***В4. Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх сінонімамі. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Давацца ў знакі.<br>Б. Аддаваць богу душу.<br>В. Як снег на галаву.<br>Г. Абводзіць вакол пальца. | 1. Як гром з яснага неба.<br>2. Уядацца ў косці.<br>3. Згарнуць рукі.<br>4. Ударыць ў галаву.<br>5. Настаўляць акуляры. |

## Тэкст да заданняў В5–В8

1. Паляўнічыя аглядалі **дзіды** і дубіны. 2. Сёння яны збіраліся ісці ў лес, у той бок, дзе з вечара чуўся рык мядзведзя. 3. Не сакрэт, усе ведалі, чаго роў мядзведзь, нават малыя дзеці, яны торкалі пальчыкамі ў свае галоўкі і казалі: «Дурны мядзведзь робіць сабе тум-тум…»

4. Там, у лесе, на высокай сасне мелася дупло, у якім жылі працаўніцы-пчолкі. 5. Людзі даўно агледзелі яго і бераглі як зрэнку вока, бо пчолкі давалі ім мёд, белы воск, які хаваў у сабе бяздымны агонь, і людзі бераглі пчолак ад настырнага мядзведзя, — той, апроч маліны, надта любіў салодкія соты.

6. На тую высокую сасну даўным-даўно лазовымі моцнымі лыкамі людзі ўцягнулі таўшчэзную дубовую булдавешку. 7. Яе яны падвесілі перад самым дуплом, якраз у тым месцы, дзе з раніцы да вечара гудзелі і лёталі пчолкі, прыносячы на лапках у дупло кветкавую слодыч, і з таго часу ў лесе калі-нікалі чуўся роў мядзведзя.

8. Ускараскаўшыся па гладкім ствале сасны да самага дупла, мядзведзь лапаю спрабаваў залезці ўсярэдзіну, дзе былі жаданыя пахкія соты, але тут незразумела адкуль перад мордаю мядзведзя паяўлялася булдавешка. 9. Лапаю мядзведзь адкідваў яе ўбок; булдавешка вярталася назад і стукала звера па мордзе.

10. Забыўшыся на салодкія соты, мядзведзь распачынаў бойку з настырнай булдавешкаю. 11. Бойка кожны раз заканчвалася адным і тым жа: збіты да крыві, абкусаны злымі пчолкамі, так і не паспытаўшы мёду, касалапы з грукатам падаў з высокай сасны і пачынаў раўці ад болю і роспачы.

*В. Гігевіч*

***В5. Укажыце сродкі сувязі 2-га і 3-га сказаў:***

1) сінонімы;
2) лексічны паўтор;
3) займеннік;
4) пабочнае слова;
5) прыслоўе.

***В6. Вызначце, якая з прыведзеных характарыстык адпавядае тэксту:***

1) навуковы стыль;
2) мастацкі стыль;
3) тып тэксту — разважанне;
4) тып тэксту — апавяданне;
5) задача тэксту — паказаць, як старажытныя паляўнічыя здабывалі сабе ежу.

***В7. У сказах 3–6 знайдзіце фразеалагізм і вызначце яго сінтаксічную функцыю. Адказ запішыце ў форме творнага склону.***

***В8. Адзначце лексіка-граматычныя характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў 1-м сказе слову:***

1) спрадвечна беларускае;
2) мнагазначнае;
3) ужыта ў значэнні «старадаўняя колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам»;
4) прафесіяналізм;
5) ужыта ў форме вінавальнага склону.

## ВАРЫЯНТ V

### Тэст А

***А1. Адзначце словы, у якіх літар больш, чым гукаў:***

1) дабрадзей; 2) краявід; 3) павольна; 4) узвышша; 5) заілены.

***А2. Адзначце словы з правільна пастаўленым націскам:***

1) прасталюдзі́н; 2) ма́рмур; 3) фо́бія; 4) фено́мен; 5) выпа́дак.

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара а:***

1) д...ўгатэрміновы; 2) выс...карослы; 3) п...ўнаводны; 4) в...даахоўны; 5) з...латаносны.

***А4. Адзначце сказы, у якіх прапушчана спалучэнне іё:***

1) фізі...лаг; 2) апаф...з; 3) рац...н; 4) дамін...н; 5) Гес...д.

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны ь (мяккі знак):***

1) ад...ютант; 2) абедз...ве; 3) песен...ка; 4) любан...скі; 5) ліпен...скі.

***А6. Адзначце словы (спалучэнні слоў), дзе пішацца літара у (складовае):***

1) лес ... снезе; 2) сакса...л; 3) аргана...ты; 4) нашу ...нты; 5) па...за.

***А7. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара д:***

1) Навагру...чына; 2) паво...кавы; 3) атрыбу...; 4) дасве...чаны; 5) вопра...ка.

***А8. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара і:***

1) пра...нвентарызаваць; 2) з...ходны; 3) пан...сламізм; 4) транс...ндыйскі; 5) з...мправізаваны.

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара о:***

1) др...бналісты, сыр...ватка;
2) Чыкаг..., чырв...нагвардзейскі;
3) ч...рствы, кур...дым;
4) ж...раў, руж...вашчокі;
5) д...брасумленны, в...сьмы.

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) свістнуць, папараццю;
2) выяздны, падарожжа;
3) веснік, сонца;
4) паслаць, рэкордны;
5) мільярдны, пачэсны.

***А11. Адзначце спалучэнні слоў, у якіх на месцы пропуску пішацца прыстаўная літара в:***

1) блакітнае ...озера;
2) Мінская ...обласць;
3) слухае з ...увагай;
4) добрае ...угнаенне;
5) бяскрыўдны ...уж.

***А12. Адзначце словы, у якіх назіраецца фанетычнае падаўжэнне:***

1) мігценне;
2) робіцца;
3) каленны;
4) пілатаванне;
5) пісьменны.

***А13. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара с:***

1) ...урочыць;
2) ...чысціць;
3) бя...мерны;
4) ра...шыфраваць;
5) бя...літасны.

***А14. Адзначце словазлучэнні, у якіх парушана лексічная спалучальнасць слоў:***

1) прыемны сюрпрыз;
2) першы дэбют;
3) вярнуўся назад;
4) цагельны дом;
5) лясістая мясцовасць.

***А15. Адзначце словы з формаўтваральнымі прыстаўкамі:***

1) найлепшы;
2) змалаціць;
3) упрыгожыць;
4) найменне;
5) заштатны.

***А16. Адзначце словы з постфіксам -цца:***

1) абнаўляюцца;
2) падкручвацца;
3) паказваецца;
4) апырскваецца;
5) пасяліцца.

***А17. Адзначце назоўнікі, якія адрозніваюцца родам у рускай і беларускай мовах:***

1) давер;
2) дроб;
3) суддзя;
4) лён;
5) подпіс.

***А18. Адзначце рознаскланяльныя назоўнікі:***

1) малайчына (Сеня);
2) кацяня;
3) птушка;
4) дзядзька;
5) загарадка.

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме адзіночнага ліку меснага склону маюць канчатак -ы:***

1) аптэкар;
2) выдавец;
3) возера;
4) крыніца;
5) дачка.

***А20. Адзначце словы, якія трэба пісаць праз злучок:***

1) (заа)логія;
2) (Міклуха) Маклай;
3) (шахматна)шашачны;
4) (рэзка)адмоўны;
5) (рэдка)населены.

***А21. Адзначце дробавыя лічэбнікі:***

1) паўтары; 4) тры і сем восьмых;
2) трохсоты; 5) трыста чатырнаццаты.
3) васьмёра;

***А22. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчатак** -уць(-юць)**:***

1) абветрыць; 3) зачыня́ць; 5) есці.
2) жаць; 4) вырашыць;

***А23. Адзначце дзеясловы, ад якіх утвараюцца дзеепрыметнікі з суфіксам** -ан-**:***

1) ачысціць; 3) расхваляваць; 5) прапанаваць.
2) разагнаць; 4) скасіць;

***А24. Адзначце сказы, у якіх правільна ўжыты дзеепрыслоўныя звароты:***

1. Сядзіць глушэц, задраўшы дзюбу, на асіне (*А. Камароўскі*).

2. Моладзь чакала танцаў, нахвальваючы гарманіста Сымона Чмяля (*А. Бутэвіч*).

3. Разам з бацькам Рыгор хадзіў у лес, дапамагаючы яму ва ўсім (*А. Брытун*).

4. Засыпаўшы лужыны жвірам з камянямі, па дарозе пайшлі фурманкі (*А. Брытун*).

5. Пераступіўшы парог, у вочы кінуўся партрэт цара Аляксандра Другога (*А. Брытун*).

***А25. Адзначце словы, якія без** не (ня) **не ўжываюцца:***

1) (не)дахоп; 3) (не)абвержны; 5) (не)вучоны.
2) (не)асцярожнасць; 4) (ня)ухільны;

***А26. Адзначце сказы, у якіх неабходна ўжыць прыназоўнік** са**:***

1. Сімунд спачатку ўклаў свае грошы, а цяпер атрымліваў ... казны вялікія дывідэнды (*А. Брытун*).

2. З павагі ўсё пачынаецца, з даверу і ўзаемнага разумення, а не ... страху (*А. Бутэвіч*).

3. Мы не зразумелі, ці то асуджальна, ці ... шкадаваннем гаварыў дзед Мацейка (*А. Бутэвіч*).

4. Каця нічога па гаспадарцы не рабіла, насілася ... сваёю грыжаю (*З. Дудзюк*).

5. А ... здароўем у паэта было дужа дрэнна (*Б. Мікуліч*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць працяжнікам:***

1. З неверагоднай настойлівасцю непісьменная маці бачыла адно надзейнае выйсце з галечы атрымаць адукацыю (*Н. Міцкевіч*).

2. Жыццё наша сапраўды шматграннае і непрадказальнае (*К. Камейша*).

3. Плошча Зэльвенскага вадасховішча адна тысяча сто дзевяноста гектараў (*У. Мазго*).

4. Увітае бязродным вінаградам, лецішча як казачны шацёр (*Н. Маеўская*).

5. Дрэсіроўшчык тыцнуў паплецінай у спіны мядзведзяў сані паехалі (*А. Камароўскі*).

***А28. Адзначце сказы з адасобленымі акалічнасцямі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Нарыхтаваўшы дровы на зіму сын неяк замаркоціўся без працы.

2. Акрамя бярозавых і ліпавых венікаў Мікола сушыў рамонак і лісты глогу сунічніку і парэчак.

3. Кабачкі і гарбузы на агародзе раслі як на дражджах.

4. Сарваўшы фінішную стужку Андрэй пластом упаў на снег ушчэнт абяссілены.

5. Рыбакі выпіналіся цягнучы набрынялыя вяроўкі невадаў мінаючы перакаты і водмелі шукаючы глыбокія ямы дзе трымалася буйная рыба.

*А. Камароўскі*

***А29. Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць коску (коскі) пры пабочных словах ці спалучэннях слоў (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Лю́быя дзікія кветкі вы перад свету гасподай найпрыгажэйшыя сведкі думак маіх і нягодаў (*У. Марук*).

2. Здаецца і сцены турмы прамярзаюць наскрозь (*З. Дудзюк*).

3. Па-першае Каця пашыла новы каптан і сарочку Серафіму (*З. Дудзюк*).

4. Над Прыпяццю на выспах крутабокіх з якіх відна ўсёй айчыны шыр пад самыя пярэстыя аблокі ты ўзнёсся белым лебедзем Мазыр (*М. Мятліцкі*).

5. Сур'ёзная і абачлівая Каця як здавалася Гардзею была процілегласцю вясёлай і няўрымслівай Зосі (*З. Дудзюк*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Не памыліцца і той хто ўспрымае кнігу Алеся Карлюкевіча «Радзімазнаўства» менавіта як падручнік (*Г. Макарчык*).

2. Прызнайся нам ці не бачыў ты як княжна зелле нагаворвала чароўнымі паганскімі словамі ці яшчэ якія бясоўскія чары чыніла (*В. Чаропка*).

3. Мовіў я водпаведзь што не бачыў і не ведаю нічога аб чараванні княжны а паважаю яе як шчырую каталічку (*В. Чаропка*).

4. Гардзея не хвалявала што адбываецца з Зосяй і чаму яна пазбягае яго (*З. Дудзюк*).

5. Пан хацеў правесці мяне да гасціннага двара але я спазняўся на варту ў касцёл і мовіў, што іду на набажэнства (*В. Чаропка*).

***А31. Вызначце суадносіны паміж сказамі і іх характарыстыкай. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Ва ўсім вобліку спявачкі была заключана нейкая таямніца, што імгненна прыцягвала да сябе мноства людзей і не дазваляла заставацца раўнадушным (*А. Ладыгіна*).<br>Б. Данілка ведаў, як выжыльваліся лоўчыя, гойсаючы па пушчы, каб позняй восенню ўстурыць нагулянага тлустага мядзведзя, загнаць у аблогу лася ці казулю (*А. Камароўскі*).<br>В. Пасвіць кароў Каця ніколі не адмаўлялася: там можна было спакойна чытаць цэлы дзень, зрэдку адрываючыся на тое, каб паглядзець, дзе пасвіцца жывёла (*З. Дудзюк*).<br>Г. Прабабуля Марфа ўклала ў выхаванне хлопчыка ўсю сваю душу, і ён рос, акружаны клопатам і любоўю (*А. Брытун*). | 1. Складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем.<br>2. Складаназлучаны сказ.<br>3. Складаназалежны сказ з адной даданай часткай.<br>4. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі.<br>5. Складаны бяззлучнікавы сказ. |

***А32. Адзначце сказы з правільна пастаўленымі знакамі прыпынку:***

1. У перыяд вучобы ў Мінскай гімназіі Бенядзікт Дыбоўскі пачаў рыхтаваць сябе да далёкіх падарожжаў, зімой спаў на двары, узбіраўся па вертыкальнай сцяне з дапамогай жэрдкі з цвікамі, многа ездзіў конна, хадзіў пешшу.

2. З успамінаў хлопчыка паўстае вобраз сям'і: вельмі дружнай, унутрана багатай і шчырай, з культам светлых грамадзянскіх ідэалаў, вялікім піетэтам перад ведамі і адукацыяй.

3. Дарэчы, бабка Бенядзікта вырошчвала ў Адамарыне розныя «нетыповыя» па тым часе карысныя расліны, у тым ліку лекавыя: шалфей, мяту, рамонак, рэвень.

4. Прагулкі з бабуляй развівалі ў хлопчыка назіральнасць, і ў далейшым ён адчуваў сябе ў полі і ў лесе як дома, пазнаваў кожную птушку па голасу і палёту.

5. З вялікай цеплынёй Дыбоўскі ўспамінаў гэтыя прагулкі, адзначаў, што, менавіта, яны абудзілі ў ім любоў да прыроды, якая захавалася ў яго на ўсё жыццё.

*М. Бандарэнка*

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Тэрміны пераважна ўжываюцца ў мастацкім стылі мовы.
2. Сінонімы могуць адрозніваццца адзін ад аднаго адценнямі лексічнага значэння і экспрэсіўна-стылістычнай афарбоўкай.

3. Некаторыя прыметнікі маюць форму вышэйшай ступені параўнання з другой асновай.

4. Адваротны парадак слоў у сказе называецца інверсіяй.

5. Калі ў сказе няма асабовага займенніка, то такія сказы называюцца безасабовымі.

***В2.Устанавіце адпаведнасць паміж складаназалежнымі сказамі і іх характарыстыкай.***

| | |
|---|---|
| А. У той самы час, калі малады выправіўся да маладое, каб разам ехаць у царкву вянчацца, усчалася мяцеліца (*З. Дудзюк*). | 1. Складаназалежны сказ з адной даданай часткай. |
| Б. Ужо ў двары было чутно, што грае гармонік і тумкае ў такт бубен (*З. Дудзюк*). | 2. Складаназалежны сказ з аднародным сузалежным падпарадкаваннем. |
| В. Пакуль мы ехалі па роднай Беларусі, то на кожнай станцыі нас сустракалі мясцовыя жыхары і прапаноўвалі нам, галодным, тое, што маглі: вараную бульбу, хлеб, тварог, яйкі (*Н. Міцкевіч*). | 3. Складаназалежны сказ з неаднародным сузалежным падпарадкаваннем. |
| Г. Зося падняла ладны камень, які ляжаў на беразе, уявіла, што так акамянеў Гардзей і ўсё тое зло, якое абрынулася на яе пасля сустрэчы з ім, і шпурнула ў сажалку (*З. Дудзюк*). | 4. Складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем. |
| | 5. Складаназалежны сказ са змешаным падпарадкаваннем. |

***В3. Укажыце лексічныя прыкметы, якія адпавядаюць выдзеленаму ў сказе слову:***

Купала цягнікам даехаў да Стоўбцаў, не стаў наймаць **балагола** і пехатою прыйшоў на хутар Смольню (*А. Камароўскі*).

1) ужыта ў значэнні «*той, хто займаецца перавозам грузаў ці людзей на ўласнай фурманцы*»;

2) сінонім — *рамізнік*;

3) запазычанае;

4) агульнаўжывальнае;

5) устарэлае.

***В4. Вызначце, якая часціца ўжываецца на месцы пропуску, і ўкажыце суадносіны паміж слупкамі табліцы. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Як ... радавацца таленту паэта, які пачаў раскрывацца так рана! (*А. Марціновіч*). | 1. Часціца *не* мае адмоўнае значэнне. |
| Б. Начное неба як засевак, дзе ... абмежкаў, ... разор (*В. Гардзей*). | 2. Часціца *не* ўжываецца ў галоўнай частцы складаназалежнага сказа і мае сцвярджальны сэнс. |
| В. Што ... зраблю, дзяўчына здавалася аднолькава спакойнай і недаступнай (*Л. Хаб'яновіч-Джуравіч*). | |

| | |
|---|---|
| Г. Галоўнае, каб чалавек душу меў спагадную, каб ... прымушаў пакутаваць іншых (*З. Дудзюк*). | 3. Часціца *ні* ўваходзіць у склад сродка сувязі ў складаназалежным сказе і мае сцвярджальны сэнс.<br>4. Часціца *ні* ўжываецца ў ролі паўторнага спалучальнага злучніка і мае адмоўны сэнс.<br>5. Часціца *ні* ўжываецца для ўзмацнення адмаўлення. |

**Тэкст да заданняў В5–В8**

1. Адна значная падзея ў музычна-тэатральным жыцці горада, што ўскалыхнула нядаўна і мінчан, і ўвесь калектыў тэатра оперы, у многім садзейнічала ўваскрашэнню страчаных традыцый. 2. Гэтая падзея звязана з імем спявачкі Ларысы Пампееўны Александроўскай. 3. Рыхтуючыся ўрачыста адзначыць 100-годдзе з дня яе нараджэння, мастацкае кіраўніцтва тэатра прыняло рашэнне стварыць своеасаблівы спектакль-канцэрт, прысвечаны памяці вялікай актрысы. 4. Да драбніц прадумалі дэталі вечара, з архіўнага пылу выцягнулі і рэстаўрыравалі неабходныя **ілюстрацыйныя** матэрыялы, тэрмінова адрэтушыравалі і паднавілі партрэты, спецыяльна майстравалі да мерапрыемства сцэну. 5. Ажывіліся старыя артысты, ветэраны тэатра, былыя паплечнікі і калегі Ларысы Пампееўны, што пакінулі ўжо сцэну. 6. Прайшоў своеасаблівы конкурс як сярод майстроў, так і сярод творчай моладзі на права ўдзельнічаць у канцэрце з твораў, што выконвала ў свой час Александроўская. 7. У тэатры ўзнік сапраўдны ажыятаж: распытвалі пра тое, якою яна была, што і як спявала, вывучалі яе рэпертуар, даставалі ноты, слухалі запісы, рэпеціравалі, развучвалі арыі і рамансы. 8. Кожны хацеў спяваць у канцэрце, унесці сваю лепту ў агульную справу. 9. Піяністка Ларыса Талкачова, галоўны канцэртмайстар тэатра, дасканала прадумала і прапрацавала з салістамі неабходны рэпертуар і бліскуча правяла канцэрт. 10. Ужо ў самім гэтым факце выявіла сябе пэўная пераемнасць!

11. Імя Александроўскай, якое некалі не сыходзіла з тэатральных афіш і на якое ў многім забылася цяперашняе пакаленне, зноў з’явілася ў горадзе.

*А. Ладыгіна*

***В5. Вызначце, якая з прыведзеных характарыстык адпавядае тэксту:***

1) мастацкі стыль, апавяданне;
2) публіцыстычны стыль, інфармацыйная заметка;
3) навуковы стыль, анатацыя;
4) афіцыйна-дзелавы стыль, пратакол;
5) задача тэксту — паказаць пераемнасць і захаванне нацыянальных духоўных традыцый.

***В6. Вызначце, колькі ў тэксце дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу. Адказ запішыце адпаведнай лічбай.***

***В7. Знайдзіце няпэўна-асабовы сказ і ўкажыце яго нумар.***

***В8. Вызначце, якім членам сказа з’яўляецца выдзеленае ў 4-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме творнага склону.***

## ВАРЫЯНТ VI

### Тэст А

***А1. Адзначце словы, у якіх гукаў больш, чым літар:***

1) прасейвацца;
2) фтызіятр;
3) прастуджаны;
4) сяннік;
5) няясны.

***А2. Адзначце словы-амонімы:***

1) *вяршок* — старая мера даўжыні і *вяршок* — верхняя частка чаго-небудзь, верхавіна;

2) *заткнуць* — шчыльна закрыць (адтуліну) і *заткнуць* — засунуць які-небудзь прадмет за што-небудзь, куды-небудзь;

3) *навярстаць* — шляхам вёрсткі зрабіць у нейкай колькасці і *навярстаць* — тое, што і нагнаць;

4) *гіпербала* — мастацкі прыём, заснаваны на перабольшанні і *гіпербала* — незамкнутая крывая з дзвюх галін;

5) *даміно* — гульня ў пластмасавыя або касцяныя пласцінкі і *даміно* — маскарадны касцюм.

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара ы:***

1) бр...зент;
2) кр...вападцёк;
3) бр...сці;
4) інж...нер;
5) кр...млёўскі.

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне іе:***

1) абітур...нт;
2) гіг...на;
3) ар...нцір;
4) аўд...нцыя;
5) кл...нтура.

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны ь (мяккі знак):***

1) Васіл...еў;
2) Дз...віна;
3) шэсц...дзясят;
4) дзец...мі;
5) рал...ля.

***А6. Адзначце словы (спалучэнні слоў), ў якіх прапушчана літара ў (нескладовае):***

1) твор ...схваляваў;
2) мужчына- ...рач;
3) Ма...глі;
4) Барна...л;
5) Алата... .

***А7. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара ц:***

1) квадра...ік;
2) за...вярдзелы;
3) бало...ца;
4) (у) спрэ...цы;
5) (аб) цё...цы.

***А8. Адзначце правільна напісаныя словы:***

1) неймаверны;
2) падыйсці;
3) палітінфармацыя;
4) звышіндустрыяльны;
5) праіграваць.

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара ы:***

1) ябл...чны, др...мучы;
2) проч...рк, д...рэктар;
3) мер...дыян, тэар...тычны;
4) прагл...нуць, др...зіна;
5) бл...ха, стач...чнік.

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) ненавісны, аксессуар;
2) сэрца, карэктура;
3) радасны, калектыў;
4) злашчасны, тэлеграма;
5) баллістыка, сюррэалізм.

***А11. Адзначце спалучэнні слоў, у якіх на месцы пропуску пішацца прыстаўная літара в:***

1) вясковая ...уліца;
2) залатыя за...ушніцы;
3) з любімым ...унукам;
4) напісаў ...оду;
5) прыкладная ...учаніца.

***А12. Адзначце словы, у якіх назіраецца марфалагічнае падваенне:***

1) суддзя;
2) трыманне;
3) трывожыцца (інф.);
4) безліччу;
5) беззаганны;

***А13. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара а:***

1) ш...раваты;
2) др...васек;
3) шніц...ль;
4) гард...роб;
5) ч...рга.

***А14. Адзначце словы, якія адносяцца да лексікі абмежаванага ўжывання:***

1) антытэза;
2) флюгер;
3) цыклатрон;
4) фокуснік;
5) прымак.

***А15. Адзначце аднакаранёвыя словы:***

1) падарожжа;
2) падарожнічаць;
3) падаражаць;
4) спадарожны;
5) спадарожніца.

***А16. Адзначце словы, утвораныя ад прыметнікаў:***

1) задуменнасць;
2) падкормлены;
3) гучнасць;
4) пахмурны;
5) дыпламатнічаць.

***А17. Адзначце радкі, у якіх усе назоўнікі адносяцца да ніякага роду:***

1) шво, бездарожжа;
2) ворыва, грызлі;
3) дынга, неба;
4) акно, табло;
5) жэрабя, бярэмя.

***А18. Адзначце нескланяльныя назоўнікі:***

1) салямі;
2) дабро;
3) меню;
4) вета;
5) кварта.

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў рускай і беларускай мовах у родным, давальным і месным склонах маюць розныя канчаткі:***

1) вада;
2) рака;
3) пейзаж (від, наваколле);
4) гаймарыт;
5) калена.

***А20. Адзначце словазлучэнні, у якіх адносныя прыметнікі ўжыты са значэннем якасных:***

1) бронзавы загар;
2) гранітны помнік;
3) жалезная воля;
4) залаты гадзіннік;
5) мядзведжая паслуга.

***А21. Адзначце лічэбнікі ў форме творнага склону, якія ўжыты і напісаны правільна:***

1) двумастамі (ліпамі);
2) шаснаццаццю;
3) абодвума (студэнткамі);
4) васьмістамі;
5) абаімі.

***А22. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 1-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчатак -*ым*( -*ім*):***

1) клеіць;
2) сыпаць;
3)разлічвацца;
4) парушыць;
5) палепшаць.

***А23. Адзначце дзеясловы, ад якіх не ўтвараюцца дзеепрыметнікі:***

1) абудзіць;
2) закіпець;
3) пасядзець;
4) накасіць;
5) перапоўніцца.

***А24. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі з прыслоўямі:***

1) насустрач ветру;
2) рушыў убок;
3) ні ў якім выпадку;
4) школа насупраць;
5) жывуць утрох.

***А25. Адзначце словы, якія без* ні *не ўжываюцца:***

1) (ні)шчымны;
2) (ні)адзін;
3) (ні)кчэмны;
4) (ні)кагусенькі;
5) (ні)адкуль.

***А26. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца прыназоўнікамі:***

1. Зубр чуе чалавека за сто і больш крокаў, але ніколі не ўцякае, наадварот, спакойна ідзе **насустрач**.

2. Па адмысловым брэху ганчакоў добры паляўнічы пазнае, што за звер бяжыць **наперадзе**.

3. **Пасля** невялікай паўзы трохі правей прасекі прагучаў адзінкавы стрэл.

4. **Напярэймы** коням з ельніку нечакана выскачыў велічэзны барадаты зубр.

5. Адзін са старых зубраў вылецеў на прасеку **насупраць** кучы вершнікаў.

*А. Брытун*

***А27. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць працяжнікам:***

1. Францішак Багушэвіч наш самы яркі нацыянальны паэт XIX стагоддзя (*Я. Янушкевіч*).
2. Маўчаць паэты знямее давеку народ (*Я. Янушкевіч*).
3. Чын, званне, узнагароды ўсё давалася цяжкай працай (*А. Брытун*).
4. Яшчэ разумеў Аляксей трэба тэрмінова жаніцца (*У. Ліпскі*).
5. Каб у народа вырваць мову ў званоў ірвалі языкі (*А. Пісьмянкоў*).

***А28. Адзначце сказы з адасобленымі прыдаткамі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Гардзей нават пасябраваў з Антонам Клімчуком настаўнікам з Федзькавіч які апекаваўся хлопцам і здабываў для яго кніжкі (*З. Дудзюк*).
2. Ужо падлеткам я ведаў што няма ад каго чакаць дапамогі акрамя як ад Бога і зямлі-карміцелькі (*З. Дудзюк*).
3. Дзяўчаты бегалі пад дажджом падстаўляючы твары і рукі шчасліва смяяліся (*З. Дудзюк*).
4. І сягоння ты мудры магутны дуб уратаваў нас ад злога маманта (*В. Гігевіч*).
5. Так яны ішлі пад чужымі позіркамі адкрытыя ўсяму свету (*З. Дудзюк*).

***А29. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць коскай (коскамі) пры пабочных словах ці спалучэннях слоў (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены).***

1. У Адамарыне паводле ўспамінаў Бенядзікта арандатары маёнтка жылі з вяскоўцамі адной сям’ёй.
2. Пасля заканчэння гімназіі восенню 1853 года Бенядзікт паступіў на медыцынскі факультэт Дэрпцкага зараз Тартускага ўніверсітэта.
3. Па словах прафесара С. Лапцева дом у якім жыў Дыбоўскі захаваўся і з’яўляўся адным з культурных помнікаў Култука.
4. Калі вучоны расказваў аб сваіх пошуках то здавалася быццам бы мы чытаем самую цікавую кнігу.
5. Фундаментальныя даследаванні фаўны флоры геаграфіі Усходняй Сібіры і Далёкага Усходу і асабліва возера Байкал прынеслі Дыбоўскаму шырокую вядомасць.

*М. Бандарэнка*

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Я хачу каб жыла праз вякі Беларусь і гаркоту пазбыла Палессе (*М. Мятліцкі*).
2. Сваім цячэннем рака падмывала карані вярбы і таму яна была нахіленай якраз у тым месцы дзе заканчвалася завадзь і пачыналася водмель (*В. Гігевіч*).
3. Хто яны такія не ведаў я і праўду пра сябе што я следчы нельга было ім раскрыць (*В. Чаропка*).

4. Праз двары Рамейка выйшаў да таго высокага дома на месцы якога раней у гады яго маладосці стаяў звычайны драўляны дом (*У. Дамашэвіч*).

5. Пэўна, пан ваявода зразумеў што я не хачу спрачацца з ім і гучна засмяяўся (*В. Чаропка*).

***А31. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. У час вучобы ў Мінскай класічнай гімназіі Бенядзікт арганізаваў сапраўдны «хатні звярынец», у якім перабыло шмат істот: вожыкі, зайцы, трусы, суслікі, жураўлі, качкі, канарэйкі, чарапахі, рыбы… (*М. Бандарэнка*).

2. За полем пацягнуўся невялікі лясок, за якім раптам адкрылася прыгожае і круглае, як сподак, азярцо (*А. Бутэвіч*).

3. У кожнага чалавека роду ў будане мелася сваё месца, якое ён даглядаў — штодня чысціў, усцілаў зямлю мяккім веццем, высахлай сухой травою, якая соладка пахла, скурамі (*В. Гігевіч*).

4. Ахінуўшы сябе кустамі алешніку, вербалозамі, рабінаю, ухутаная высокімі травамі, рака жыла сваім таямнічым жыццём, і ніхто з людзей не ведаў, дзе яна пачынаецца, і куды сцякае (*В. Гігевіч*).

5. Баранавіцкі паэт Алесь Корнеў у сваім трыпціху «За свабоду Айчыны пакутнай» паставіў асветніцкую задачу — данесці да чытача маштабнасць і значэнне гістарычнай постаці Тадэвуша Касцюшкі (*А. Трафімчык*).

***А32. Адзначце сказы з чужой мовай, у якіх няправільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Калі генерал Скалкоў спытаў вучонага, якую прызначыць яму плату, то пачуў адказ: «З мяне дастаткова, што я атрымаў магчымасць падарожнічаць і працаваць над калекцыямі, якія мне ўдасца скласці» (*М. Бандарэнка*).

2. — Дзякуй, Света, але Дземеш у мяне больш нічога прымаць не будзе, бо скончыў курс, — сказаў я і спытаў:

— А брат твой таксама студэнт? (*Ю. Станкевіч*).

3. — А мяне мама так вучыла: як агорне смутак, аддай яго каменю і ўкінь у ваду. Твая маркота і сплыве з вадою, — сказала Гэлька (*З. Дудзюк*).

4. — Вось як бывае, — з жалем падумала Зося. — І прыгожая, і багатая, а шчасця няма. Чаго мне на лёс наракаць? (*З. Дудзюк*).

5. На слушныя довады каноніка манах зрабіў выснову: «Мы стаім на тэкстах Святога Пісання, а не звяртаемся да хітрасцяў красамоўства» (*В. Чаропка*).

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Адзін гук на пісьме можа абазначацца адной, дзвюма ці трыма літарамі.

2. Літара **г** можа абазначаць пяць гукаў.

3. Напісанне вялікай літары ў назвах міжнародных арганізацый заснавана на традыцыйным прынцыпе.

4. Дзеепрыметнікі цяперашняга часу прадстаўлены ў сучаснай беларускай мове толькі поўнымі формамі.

5. Корань слова заўжды супадае з асновай слова.

***В2. Знайдзіце безасабовы сказ і выпішыце яго граматычную аснову:***

1. Упасці на траву ў бабуліным садзе (*А. Данільчык*).

2. Лідачку буду вазіць на вучобу ў Мінск (*Т. Гарэлікава*).

3. У Каці ад пачутага трохі палягчэла на сэрцы (*З. Дудзюк*).

4. Такі разумны хлопец здолее атрымаць духоўную адукацыю і стаць пастарам (*З. Дудзюк*).

5. У хату пакуль не заходзілі (*А. Асіпенка*).

***В3. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай з пункту гледжання вытрыманасці граматычных (марфалагічных і сінтаксічных) норм.***

| | |
|---|---|
| А. У Яна быў дзікаваты, асцярожны і дапытлівы, як у ляснога кацяня, позірк (*Н. Статкевіч*). | 1. Граматычныя нормы не парушаны. |
| Б. Некалькі зуброў станавілася побач са зламанай асінкай і з задавальненнем абрывалі маладыя галінкі (*А. Брытун*). | 2. Памылка ў каардынацыі дзейніка і выказніка. |
| В. Калі мінуем гэты ўчастак, вы спакойна забярэце дзелавую драўніну (*А. Брытун*). | 3. Памылка ва ўтварэнні формы дзеяслова. |
| Г. Хлопцы, трохі згаладалыя перад стыпендыяй, пакеплівалі з Мішы, жартавалі (*А. Камароўскі*). | 4. Памылка ва ўтварэнні формы назоўніка. |
| | 5. Памылка ў будове складаназалежнага сказа. |

***В4. Вызначце суадносіны паміж стылямі і жанрамі мовы.***

| | |
|---|---|
| А. Мастацкі. | 1. Інструкцыя. |
| Б. Навуковы. | 2. Драма. |
| В. Афіцыйна-дзелавы. | 3. Хроніка. |
| Г. Публіцыстычны. | 4. Рэферат. |
| | 5. Гутарка. |

**Тэкст да заданняў В5–В8**

1. Неандэрталец лічыцца недачалавекам, аднак па аб'ёме мозга ён амаль нічым не **адрозніваецца** ад сучаснага чалавека. 2. Мікраскапічныя даследаванні рэбраў быка, знойдзеныя на месцы стаянкі неандэртальцаў, **пакрытыя разьбою** ў выглядзе сімвалаў, сведчаць, што неандэрталец, верагодней за ўсё, меў даволі высокі інтэлектуальны ўзровень.

3. Пакуль няма ніводнага доказнага і адназначнага факта, які сведчыў бы пра існаванне нейкага пераходнага віду паміж малпай і чалавекам.

4. Генетыкі даказалі, што геномы (індывідуальныя комплексы генаў) двух людзей з розных канцоў свету адрозніваюцца нашмат менш, чым у дзвюх гарыл з аднаго лесу.

5. Даследаванні будовы Y-храмасомы чалавека паказалі, што ва ўсіх людзей, верагодна, быў адзін продак па мужчынскай лініі. 6. У выніку **вывучэння** мітахондрый высветлілася, што ўсе мы маглі паявіцца ад адной жанчыны. 7. Хоць генетыкі пакуль не могуць сказаць, ці жылі «адкрытыя» продкі адначасова, вучоныя назвалі іх Адамам і Евай…

*В. Гігевіч*

***В5. Вызначце стыль тэксту.***

***В6. Адзначце фанетычную з’яву, характэрную для выдзеленага ў 1-м сказе слова:***

1) аглушэнне парнага звонкага зычнага гука;
2) спалучэнне двух зычных гукаў вымаўляецца як адзін падоўжаны свісцячы;
3) прыпадабненне свісцячага гука да шыпячага;
4) прыпадабненне шыпячага гука да свісцячага;
5) памякчэнне свісцячага гука перад наступным мяккім.

***В7. Вызначце від падпарадкавальнай сувязі паміж словамі, выдзеленымі ў 2-м сказе. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.***

***В8. Адзначце лексіка-граматычныя характарыстыкі, што адпавядаюць выдзеленаму ў 6-м сказе слову:***

1) канкрэтны;
2) 1-га скланення;
3) неадушаўлёны;
4) ужыты ў форме роднага склону;
5) у форме творнага склону адзіночнага ліку мае канчатак *-ем*.

## ВАРЫЯНТ VII

### Тэст А

***А1. Адзначце словы, у якіх вымаўленне зычных не адпавядае напісанню:***

1) прасвірка; 2) цабэрак; 3) яркасць; 4) сабаляводства; 5) экзархат.

***А2. Адзначце словы з няправільна пастаўленым націскам:***

1) дыспансе́р; 2) экіпі́раваны; 3) цэме́нт; 4) заіне́лы; 5) ву́сы.

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *ы**:***

1) мат...матыка; 3) гр...надзёр; 5) гр...льяж.
2) гр...мотны; 4) ц...стэрна;

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *эа**:***

1) стэр...тып; 3) ід...логія; 5) р...лізм.
2) патэнц...л; 4) антыквар...т;

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны*** *ь (мяккі знак)**:***

1) інтэр...ер; 3) жыл...лёвы; 5) дзевяц...сот.
2) бул...ён; 4) кал...е;

***А6. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *у (складовае)**:***

1) ваенна-...ліковы; 4) прыехаў ...збек;
2) ліноле...м; 5) Люблінская ...нія.
3) касмана...т;

***А7. Адзначце словы, пры змяненні якіх магчыма цеканне:***

1) асістэнт; 3) білет; 5) тыран.
2) аптэка; 4) тэатр;

***А8. Адзначце правільна напісаныя словы:***

1) безіменны; 4) безініцыятыўны;
2) зайкнуцца; 5) міжірыгацыйны.
3) заінтрыгаваць;

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара*** *а:*

1) Салтыкоў-Шч...дрын, Токі...; 4) маэстр..., брут...;
2) кват...рант, ц...лафан; 5) ястр...б, с...кратар.
3) бухгалт...р, д...ўгажыхар;

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) каліграфія, падножжа; 4) більярдны, камісар;
2) акардэон, гіганцкі; 5) торфакампосны, местны.
3) множства, каравела;

***А11. Адзначце словы з памылковым напісаннем:***

1) вупраж; 3) абуглены; 5) водгук.
2) вокаімгненны; 4) мшарына;

***А12. Адзначце радкі, у якіх напісанне ўсіх выдзеленых арфаграм заснавана на марфалагічным прынцыпе:***

1) ***з*** паліцы, ***зв***ечара 4) дож***дж***, даро***ж***ка;
2) в***я***трак, пас***я***род; 5) на лава***ч***цы, н***е*** хачу.
3) залу***жж***а, па***д***бегчы;

***А13. Адзначце словы, якія пішуцца з вялікай літары:***

1) (П,п)рафесар; 3) (Д,д)ацэнт; 5) (В,в)адохрышча.
2) (Р,р)ысак; 4. (Б,б)агародзіца;

***А14. Адзначце словы, якія адносяцца да спецыяльнай лексікі:***

1) батулізм; 3) сальфеджыа; 5) небыліца.
2) ротар; 4) семафор;

***А15. Адзначце словы з нулявым канчаткам:***

1) часопіс; 3) паабяцаўшы; 5) выпусціўшы.
2) бярэзнік; 4) восем;

***А16. Адзначце словы, будова якіх адпавядае схеме:*** *корань* + *суфікс* + *канчатак**:***

1) кавуновы; 3) значок; 5) значна.
2) зменлівасць; 4) саладзіць;

***А17. Адзначце назоўнікі, якія адносяцца да аднаго лексіка-граматычнага разраду:***

1) чарнічнік; 3) бліскавіца; 5) гравій.
2) аксаміт; 4) анальгін;

***А18. Адзначце словы, якія скланяюцца, як назоўнікі 1-га скланення:***

1) дзяжурная; 3) суддзя; 5) маруда (Ягор).
2) Ілья; 4) старшыня;

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме роднага склону адзіночнага ліку ў залежнасці ад лексічнага значэння слова могуць мець канчаткі -*а *ці -*у*:***

1) сад; 3) вопіс; 5) тварог.
2) клён; 4) рамонак;

***А20. Адзначце складаныя прыметнікі, якія пішуцца разам:***

1) (чатырох) класны; 4) (вальтэр) скотаўскі;
2) (верна) падданы; 5) (моцна) напружаны.
3) (пад'ёмна) транспартны;

***А21. Адзначце спалучэнні слоў, у якіх лічэбнікі напісаны правільна:***

1) тысяча дзевяцьсот пяцідзясяты год;
2) абедзьве сяброўкі;
3) абоіх вучняў;
4) шэсцісоты кабінет;
5) двума юнакамі.

***А22. Адзначце сказы, у якіх усе дзеясловы належаць да 1-га спражэння:***

1. Графскі пісар сядзеў за шырокім сталом, на якім стаяла чарніліца і ляжалі паперы.
2. Паводзьце сябе добра, каб мне пасля не давялося за вас чырванець.
3. Як з маладых гадоў здароўе згубіш, дык потым нідзе яго не прыдбаеш.
4. «Чаго паненка сумуе?» — папытаў нехта за спінаю.
5. Юлек, які нёс кошык з яблыкамі, павітаўся яшчэ здалёк.

*З. Дудзюк*

***А23. Адзначце дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу:***

1) вышчыпаны; 4) парыжэлы;
2) атлусцелы; 5) кінуты.
3) асядланы;

***А24. Адзначце словазлучэнні, у якіх галоўным словам з’яўляецца прыслоўе:***

1) выключна запамінальны;
2) павітаўся здалёку;
3) вельмі старанна;
4) утрая больш;
5) скочыў з разгону.

***А25. Адзначце фразеалагізмы, у якіх ужываецца часціца*** *не*:

1) н... знай н... ведай;
2) н... слыху н... дыху;
3) н... па гадах;
4) жаба на языку н... спячэцца;
5) н... села н... пала.

***А26. Адзначце сказы, у якіх прыназоўнік*** *праз* ***мае прычыннае значэнне:***

1. Чалавек набываў найперш добры гаспадарскі інвентар, будаваў новую стайню, кароўнік або гумно, і праз тое багацела тутэйшая зямля (*А. Бутэвіч*).

2. Але нават у страшным сне не мог сасніць такі гаспадар, якія беды і нягоды чакаюць яго неўзабаве праз гэтую зямлю і лепшы за іншых інвентар (*А. Бутэвіч*).

3. На вочы навярнуліся слёзы, і праз іх Зосі раптам здалося, што Маці Божая ўсміхнулася ёй куточкамі вуснаў (*З. Дудзюк*).

4. Праз Гэлю можна перадаць родным прывітанне (*З. Дудзюк*).

5. Чэсь прапанаваў Мані праз тры танцы ісці дахаты (*А. Бутэвіч*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку трэба дапоўніць працяжнікам:***

1. Такі боль і перажыванні ў сабе насіць захлынешся (*Т. Гарэлікава*).

2. Калі Стася часам распусціць валасы, то яны як дажджавая сцяна, што іскрыстым ззяннем пераліваецца на сонцы, атуляюць стройнае цела (*А. Бутэвіч*).

3. Іван з малых гадоў засвоіў як ты да зямелькі, так і яна да цябе (*А. Бутэвіч*).

4. Варта падкінуць у агонь два-тры вішнёвыя паленцы і мяса напоўніцца цудоўным водарам (*А. Камароўскі*).

5. Лісты хрэну і вішняку, кроп і часнок, лаўравы ліст, пацеркі чорнага перцу ўсё гэта перакладалася між грыбамі для прысмаку (*А. Камароўскі*).

***А28. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць коскамі паміж аднароднымі азначэннямі:***

1. Зверху на сцежку звісалі доўгія набрынялыя буйнымі зярняткамі каласы (*А. Бутэвіч*).

2. Саступіў я месца на лаве старой пачцівай кабеце (*В. Чаропка*).

3. Частыя залевы і цеплыня гналі ў рост нават напаўжывыя замэнчаныя адросткі дрэў і кустоў (*А. Камароўскі*).

4. Побач у глыбокім абцягнутым дэрмацінам крэсле сядзела маладая жанчына з рыжай капною валасоў на галаве (*В. Шабалтас*).

5. Шырачэзная пашча сома з белымі вострымі зубамі ўвесь час пакручвалася ва ўсе бакі (*В. Гігевіч*).

***А29. Адзначце сказы з адасобленымі членамі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Беларусь о старонка мая без цябе я жыцця не ўяўляю (*Г. Тарасевіч*).

2. У гэтую паездку маці ўзяла і мяне шасцігадовае дзіця (*Н. Міцкевіч*).

3. Дарагая стрэнемся з табой дзесьці там па іншы бок дыхання (*А. Аўруцін, пер. М. Шабовіча*).

4. Асабліва падрабязна расказвае Алесь Карлюкевіч пра Іванаўшчыну адзін з самых прыгожых куткоў беларускага Палесся (*Г. Макарчык*).

5. У кнізе ёсць і нарысы якія пісаліся гадамі (*Г. Макарчык*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Праз колькі месяцаў прыйшоў ліст са шпіталя, што бацька цяжка паранены і калі яго не забяруць родзічы, дык ён будзе дажываць век у прытулку для інвалідаў.

2. З сумам хлопчык думаў, што пакуль ён тут валаводзіцца аўталаўка паедзе і яму давядзецца жыць без хлеба.

3. Пра тое што Карней заблукаў у лесе калі хадзіў у чарніцы, ведала ўся вёска.

4. Не стаў Карней тлумачыць вяскоўцам што тым днём ягоны гадзіннік быццам спыніўся.

5. Па яе твары Платонавіч зразумеў што настрой у жонкі дрэнны вусны падціснутыя, бровы ссунутыя да пераносся.

*З. Дудзюк*

***А31. Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх прапушчаны знакі прыпынку паміж часткамі:***

1. Час да абеду доўжыўся пакутліва яшчэ і таму, што сялянская душа не звыкла сядзець без працы на гаспадарцы чалавек заўсёды знойдзе сабе занятак, а тут няма за што воку зачапіцца, не тое што рукам.

2. Зося паглядзела на Гардзея, як бы не верачы сваім вачам і раптам радасць запоўніла душу: Гардзей вярнуўся з турмы, жывы і здаровы.

3. Зося з Міхасём згадвалі мінулае, якога Мікола не ведаў, але ён слухаў уважліва і зусім не адчуваў сябе лішнім.

4. Карней з Уладзікам увайшлі ў музей, прайшліся па прасторных залах, разглядаючы розныя рэчы каменныя прылады працы, наканечнікі стрэл, барану, саху, прасніцу, плуг ад трактара…

5. Карней глянуў праз шыбу сад быў у квецені, яблыні пеніліся ружовымі кветкамі, над імі лёталі руплівіцы-пчолкі.

*З. Дудзюк*

***А32. Адзначце сказы з чужой мовай, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Ці бачыў ты хоць раз Белаазёрск,
Калі на дахі мякка ноч прысядзе,
Павее казкай ад старых азёр
І пойдуць песні поруч па абсадзе? —
пытаецца Ніна Мацяш у адным з ранніх вершаў.

2. — Божа, я ж папярэджваў! Аднарогі не жывуць у няволі! — з болем і адчаем у голасе папракнуў доктара Карней, — Як можна было так здзекавацца з далікатнай жывёлы! (*З. Дудзюк*).

3. Паэт сказаў: «І будзе ўнукам панаванне там, дзе сягоння плача дзед» («*Полымя*»).

4. Дзяўчына гарэзліва мовіла: «Пане, не маўчыце, раскажыце што-небудзь» (*В. Чаропка*).

5. — Я не еду, дочачка. — Запярэчыла бабка, калі я падняла адзін з яе кошыкаў (*А. Бензярук*).

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Моцнай пазіцыяй для галосных гукаў з'яўляецца пазіцыя пад націскам.

2. У неадушаўленых назоўнікаў форма вінавальнага склону супадае з формай роднага склону.

3. Тэрміны з'яўляюцца мнагазначнымі словамі.

4. Агульнаўжывальныя словы могуць ужывацца ў любым стылі мовы.

5. У пэўна-асабовых сказах дзейнік выражаны асабовымі займеннікамі.

***В2. Адзначце нумары пропускаў, на месцы якіх пішацца*** *не* ***асобна:***

Н...[1] разу, калі я сядзеў за кніжкай ці маляваў, дзед н...[2] выключыў святло, н...[3] загадаў і нават н...[4] папрасіў, каб я ішоў н...[5] шта рабіць па гаспадарцы (*Ул. Сцяпан*).

***В3. Адзначце правільны варыянт пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказе:***

Вырашылі пасля танцаў развесці па хатах усіх каб русалка не перастрэла выскачыўшы няўзнак з жыта або з Сержановага лугу ці вадзянік не напалохаў як пажартаваў нехта (*А. Бутэвіч*).

1. Двукроп'е, коска, коска, коска, коска, коска.

2. Працяжнік, коска, коска, коска, коска.
3. Коска, коска, коска, коска.
4. Коска, коска, коска, коска, працяжнік.
5. Коска, коска, коска, дужка, дужка.

***B4. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай з пункту гледжання вытрыманасці марфалагічных норм.***

| | |
|---|---|
| А. Кароль у пяці кроках не пацэліў у мядзведзя (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).<br>Б. Мы дома паабедаем, а вы ешце, не саромцеся (*Т. Гарэлікава*).<br>В. Бацька з'ездзіў у лясніцтва, выпісаў асінавых дроў, і дні праз тры асінавыя бярвенні ляжалі на прыгуменні (*А. Камароўскі*).<br>Г. Вядома аб адстрэле яшчэ траіх зуброў (*А. Брытун*). | 1. Марфалагічныя нормы не парушаны.<br>2. Памылка ва ўтварэнні формы дзеяслова.<br>3. Памылка ва ўжыванні лічэбніка.<br>4. Памылка ва ўтварэнні формы назоўніка.<br>5. Памылка ва ўжыванні прына-зоўніка. |

**Тэкст да заданняў В5– В8**

1. Матэрыялістычная эвалюцыйная тэорыя Дарвіна, якая тлумачыць паходжанне чалавека ад малпаў і якой сёння прытрымліваюцца многія вучоныя, ніяк не стыкуецца з рэлігійнымі пастулатамі аб паходжанні чалавека (хрысціянства, іслам, іудаізм). 2. Гэтая нестыкоўка прыводзіць да блытаніны як у светапоглядзе сучаснага чалавека, так і ў пошуках ісціны 3. Больш таго, чым далей, тым вастрэй адчуваеца тупіковасць такой сітуацыі. 4. Як вынік — шматлікія трагедыі, уключаючы наркаманію ў рознай форме, асацыяльнасць паводзін **людзей,** рэлігійныя войны. 5. **Замоўчванне** гэтых супярэчнасцей звязана з тым фактам, што чыста навуковыя і філасофскія пошукі ісціны часта закранаюць інтарэсы ўплывовых груп грамадства. 6. Яскравы прыклад — трагічны лёс Джардана Бруна, які быў спалены інквізіцыяй у Рыме, бо сваімі вучэннямі аб мностве і бясконцасці Сусветаў ён закрануў інтарэсы царквы — на той час **самай** уплывовай у Еўропе арганізацыі.

*В. Гігевіч*

***B5. Вызначце, якія з прыведзеных характарыстык адпавядаюць тэксту:***

1) стыль — публіцыстычны;
2) тып тэксту — разважанне;
3) тып тэксту — апісанне;
4) від сувязі сказаў — паслядоўная;
5) галоўная думка тэксту заключаецца ў 5-м сказе.

***B6. Вызначце спосаб утварэння выдзеленага ў 5-м сказе слова. Адказ запішыце ў назоўным склоне.***

***B7. Вызначце, якія марфалагічныя прыкметы адпавядаюць выдзеленаму ў 6-м сказе слову:***

1) прыметнік;
2) займеннік;
3) азначальны;
4) ужыта ў форме творнага склону;
5) у спалучэнні з якасным прыметнікам утварае складаную найвышэйшую ступень параўнання.

***B8. Вызначце, якім членам сказа з'яўляецца выдзеленае ў 4-м сказе слова. Адказ запішыце формай творнага склону.***

## ВАРЫЯНТ VIII

### Тэст А

***A1. Адзначце словы, у якіх літара*** *і* ***абазначае два гукі:***

1) іністы; 3) краіна; 5) мураўі.
2) інгушы; 4) інкубатар;

***A2. Адзначце словы з другім націскным складам:***

1) знахар; 3) накрыўка; 5) гліняны.
2) індычка; 4) адзінаццаць;

***A3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *а****:***

1) адц...дзіць; 3) лід...р; 5) крат...р.
2) ф...таздымак; 4) Юпіт...р;

***A4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *ыу****:***

1) індывід...м; 3) дыяр...ш; 5) сімпоз...м.
2) кансорц...м; 4) тр...мфатар;

***A5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны*** *ь (мяккі знак)****:***

1) подз...віг; 3) фел...етон; 5) мыш...як.
2) бракан...ер; 4) астрахан...скі;

***A6. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *ў (нескладовае)****:***

1) кля...за; 3) ма...зер; 5) вернікі - ...ніяты.
2) ба...кон; 4) ла...рэат;

***A7. Адзначце словы, у якіх пішацца спалучэнне*** *ды****:***

1) блан(ды, дзі)н; 4) Гарыбаль(ды, дзі);
2) (ды, дзі)відэнды; 5) ме(ды, дзі)цына.
3) бамбар(ды, дзі)роўка;

***A8. Адзначце правільна напісаныя словы:***

1) праіснаваць; 3) паіменны; 5) субінспектар.
2) звышімклівы; 4) займальны;

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара*** *е:*

1) ал...горыя, п...радплечча;
2) канф...дэнцыяльны, в...рталёт;
3) куп..., дыл...тант;
4) н...рвовы, в...цярок;
5) л...мантаваць, м...тровы.

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) праектны, маніфестантка;
2) кантэкстуальны, карысны;
3) птаства, артылерыст;
4) тонна, расольнік;
5) застланы, намеснік.

***А11. Адзначце словы, у якіх назіраецца марфалагічнае падваенне:***

1) пачуццё;
2) рассейваць;
3) машынны;
4) аддача;
5) каханне.

***А12. Адзначце радкі, у якіх напісанне ўсіх выдзеленых арфаграм заснавана на фанетычным прынцыпе:***

1) ар***а***ндаваць, ш***а***раваты;
2) выя***зн***ы, квя***ц***істы;
3) бе***с***памылковы, белару***ск***і;
4) а***д***скочыць, ва***дз***яністы;
5) роўн***я***дзь, ва***к***зал.

***А13. Адзначце словы, якія пішуцца з вялікай літары:***

1) Яраслаў (М,м)удры;
2) Пётр (П,п)ершы;
3) (К,к)обрынскія школы;
4) (Г,г)аландскі сыр;
5) (М,м)іцкевічавы творы.

***А14. Адзначце словы, якія адносяцца да спецыяльнай лексікі:***

1) псіхіка;
2) тыпалогія;
3) фіёрд;
4) тынкоўшчык;
5) хранаскоп.

***А15. Адзначце словы з вытворнай асновай:***

1) трэнажор;
2) касманаўт;
3) добры;
4) прыгажэйшы;
5) чырвань.

***А16. Адзначце словы са словаўтваральным суфіксам:***

1) работа;
2) тоненька;
3) свежына;
4) фантазёр;
5) цянёк.

***А17. Адзначце словы, род якіх вызначаецца па агульным назоўніку:***

1) Сочы;
2) ВНУ;
3) Гобі;
4) АЗС;
5) рэнамэ.

***А18. Адзначце назоўнікі, у якіх у форме творнага склону падаўжаецца зычны гук асновы:***

1) Беларусь;
2) аброць;
3) Сібір;
4) любоў;
5) Прыпяць.

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме роднага склону адзіночнага ліку ў залежнасці ад лексічнага значэння слова могуць мець канчаткі*** *-а* ***ці*** *-у:*

1) вулканізатар;
2) фурман;
3) вугор;
4) парк;
5) гранат.

***А20. Адзначце словазлучэнні, у якіх адносныя прыметнікі ўжываюцца са значэннем якасных:***

1) крыштальнае сумленне;
2) дажджлівы дзень;
3) лісіны след;
4) сонечны настрой;
5) салодкі кампот.

***А21. Адзначце сказы, у якіх трэба ўжыць займеннік*** *сябе****:***

1. Гарманіст паводзіў ... больш стрымана, чым бубнач.
2. Калі вярнулася зноў у сям'ю, дзяўчына адчувала ... адчужана.
3. Селі на мяккай і цёплай саломе, быццам яна ўсё яшчэ захоўвала ў ... энергію сонца.
4. Зоя вінавацiла ... , што даверылася Гардзею.
5. Каця пагардліва сказала: «Што ... думаеш? У вёсцы ж усё навідавоку».

*З. Дудзюк*

***А22. Адзначце дзеясловы, якія не маюць формы цяперашняга часу:***

1) павялічыць;
2) рассцілаць;
3) знаёміцца;
4) заўважыць;
5) адкрэсліць.

***А23. Адзначце дзеясловы, ад якіх дзеепрыметнікі ўтвараюцца з дапамогай суфікса -*** *ан* ***-:***

1) адшліфаваць;
2) пракласці;
3) прагаварыць;
4) забяспечыць;
5) асудзіць.

***А24. Адзначце прыслоўі, якія пішуцца разам:***

1) не гавары (без) толку;
2) назірае (з) блізку;
3) дзяўчына (да) спадобы;
4) дапамог (па) сяброўску;
5) наведвае (што) дзень.

***А25. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, у якіх*** *не* ***з дзеепрыметнікамі пішацца асобна:***

1) святло (не) запалена;
2) (не) узаранае калгаснікамі поле;
3) (не) пасаджанае мною дрэва;
4) (не) прачытаны твор;
5) (не) насычаны колер.

***А26. Адзначце словы, з якімі часціцы пішуцца праз злучок:***

1) ён такі прыйдзе;
2) вам жа пакажуць;
3) амаль што поўны;
4) дзе небудзь знайду;
5) паведаміў такі.

***А27. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць працяжнікам:***

1. Інстынкт падказваў сабаку, што ахоўваць зуброў гэта і яго абавязак (*А. Брытун*).

2. Слухаючы бацькавы аповеды аб лясных жыхарах, Глеб цікавіўся ўсім назвамі дрэў і кустоў, звычкамі птушак і звяроў (*А. Брытун*).

3. Цяжкасці перамагаць вучыць жыццё само (*Абай*).

4. Будзе зашмат спакус прама ступай, не збоч (*Абай*).

5. Творчасць Францішка Багушэвіча вяршыня нацыянальнай ідэі беларускага адраджэння ў XIX стагоддзі (*Я. Янушкевіч*).

***А28. Адзначце сказы з адасобленымі азначэннямі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Тэкст у кнізе Алеся Карлюкевіча «Радзімазнаўства» аздабляюць шматлікія паштоўкі выпушчаныя ў пачатку мінулага стагоддзя (*Г. Макарчык*).

2. Спачатку чалавек выкарыстоўваў прыправы з простай мэтай адбіць непрыемны пах і спецыфічны смак некаторых прадуктаў (*А. Камароўскі*).

3. Атуленая кустоўем каламутна цякла ў далёкае мора рака (*А. Камароўскі*).

4. Маня ўздыхнула і зірнула на бацькоў якія дачасна старэлі ад зазнанай долі (*А. Бутэвіч*).

5. Дзяўчына моўчкі пазірала на абмыты дажджом лапушысты бульбоўнік (*А. Бутэвіч*).

***А29. Адзначце сказы з састаўным дзеяслоўным выказнікам:***

1. На складзе выдалі штаны і куртку, керзавыя боты і каску (*А. Камароўскі*).

2. Праз які тыдзень сакавітае зяленіва траў і лістоў пачне губляць яркасць фарбаў, аддаўшы сілу ў прыплод і насенне (*А. Камароўскі*).

3. Працадзіўшы сок, апускаў яго ў пограб, пераліваў у сталітровую бочку (*А. Камароўскі*).

4. Алена стала з сынам кожныя выхадныя наязджаць у вёску (*Т. Гарэлікава*).

5. Ох, і далося ў знакі Ною гэтае сала! (*А. Камароўскі*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх пабочныя словы (спалучэнні слоў) аддзяляюцца коскай (коскамі). Улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены:***

1. Зрабілася нават трохі няёмка за свае слёзы перад блізкімі людзьмі (*А. Брытун*).

2. Я любіла Алу як можна любіць блізкага чалавека скажам сястру (*Р. Баравікова*).

3. Хутка ты аднак з’явіўся (*А. Брытун*).

4. Як бачым сонечнае святло выпраменьваюць нават «зімовыя» вершы Аляксея Капацкевіча (*А. Гармель*).

5. Шчыравалі на панскім як на сваім бо іначай выгнаў бы пан не было б наогул ніякага занятку (*А. Бутэвіч*).

***А31. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Калі Рыгор лёг спаць усё думаў як там Рык (*А. Брытун*).

2. Дзень і ноч амаль без адпачынку везлі іх закутых у кайданы ў невялікіх калясках без спінак з якіх лёгка было выпасці і быць раздушаным (*М. Бандарэнка*).

3. Прытомлены сабака бег наперадзе і калі азіраўся вочы яго свяціліся чырванаватым бляскам (*У. Сцяпан*)

4. Якраз тады калі Андрэй вучыўся ў адзінаццатым класе ў раённым цэнтры праходзіла зімовая спартакіяда па лыжах (*А. Камароўскі*).

5. Ледзьве я дачакаўся калі паўночы мінула і прыйшоў айцец Рафаіл (*В. Чаропка*).

***А32. Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць двукроп'ем:***

1. Родныя не прынялі чужыя злітуюцца і дапамогуць (*З. Дудзюк*).

2. Рамейка супакоіўся ў добры час ён трапіў да Арсеня (*Ул. Дамашэвіч*).

3. На мяжы стагоддзяў тэатр стаў іншым памаладзеў творчы склад групы, нашмат вырас прафесіяналізм салістаў, аркестра, хору (*А. Ладыгіна*).

4. Дома Мікола паважыў сома бязмен паказаў на сем кілаграмаў (*А. Камароўскі*).

5. Зброя перайшла Рыгору ад бацькі пістоль вісеў у хаце на сцяне як упрыгажэнне (*А. Брытун*).

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Метанімія — від тропа, заснаваны на выкарыстанні слова ў пераносным значэнні, якое развіваецца на аснове падабенства прадметаў або з'яў.

2. У аснове слова выражаецца яго лексічнае значэнне.

3. Суфікс — частка слова, якая стаіць пасля кораня і служыць для ўтварэння новых слоў ці новых форм слова.

4. Нулявы канчатак не з'яўляецца паказчыкам граматычнай формы слова.

5. У слове не можа быць больш за дзве прыстаўкі.

***В2. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай з пункту гледжання вытрыманасці граматычных (марфалагічных і сінтаксічных) норм. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Вы ўсе адзеты ў доўгія кашулі і глядзіце чамусьці ў неба (*А. Бруй*). Б. Палеткі вызваляліся з-пад снежнай футры (*Ул. Ліпскі*). В. Торбу з хлебам і соллю Данілка трымаў над вадой двума рукамі, плывучы на спіне (*А. Камароўскі*). Г. «Дзед гаварыў мне, што Расія — вялікая краіна, вучы рускую мову, у жыцці спатрэбіцца», — адказаў паручнік (*А. Брытун*). | 1. Граматычныя нормы не парушаны. 2. Памылка ва ўжыванні лічэбніка. 3. Памылка ва ўтварэнні формы назоўніка. 4. Памылка ў будове сказа з простай мовай. 5. Памылка ва ўтварэнні формы дзеяслова. |

***В3. Знайдзіце ў сказах фразеалагізмы і вызначце, якому члену сказа яны адпавядаюць. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Вось таму і я кахання баюся як чорт ладану (*І. Шамякін*). Б. Злыя языкі толькі і чакаюць, калі можна папляткарыць (*А. Марціновіч*). В. Хто паклапоціцца пра салдат і абароніць іх ад такіх гарачых галоў, як ротмістр Ягашын? (*І. Шамякін*). Г. Мы з вамі сур'ёзныя дзяржаўныя людзі, а вы мне галаву марочыце, што яны заблудзіліся (*А. Брытун*). | 1. Дзейнік. 2. Выказнік. 3. Акалічнасць. 4. Азначэнне. 5. Дапаўненне. |

**Тэкст да заданняў В4–В8**

1. У лёсавызначальныя моманты жыцця чалавека часам можа выратаваць толькі вера, якая мае велізарную энергію. 2. Думка, падтрыманая верай, набывае моцную матэрыяльную сілу. 3. Паказальная гісторыя хваробы К. Э. Цыялкоўскага, які ў маладосці захварэў на рак, але не адчаяўся, таму што верыў: у Космасе ёсць Розум, які не пакіне яго ў бядзе. 4. Малады філосаф выходзіў на дах свайго доміка ў Калузе і звяртаўся да Неба з просьбаю аб выздараўленні. 5. І просьба яго была пачута. 6. Бацька сусветнай касманаўтыкі яшчэ многае паспеў зрабіць у сваім жыцці, бо памёр ён у **семдзесят восем** гадоў. 7. Пры ўскрыцці дактары выявілі даўнюю злаякасную пухліну, якая па незразумелых для іх прычынах калісьці была ізалявана ад усяго арганізма.

8. Бываюць выпадкі, калі для вылечвання не было ніякіх іншых фактараў, акрамя веры. 9. Так здарылася і з адным амерыканскім вясковым хлопцам, які захварэў на рак горла. 10. У бальніцы яму сказалі, што трэба

прайсці курс промневай тэрапіі і ён паправіцца, але найперш вырашылі памераць тэмпературу, паклаўшы градуснік хвораму ў рот. 11. Па выразе твару пацыента доктар зразумеў, што той прыняў градуснік за прыбор промневай тэрапіі, аднак нічога гаварыць не стаў. 12. За некалькі такіх «сеансаў» рак у амерыканскага хворага цалкам прайшоў.

13. Дзякуючы веры вярнулі сабе здароўе тысячы і тысячы людзей. 14. Адны з іх верылі ў новае цудадзейнае лякарства, другія — у свайго анёла-**ахоўніка**, трэція — у святыя мошчы альбо малітвы… 15. Вынік быў адзін — поўнае выздараўленне.

16. Чытаючы гісторыю Пачаеўскай лаўры, я знайшоў дзясяткі прыкладаў такога цудоўнага вылечвання. 17. Прызнаюся шчыра: я гэтым фактам і верыў, і недзе ў глыбіні душы трохі сумняваўся.

18. Але вось знаходжу таму навуковае абгрунтаванне. 19. У часопісе «Наука и религия» чытаю: большасць з тых, хто звяртаецца за дапамогаю да «намоленай» іконы альбо да знакамітага лекара, і не падазравае, што дзякуючы сваёй веры яны падключаюцца да моцнага энергаінфармацыйнага поля. 20. Гэтае поле можа канцэнтраваць у сабе каласальную сілу Боскай энергіі, якая і перадаецца пакутнікам і якая ў рэшце рэшт і памагае ім. 21. Галоўнае, каб у чалавека была вера, настрой на гэту дапамогу.

*З. Прыгодзіч*

***В4. Адзначце, пры дапамозе якіх сродкаў звязаны сказы 4–5:***

1) сінонімы;
2) злучнік;
3) лексічны паўтор;
4) займеннік;
5) прыслоўе.

***В5. Адзначце, якія з прыведзеных характарыстык адпавядаюць дадзенаму тэксту:***

1) навукова-папулярны падстыль;
2) публіцыстычны стыль;
3) тып тэксту — апавяданне з элементамі разважання;
4) тып тэксту — інфармацыйная заметка;
5) задача тэксту — паказаць вырагавальную сілу энергіі веры ў лёсавызначальныя моманты жыцця асобных людзей.

***В6. У сказах 1–4 знайдзіце слова, у якім адбываецца азванчэнне парнага глухога зычнага. Выпішыце слова ў той форме, у якой яно ўжыта ў тэксце.***

***В7. Вызначце, якім членам сказа з'яўляецца выдзеленае ў 14-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме творнага склону.***

***В8. Адзначце, якія марфалагічныя прыкметы адпавядаюць выдзеленаму ў 6-м сказе спалучэнню слоў:***

1) лічэбнік;
2) парадкавы;
3) колькасны;
4) састаўны;
5) ужыты ў форме вінавальнага склону.

## ВАРЫЯНТ IX

### Тэст А

***А1. Адзначце словы, у якіх літары*** *е, я* ***абазначаюць мяккасць папярэдняга зычнага гука:***

1) вымяральны; 3) між’ярусны; 5) шчаўе.
2) медзь; 4) гарэльеф;

***А2. Адзначце словы, у якіх на месцы спалучэнняў*** *жс, шс* ***вымаўляецца гук*** *[с]****:***

1) смяешся; 3) адважся; 5) ганарышся.
2) парыжскі; 4) чувашскі;

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *і****:***

1) нел...гальны; 3) нел...квідны; 5) за...скрыцца.
2) пра...граны; 4) усм...хацца;

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *ыя****:***

1) пр...рытэт; 3) д...лог; 5) к...скёр.
2) ав...цыя; 4) сер...л;

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны апостраф:***

1) куп...істы; 3) Лавуаз...е; 5) Соф...я.
2) ін...екцыя; 4) паштал...ён;

***А6. Адзначце словы (спалучэнні слоў), у якіх прапушчана літара*** *ў (нескладовае)****:***

1) з’ява ...нікальная; 4) меды...м;
2) адлюстравалі ...рбанізацыю; 5) кла...нада.
3) па...коўнік;

***А7. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *ц****:***

1) нак...юрн; 3) жані...ьба; 5) ча...вёрты.
2) на лава...цы; 4) парахо...ства;

***А8. Адзначце правільна напісаныя словы:***

1) выігрышны; 3) бортінжынер; 5) перайманне.
2) запрэжаны; 4) прайгнараваць;

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца літара*** *я****:***

1) сп...шацца, дал...гляд;
2) рады...лячэнне, вал...р’ян;
3) вільгац...паглынальнік, вугл...воз;
4) дз...вяты, хвал...падобны;
5) св...ткаваць, выгл...д;

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) палескі, пустазелле; 4) няўрымслівы, Гумбальт;
2) Адэсса, хваляванне; 5) княства, кампактны.
3) поздна, абстрактны;

***А11. Адзначце словы, у якіх назіраецца падваенне:***

1) рассцілаць; 3) існінны; 5) купанне.
2) песенны; 4) вогненны;

***А12. Адзначце радкі, у якіх напісанне ўсіх выдзеленых арфаграм заснавана на фанетычным прынцыпе:***

1) ся***дз***іба, двуко***сс***е; 4) Шмі***т***, б***е***з загаду;
2) ц***а***гляны, у***с***хапіцца; 5) каўка***з***скі, molad***зь***.
3) баранаві***ц***кі, пера***д***стартавы;

***А13. Адзначце словазлучэнні, у якіх першае слова пішацца з вялікай літары:***

1) (З, з)аходняя Беларусь; 4) (М, м)езазойская эра;
2) (В, в)осьмае сакавіка; 5) (Дз, дз)ень настаўніка.
3) (Т, т)уманнасць Андрамеды;

***А14. Адзначце словазлучэнні, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца ўстарэлым:***

1) чытаць **судзебнік**; 4) арганізавалі **суботнік**;
2) легкадумны **фланёр**; 5) запалілі **паходні**.
3) вядомы **стаханавец**;

***А15. Адзначце словы, у якіх аснова выдзелена правільна:***

1) <u>вясн</u>ою (прыслоўе); 3) <u>міласців</u>ы; 5) <u>адпіса</u>ць.
2) <u>какаду</u>; 4) <u>брат</u>аў;

***А16. Адзначце словы, утвораныя ад прыслоўяў:***

1) пазаўчора; 3) задарам; 5) утрох.
2) па-добраму; 4) ушчыльную;

***А17. Адзначце словы, якія не маюць роду:***

1) алоэ; 3) фарсі; 5) Калінкавічы.
2) нажніцы; 4) дажынкі;

***А18. Адзначце назоўнікі, у якіх пры скланенні назіраецца чаргаванне зычных у аснове:***

1) пост (ваен.); 3) страха; 5) салоўка.
2) эпоха; 4) сяброўка;

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме адзіночнага ліку роднага склону маюць канчатак -*а *(-*я*):***

1) пянёк; 3) карабель; 5) шторм.
2) ураджай; 4) барометр

***А20. Адзначце прыметнікі, ад якіх не ўтвараюцца ступені параўнання:***

1) рэдкі; 3) вусаты; 5) каменны.
2) халасты; 4) блізкі;

***А21. Адзначце сказы з указальнымі займеннікамі:***

1. Зося ўявіла, як уваліцца ў «чортава акно» ў балоце, патоне і ніхто ніколі не знойдзе яе.

2. Не, дзяўчына не жадала такой смерці.

3. Дзяўчына схапілася за галіну нейкага куста.

4. Зося зразумела, што ў гэтае балотца яна і ўлезла.

5. Каваліха скінула з Зосі кажух, якім тая была накрыта, і зашаптала малітву.

*З. Дудзюк*

***А22. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 1-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчаткі** -ом ( -ём)**:***

1) браць; 3) пазычаць; 5) скокнуць.
2) класці; 4) сячы;

***А23. Адзначце правільна ўтвораныя і запісаныя дзеепрыметнікі:***

1) купленыя кнігі; 4) паліто пашыта;
2) настояны адвар; 5) дасеянае проса.
3) адпрасаванная кашуля;

***А24. Адзначце прыслоўі ў форме найвышэйшай ступені параўнання:***

1) найлепей; 4) найменш шкодна;
2) больш прывабна; 5) больш эфектыўна.
3) самы разумны;

***А25. Адзначце словы з прыстаўкай** неда**-:***

1) недатыка; 4) недаказальнасць;
2) недапрацаваны; 5) недавучаны.
3) недавага (гандл.);

***А26. Адзначце сказы, у якіх прыназоўнік** праз **мае прасторавае значэнне і ўжываецца пры назвах прадмета, асяроддзя, прасторы:***

1. Душа Зосі была абцяжарана ўласнымі трывогамі і згадкамі, праз якія Юлеку ніяк не ўдавалася дастукацца да яе душы (*З. Дудзюк*).

2. Абоз рушыў з маёнтка па дарозе праз лес (*З. Дудзюк*).

3. Сэрца быццам забылася, колькі бяды зведала Каця праз Гардзея (*З. Дудзюк*).

4. Праз дзень брычка на палазах па глыбокім снезе несла галоўнага распарадчыка Белавежскай пушчы ў губернскі горад Гародню (*А. Брытун*).

5. Панадзіліся да нас у пушчу прускія афіцэры на паляванне, забіваюць употай зуброў і цягнуць іх праз кардон (*А. Брытун*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў трэба паставіць коскі:***

1. Зося … як скінула хустку ў час скокаў … дык больш яе і не завязвала (*З. Дудзюк*).

2. На дачы, у вёсцы не выкідвайце … не паліце проста так засохлыя садовыя дрэвы … а беражыце іх на шашлыкі (*А. Камароўскі*).

3. Зімою Мікола варыў з грыбамі мачанку … або суп … ці расольнік (*А. Камароўскі*).

4. Ды мядзведзь … і той сваю бярлогу … і лес мае … і на мядзведжай мове з медзведзянятамі размаўляе (*А. Бутэвіч*).

5. Птушкаловы, як лясныя прывіды, ціха блукалі ці ў гушчарах … ці ў падлесках … сноўдалі па берагах рэк і азёрных затоках (*А. Камароўскі*).

***А28. Адзначце сказы, у якіх зваротак выдзяляецца коскай (коскамі). Улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены:***

1. Тамашняя зямля аднак не толькі песенная (*Г. Макарчык*).
2. Дзякуй табе дубе што ты клапоцішся пра нас (*В. Гігевіч*).
3. Мой запаветны верш маўчання цябе ніяк не напішу (*М. Дукса*).
4. На шчасце тата нічога не заўважыў бо кешкаўся з возам (*А. Бутэвіч*).
5. Вось братка ты мой праца ў нас толькі распачынаецца (*А. Брытун*).

***А29. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:***

1. Слова і дух чалавека паяднаны між сабою … і асцярожна трэба ім, словам, карыстацца (*В. Гігевіч*).
2. А ў гэты ж час на дрэве паяўляліся новыя лісты … і распускаліся кветкі (*В. Гігевіч*).
3. Шмат вады сплыло па іх рэчцы жыцця … але ж тое-сёе асела ў памяці (*У. Ліпскі*).
4. Хай вас цемра-бяда абміне … і ваш погляд заўжды будзе ясным! (*А. Капацкевіч*).
5. Зараз я схаджу да Гардзея … і ўсё вырашыцца (*З. Дудзюк*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:***

1. Жыццё … як расінка світальнай гары, што ціха цяжэе, буйнеючы звыкла (*М. Дукса*).
2. Жыццё … як расінка … працягне свой шлях, калі існавала з нябёсамі ў згодзе (*М. Дукса*).
3. Здраднік … як скрозь зямлю праваліўся (*А. Брытун*).
4. Бяроз асенніх залацяцца свечкі ў надрэчным гаі … як у храме вечным (*М. Маляўка*).
5. Навальніца бушавала не больш … як дзесяць хвілін, але бяды нарабіла вялікай (*А. Бутэвіч*).

***А31. Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку трэба дапоўніць двукроп'ем:***

1. Дарэчы, полацкая тэма ў зборы філакартыста Уладзіміра Ліхадзеева невыпадкова займае важнае месца калекцыянер нарадзіўся ў гэтым старажытным беларускім горадзе (*Г. Макарчык*).
2. Мая душка не перабірушка што жонка паставіць, тое і з'ем (*А. Камароўскі*).
3. Ісці ў лес было боязна ноччу мала які звер мог пераступіць дарогу (*А. Камароўскі*).

4. Будзе натхненне і ўменне чалавек аздобіць і каменне (*А. Камароўскі*).

5. Запечанае ў фользе не патрабуе тлушчу ці масла таму яго прыраўніваюць да дыетычнага харчавання (*А. Камароўскі*).

***А32. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Пры Нёмане, сярод ляшчынніку і чаромхі, расла чарамша — мядзведжы часнок.

2. Ной чуў, што чарамша, нават, была некалі магутным сродкам ад цынгі.

3. Багатая вітамінамі, яна поўніла яго цела бадзёрасцю і сілай, маладой лёгкасцю і прыткасцю.

4. Тады ж, вясной, Ной шчыпаў маладыя смалістыя адросткі сасонак перамешваў іх з цукрам іварыў на маленькім агні, пакуль месіва не станавілася цягучым, як мёд, варэннем.

5. Раніцай дарога, бялюткая, іскрыстая, быццам кужальны ручнік, чакала радзівілаўскіх гасцей.

*А. Камароўскі*

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Словы, якія адносяцца да службовых часцін мовы, не могуць утвараць сінанімічныя пары.

2. Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду могуць адносіцца да асоб жаночага полу.

3. Прыназоўнік *праз* у беларускай мове можа мецць прычыннае значэнне.

4. Словазлучэнне адрозніваецца ад сказа тым, што не выконвае камунікатыўнай функцыі (функцыі зносін).

5. Аднасастаўныя назыўныя сказы маюць адзін галоўны член — выказнік.

***В2. Знайдзіце назоўнік, які спалучаецца з лічэбнікам*** *паўтара*. ***Утварыце словазлучэнне і запішыце яго ў форме давальнага склону:***

1) шырыня; 3) сотня; 5) дзежка.
2) цэнтнер; 4) талерка;

***В3. Запішыце лічэбнік словам у той форме, якой патрабуе словазлучэнне:*** *2 жанчынамі*.

### Тэкст да заданняў В4–В8

1. У рэспубліканскім ландшафтным заказніку «Котра», які знаходзіцца ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці, з-за браканьерства выклікае занепакоенасць стан мясцовых папуляцый лася, глушца і цецерука; у пагражальным стане знаходзяцца мікрапапуляцыі рысі і барсука. 2. Вы-

сечка лясоў, асабліва на пераўвільготненых землях і на дзюнна-ўзгорыстых градах у пойме ракі Котра, рэзка зніжае біялагічную разнастайнасць.

3. З [1]мэтай [2]аховы [3]заказніка неабходна [4]стварыць трансмежавую беларуска-літоўскую ахоўную [5]тэрыторыю і **распрацаваць** адзіны план кіравання ёй, зацвердзіць структуру кіравання. 4. Для паляпшэння экалагічнай сітуацыі неабходна ў першую чаргу перакрыць дрэнажныя каналы ў паўднёвай частцы заказніка і правесці ў Навадворскім лясніцтве паўторнае забалочванне **выпрацаванага** тарфяніку, які прылягае непасрэдна да заказніка.

*А. Казулін*

***В4. Адзначце, якая з прыведзеных характарыстык адпавядае дадзенаму тэксту:***

1) навуковы стыль, апісанне;
2) афіцыйна-дзелавы стыль, пастанова;
3) мастацкі стыль, апавяданне;
4) публіцыстычны стыль, разважанне;
5) навуковы стыль, разважанне.

***В5. Выпішыце з 1-га сказа слова, у якім назіраецца аглушэнне парнага звонкага зычнага гука, у той форме, у якой яно ўжыта ў сказе.***

***В6. Вызначце, якія з пранумараваных у 3-м сказе слоў мнагазначныя. Укажыце нумары гэтых слоў.***

***В7. Утварыце ад выдзеленага ў 3-м сказе дзеяслова дзеепрыслоўе і запішыце яго.***

***В8. Вызначце спосаб утварэння выдзеленага ў 4-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.***

## ВАРЫЯНТ X

### Тэст А

***А1. Адзначце словы, у якіх адсутнічаюць глухія зычныя:***

1) экзэмпляр;
2) цэджаны;
3) дзяжурства;
4) драўляны;
5) звяно.

***А2. Адзначце сярод прыведзеных пар слоў паронімы:***

1) дыпламат — дыпламант;
2) быльнік — быльнёг;
3) карыслівы — карысны;
4) зажынкі — дажынкі;
5) грыб — грып.

***А3. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *о****:***

1) др...вастой;
2) ч...рствы;
3) п...ліклініка;
4) ч...рнабароды;
5) м...такалона.

***А4. Адзначце словы, у якіх прапушчана спалучэнне*** *ія:*

1) мін...цюрны; 3) функц...наванне; 5) ф...летавы.
2) арх...логія; 4) пал...графія;

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчаны апостраф:***

1) двух...ярусны; 3) канферанс...е; 5) куцюр...е.
2) саф...ян; 4) камп...ютар;

***А6. Адзначце словы (спалучэнні слоў), у якіх прапушчана літара*** *ў* ***(****не-складовае****):***

1) шэдэ...р;
2) сыны ...ладзіслава;
3) ма...залей;
4) верш «Прарок» ...стрывожыў;
5) філасо...скі.

***А7. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** *т:*

1) ала...ка; 3) увачаві...кі; 5) кантынген... .
2) фу...баліст; 4) кля...венны;

***А8. Адзначце правільна напісаныя словы:***

1) узыйсці; 3) непрымальны; 5) падыспы́тны.
2) абылгаць; 4) праігравальнік;

***А9. Адзначце радкі, у якіх на месцы пропускаў пішацца літара*** *э:*

1) кашн..., менеджм...нт;
2) кап...ла, р...халакацыйны;
3) зар...ва, тр...вожны;
4) рэзюм..., тун...ль;
5) Рыа-дэ-Жан...йра, р...цэнзент.

***А10. Адзначце радкі, у якіх усе словы напісаны правільна:***

1) таварыства, хараство;
2) Брэстчына, бліскнуць;
3) па-ціхеньку, мноства;
4) наваколле, расольнік;
5) донна, калекцыя.

***А11. Адзначце словы з фанетычным падаўжэннем:***

1) гуллівы; 3) найменне; 5) каменне.
2) Прыпяццю; 4) каменны;

***А12. Адзначце радкі, у якіх напісанне ўсіх выдзеленых арфаграм заснавана на марфалагічным прынцыпе:***

1) вым***а***ўленне, жы***цц***ё;
2) во***д***гук, дзес***я***ць;
3) ***в***узкі, ганары***ш***ся;
4) грама***д***скі, перакла***д***чык;
5) ай***с***берг, б***я***люткі.

***А13. Адзначце словазлучэнні, у якіх усе словы пішуцца з вялікай літары:***

1) (З,з)лучаныя (Ш,ш)таты (А,а)мерыкі;
2) (К,к)раіна (Ц,ц)юльпанаў;
3) (С,с)усветны (С,с)авет (М,м)іру;
4) (Р,р)эч (П,п)аспалітая;
5) (Б,б)еларускі (Дз,дз)яржаўны (У,ў)ніверсітэт.

***А14. Адзначце словазлучэнні, у якіх выдзеленае слова адносіца да лексікі абмежаванага ўжывання:***

1) скандынаўскі **эпас**;
2) уключаны **кампрэсар**;
3) пабудавалі **газаправод**;
4) паставілі **дыягназ**;
5) змагаліся на **барыкадах**.

***А15. Адзначце формы слова*** *дарога**:***

1) падарожнік;
2) дарожачка;
3) прыдарожны;
4) дарожка;
5) дарожанька.

***А16. Адзначце словы, утвораныя ад назоўнікаў:***

1) інтэлектуальны;
2) сівізна;
3) апрацоўка;
4) рэдактарскі;
5) крухмалістасць.

***А17. Адзначце назоўнікі, лік якіх у беларускай і рускай мовах не супадае:***

1) дзверы;
2) грошы;
3) прыгаршчы;
4) гадзіннік;
5) канікулы.

***А18. Адзначце назоўнікі, у якіх пры скланенні назіраецца чаргаванне гука*** *[о]* ***з нулём гука:***

1) мост;
2) арол;
3) роў;
4) сон;
5) вяршок.

***А19. Адзначце назоўнікі, якія ў форме адзіночнага ліку меснага склону маюць канчатак*** *-ы**:***

1) дэкаратар;
2) страх;
3) калідор;
4) узгорак;
5) узвышша.

***А20. Адзначце прыметнікі, формы ступеней параўнання якіх утвораны правільна:***

1) радаснейшы;
2) больш хутчэйшы;
3) найзванчэйшы;
4) менш значны;
5) здаравейшы.

***А21. Адзначце сказы з адноснымі займеннікамі:***

1. Ад гэтых успамінаў Зосі яшчэ больш зрабілася шкада сябе, такую гаротную і нікому не патрэбную.

2. Каця глядзела на змарнелы Зосін твар і дакарала сябе за тое, што так сурова сустрэла сястру.

3. Дзяўчына падняла ладны камень, які ляжаў на беразе, і шпурнула ў сажалку.

4. Ніхто з выхаванак не ўмеў так хадзіць у пуантах на пальчыках, як яна!

5. Зося далучылася ў двары да слуг, што і ў святочны дзень былі занятыя на гаспадарчым двары.

*З. Дудзюк*

***А22. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 2-й асобы цяперашняга або будучага простага часу абвеснага ладу маюць націскны канчатак*** *-іцё**:***

1) ляцець; 2) ісці; 3) есці; 4) спракудзіцца; 5) спаць.

***А23. Адзначце дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу, якія ўваходзяць у склад тэрмінаў:***

1) запаволеныя рухі;
2) бастуючыя рабочыя;
3) квітнеючы сад;
4) трасіруючая куля;
5) пікіруючы бамбардзіроўшчык.

***А24. Адзначце прыслоўі, утвораныя прыставачна-суфіксальным спосабам:***

1) задоўга;
2) намнога;
3) па-нашаму;
4) бягом;
5) утрох.

***А25. Адзначце фразеалагізмы, у якіх ужываецца часціца*** *ні:*

1) н... свет н... зара;
2) н... лыкам шыты;
3) н... у якім разе;
4) н... за што н... пра што;
5) н... за гарамі.

***А26. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы пішуцца асобна:***

1. Таран **(на) працягу** двух дзён вылічваў штраф за браканьерства і налічыў ажно пяцьдзясят тысяч рублёў.

2. Стражнік звязаў вяроўкай забітаму мядзведзю заднія лапы, **(за) тым** канцы вяроўкі прывязаў да гужоў.

3. У стражніка запытайце, **(за) адно** і я паслухаю.

4. Надзеўшы белыя пальчаткі, распарадчык сеў на каня, і начальства адправілася **(у) след** за ўланам.

5. Вашы людзі тут **ні (пры) чым**.

*А. Брытун*

***А27. Адзначце сказы, у якіх неабходна паставіць працяжнік:***

1. Змеі, як і зубры, таксама пры дарозе рэдкасць, хіба што вужы могуць сустрэцца (*І. Ждановіч*).

2. Затым, усмоктваючы ў сябе ўсё, што траплялася: пыл, апалае лісце, невялікія пáлкі віхор пачаў насіцца па ўскрайку лесу недалёка ад стаянкі людзей (*В. Гігевіч*).

3. Мець свайго каня ў гаспадарцы справа вялікая (*З. Дудзюк*).

4. Паляжыш усяго паўгадзінкі і як не было ўтомнага працоўнага дня (*А. Бутэвіч*).

5. Існуе такі звычай на дажынках выбіраюць самую прыгожую дзяўчыну (*А. Брытун*).

***А28. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць знакамі прыпынку пры адасобленых дапаўненнях (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Алена Таболіч мовазнаўца педагог і перакладчык нарадзілася ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна (*У. Мазго*).

2. Гадлеўскі апрача таго змайстраваў «глеяхват» якім можна было даставаць глей са дна возера (*М. Бандарэнка*).

3. Гардзей ішоў па акрытай вечаровай расой траве (*З. Дудзюк*).

4. На адной стаянцы людзей каменнага веку вучоныя нашых дзён знайшлі косці каля тысячы мамантаў забітых першабытнымі паляўнічымі (*В. Вольскі*).

5. Зося прыняла прымірэнне бо іншай радні акрамя бацькі і Каці ў яе не было (*З. Дудзюк*).

***А29. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы (спалучэнні слоў) з'яўляюцца пабочнымі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. На думку А. Карлюкевіча **і з гэтым нельга не пагадзіцца** адзін з такіх магутных духоўных асілкаў Адам Мальдзіс (*Г. Макарчык*).

2. Далей адбываецца так як і **мусіць** адбывацца калі кіруешся туды дзе даўно хацелася пабываць (*Г. Макарчык*).

3. Пару градаў Ной засаджваў фасоляй музыкай жывата **як казаў сусед-шафёр** (*А. Камароўскі*).

4. Кацярына слухала і **здавалася** Алене што яна разумее яе (*Т. Гарэлікава*).

5. **Пэўна** нехта папярэджвае рабаўніка аб засадах (*В. Чаропка*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць знакамі прыпынку пры параўнальных зваротах:***

1. Светла ў сасновым бары як у храме (*Л. Шашкова*).

2. Запоіны сталіся як бы трэніроўкай, рэпетыцыяй да вяселля (*З. Дудзюк*).

3. Коннікі былі бледныя як палатно і дрыжалі ўсім целам (*А. Брытун*).

4. Хлопцы як злоўленыя злодзеі спалохана зірнулі ў Стасін бок (*А. Бутэвіч*).

5. Чорны як смоль напой быў горкі, але Рыгор працягваў піць маленькімі глыткамі (*А. Брытун*).

***А31. Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку трэба дапоўніць двукроп'ем:***

1. Скажы мне хутчэй чым мне аддзячыць табе за ўсё? (*А. Бароўскі*).

2. Я разумеў удача залежыць раптам ад выпадку, але і выпадак можа быць наканаванасцю (*В. Чаропка*).

3. Папулярнасць Багушэвічавых вершаў, завезеных кантрабандаю ў Беларусь была вельмі вялікай кракаўскі выдавец Анчыц у 1896 годзе паўтарыў выданне «Дудкі беларускай» (*Я. Янушкевіч*).

4. Стражнік павярнуў галаву на старым кілімку ціснуліся адзін да аднаго два бялюткія шчанюкі (*А. Брытун*).

5. Жылі тут жонка імкнулася ў Пецярбург, пераехалі туды нудзіцца па пушчы (*А. Брытун*).

***А32. Адзначце сказы з чужой мовай, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Алена Сасноўская, аналізуючы творчасць мастака Уладзіміра Гардзеенкі, напісала, што «ў яго палотнах цікава спалучаюцца язычніцкія і хрысціянскія матывы» («*Полымя*»).

2. «Ой, бяроза белая, чаму жоўта, нязелена?» — «Як жа мне зялёнай быць? Кожны дзень начлежнікі на карані агонь кладуць. Карэнне маё папалілі, лісцейка пасмалілі» (*З народнага*).

3. — Калі ўжо і вы расчараваліся, дык што ж нам? — адказала Вольга і спагадліва спытала. — А вы ўсё за школу ваюеце? (*З. Дудзюк*).

4. «— Калі астыне, налі стравы сабаку. Няхай паесць, бо ён моцна галодны, — сказаў Рыгор і дадаў: — Яму можна не пасціць» (*А. Брытун*).

5. Я здзівіўся: «Чаго гэта табе закарцела ехаць у такую бездараж за блізкі свет?» — «Развітаюся з Марусяю перад ад'ездам да сваіх», — адказала жонка (*С. Грахоўскі*).

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Неалагізмы ўжываюцца толькі ў навуковым стылі мовы.

2. У форме прошлага часу дзеясловы змяняюцца па ліках і родах.

3. Двухсастаўны сказ — гэта просты сказ з дзвюма граматычнымі асновамі.

4. Пры кіраванні залежнае слова ўжываецца ў форме пэўнага ўскоснага склону.

5. Па сэнсавых адносінах словазлучэнні падзяляюцца на азначальныя, аб'ектныя і акалічнасныя.

***В2. Размясціце сказы ў такім парадку, каб атрымаўся звязны тэкст. Адзначце варыянт правільнага адказу.***

1. Аднак сястра гэтую задумку адразу адпрэчыла, і я з ёю згадзіўся. 2. Цэлы дзень мы думалі, гадалі, якое гэта балота, дзе хаваюць нашага скрадзенага каня, меў на ўвазе бацька, бо вялікіх балот побліз ад нашае вёскі не было, а пра дальнія мы і не чулі. 3. Вядома ж, ён як найхутчэй перахавае Каштана, а то і па дзяшоўцы збудзе, абы купец жыў за блізкім светам. 4. Хіба каб папытаць у каго са старых, асабліва мужчын, хто нямала пааціраўся сярод людзей, пабываў у розных мясцінах. 5. А раптам злодзей побач, і пагалас, што мы збіраемся шнарыць па балотах, дойдзе да яго.

*Н. Рыбак*

1) 5, 2, 1, 3, 4;
2) 1, 3, 2, 4, 5;
3) 4, 3, 2, 5, 1;
4) 2, 4, 1, 5, 3;
5) 2, 5, 3, 1, 4.

***В3. Знайдзіце сказ з памылкай ва ўжыванні ступені параўнання прыметніка або прыслоўя. Запішыце правільны варыянт ужывання формы слова:***

1. Паводле нашых законаў паляваць на зуброў можна толькі з найвысокага дазволу самога імператара (*А. Брытун*).

2. Якраз была пара найвышэйшай сілы прыроды, калі кожны лісцік, кожная кветачка прагна пілі зямныя і нябесныя сілы, шалелі ад хуткаплыннасці лета (*А. Камароўскі*).

3. Бацька Рана лічыўся лепшым паляўнічым роду, але мінулай зімою ён быў моцна паранены (*В. Гігевіч*).

4. Гардзей быў на галаву вышэй за белабрысага хлопца і, па ўсім відаць, значна дужэйшы (*З. Дудзюк*).

5. Свечка асвятляла ўбогае жытло, але яно было нам даражэйшым за палац (*В. Чаропка*).

**Тэкст да заданняў В4–В8**

1. На наступны дзень нецярплівы паніч знайшоў у лесе мурашнік велічынёй у чалавечы рост, пабудаваны вялікімі рыжымі мурашамі, і добра запомніў гэтае месца. 2. Апоўначы ён разгроб яго, не зважаючы на ўкусы, і закапаў туды гаршчэчак з кажаном. 3. Тодар хуценька заткнуў вушы, каб не аглухнуць ад смяротнага піску, але нейкая сіла прымусіла яго азірнуцца. 4. Ды … так і застацца да канца дзён сваіх са скрыўленай шыяй, бо гэта была тая **ўмова**, пра якую не сказала вядзьмарка, пакараўшы яго за фанабэрыстасць.

5. Праз тры дні апоўначы крывы Тодар выкапаў гаршчэчак. 6. На дне яго ляжала тое, што засталося ад няшчаснага кажана: дзве костачкі — кручок і вілачкі.

7. Назаўтра ён падпільнаваў Марылю, калі яна вярталася з сенакосу.

8.— Вой, што гэта з табой? Чаму твая шыя скрывілася, бы ў мёртвага пеўня? — засмяялася дзяўчына (апошні раз яна так смяялася).

9. — Гэта ад кахання да цябе, мая Марылечка! — сказаў Тодар і непрыкметна кручком пацягнуў дзяўчыну да сябе.

10. Што тут здарылася з Марыляй! 11. Нейкая невядомая сіла зламала волю яе і дала няўмольны загад: «Ты належыш Тодару! Любое жаданне яго — закон для цябе!».

12. — Хадзі да мяне, мая любая! — сказаў паніч, і Марыля бязвольна зрабіла крок наперад.

13. — Абдымі мяне! — загадаў Тодар, і дзяўчына пакорна абвіла яго скрыўленую шыю сваімі пяшчотнымі рукамі.

14. І прапала дзяўчына, як сіняя валошка, зрэзаная вострым сярпом… 15. Тры месяцы цешыўся Тодар, піў Марыліну красу, бы ненасытны вурдалак.

*А. Кажадуб*

***В4. Вызначце стыль і тып тэксту:***

1) публіцыстычны, апісанне;
2) публіцыстычны, апавяданне;
3) мастацкі, апавяданне з элементамі апісання;
4) гутарковы, апавяданне з элементамі апісання.

***В5. Знайдзіце ў тэксце дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу. Колькасць дзеепрыметнікаў запішыце лічбай.***

***В6. Знайдзіце ў сказах 1–3 прыметнік, вышэйшая ступень параўнання якога ўтвараецца ад іншай асновы. Выпішыце слова ў той форме, у якой яно ўжыта ў тэксце.***

***В7. Знайдзіце ў тэксце просты сказ, ускладнены адасобленай акалічнасцю. Укажыце яго нумар.***

***В8. Адзначце лексіка-граматычныя характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў 4-м сказе назоўніку:***

1) канкрэтны;
2) адназначны;
3) 1-га скланення;
4) у форме роднага склону множнага ліку мае нулявы канчатак;
5) у форме меснага склону адзіночнага ліку мае канчатак -е.

## ВАРЫЯНТ XI

### ТЭСТ А

***А1. Адзначце словы, дзе колькасць літар і гукаў не супадае:***

1) аб'ёмны; 3) спазняецца; 5) дзьмухавец.
2) дакладчык; 4) назіркам;

***А2. Адзначце рады слоў, у якіх усе зычныя гукі аднолькавыя:***

1) краб — брак; 4) мароз — сорам;
2) казка — каска; 5) авіябаза — забава.
3) пуд — дуб;

***А3. Адзначце словы, у якіх выдзеленыя літары абазначаюць націскныя галосныя гукі:***

1) бл***ы***таніна; 3) крапів***а***; 5) ф***у***рман.
2) апак***а***ліпсіс; 4) таварыш***ы***;

***А4. Адзначце словы, у якіх пішацца літара*** *а:*

1) кват...рант; 3) ц...ліна; 5) сваб...далюб.
2) пр...цігрыпозны; 4) імпр...сарыа;

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара*** ***е:***

1) заб...спячэнне; 3) абц...рэбліваць; 5) кап...люш.
2) л...туценне; 4) аб'...ктыўны;

***А6. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара** я:*

1) ва...нвед; 3) з...фір; 5) дроб...зь.
2) з...млякі; 4) пас...джэнне;

***А7. Адзначце словы, якія напісаны правільна:***

1) веласіпедыст; 3) шчэбятаць; 5) золатарогі.
2) дзевяцёра; 4) царкоўны;

***А8. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара** ы:*

1) аранж...рэя; 3) пл...тагон; 5) інж...нер.
2) д...намічны; 4) ц...стэрна;

***А9. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара** о:*

1) мн...газарадны; 3) ч...лабітчык; 5) др...бнатаварны.
2) в...ўнатрапальны; 4) ч...рнасліў;

***А10. Адзначце выпадкі, у якіх прапушчана літара** ў (нескладовае**):***

1) ка...чук; 3) наведаць а...л; 5) тры...мфатар.
2) на ...ліку; 4) ва ...дмуртыі;

***А11. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара** ь (мяккі знак**):***

1) в...етнамец; 3) каліс...ці; 5) подз...віг.
2) манпанс...е; 4) кан...юнктура;

***А12. Адзначце назоўнікі, у якіх пры ўтварэнні формы меснага склону адбываецца чаргаванне апошняга зычнага асновы:***

1) круцігалоўка; 3) крыўда; 5) Крывы Рог.
2) прыцемак; 4) вупраж;

***А13. Адзначце словы, якія пішуцца праз злучок:***

1) (ампер)гадзіна; 3) (драм)гурток; 5) (па)еўрапейску.
2) (асенне)зімовы; 4) (паў)лімона;

***А14. Адзначце сказы з памылкамі ва ўтварэнні і ўжыванні займеннікаў:***

1. У паветры ляцелі чыісьці падручнікі (*Ю. Станкевіч*).
2. Я ўздыхнуў з палёгкай і паехаў у свой інтэрнат (*Ю. Станкевіч*).
3. Здавалася, нішто не перашкаджала ўрадаўцам атрымаць перамогу (*А. Марціновіч*).
4. Палічыў я, што гэта маладая безразважнасць, а нішто іншае, і сказаў так: «Мілая панна, няўжо вам бывае цяжка, калі ваша жыццё павінна быць ясным» (*В. Чаропка*).
5. Усё пражытае хлопцу хацелася паяднаць у сябе ў штосьці адзінае, суцэльнае (*В. Гігевіч*).

***А15. Адзначце словазлучэнні, у якіх парушана лексічная спалучальнасць слоў:***

1) вучоная ступень;
2) дэкаратыўныя расліны;
3) яблычны сад;
4) вязальны світар;
5) літаральная каса.

***А16. Адзначце ў сказе нумары слоў, якія пішуцца з вялікай літары:***

Вёскі [1](К,к)арпілаўка і [2](Х,х)аружанцы знаходзяцца на тэрыторыі [3](К,к)упалаўскага ландшафтнага заказніка, створанага ў 2000 годзе для захавання [4](М,м)емарыяльных мясцін паэта на тэрыторыі цэнтральнай [5](М,м)іншчыны («Полымя»).

***А17. Адзначце словы з правільна вызначаным лексічным значэннем:***

1) *гарбар* — рабочы на земляных работах, землякоп;

2) *метэарыт* — з'ява кароткай успышкі распаленага цела касмічнага паходжання, якое згарае ў зямной атмасферы;

3) *мецэнат* — багаты апякун навук або мастацтваў;

4) *дыпламат* — пераможца конкурсу, узнагароджаны дыпломам;

5) *яшчур* — вельмі заразная хвароба буйной рагатай жывёлы і іншых парнакапытных.

***А18. Адзначце сказы, у якіх ужываецца прыназоўнік*** *ва:*

1. Больш трымаць радасць ... сабе Гардзей не мог (*З. Дудзюк*).

2. Даруйце, але я з вамі сёння не буду, бо еду ... упраўленне: к нам павінны прыехаць замежныя госці (*А. Камароўскі*).

3. Ран пільна глядзеў ... вочы чалавеку са шрамам на твары (*В. Гігевіч*).

4. Бацюшка казаў: «Часцей звяртайцеся да Бога нашага адзінага, шануйце імя яго, тады ... усім вам будзе Божае спрыянне» (*А. Бутэвіч*).

5. Пра Стасю ... усякім разе нешта гаварылі (*А. Бутэвіч*).

***А19. Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў ужываецца*** *не* ***асобна:***

1. Я ... магла ... успомніць словы жанчын з Вольберавіч, што ў мяне ёсць анёл-ахоўнік (*Н. Міцкевіч*).

2. ... у адной казцы, самай чароўнай, ... гаварылася пра такія цудоўныя магчымасці, якія дае зараз чалавеку мабільная сувязь (*Э. Лінкевіч*).

3. Колькі б ... было ў чалавека матэрыяльных скарбаў, гэта ... дадае яму шчасця (*Э. Лінкевіч*).

4. Раманы Уладзіміра Гніламёдава прасякнуты гоманам жыцця, дзе ... адзін голас ... падобны на другі (*В. Локун*).

5. ... адно ўжо дзесяцігоддзе складае оды сваім землякам-палешукам Георгій Марчук — і ... толькі палешукам, але і зямлі паляшуцкай, зямлі цара Давіда (*В. Локун*).

***А20. Адзначце сказы, у якіх ёсць недахопы ва ўжыванні злучка ці двукосся:***

1. А ці прыйдзе сёння панна Зося на скокі? (*З. Дудзюк*)

2. Два адзінцы дубы пры гонкім лесе нібы вароты ў гэты знаны рай (*М. Мятліцкі*).

3. У канцы чэрвеня вылазілі першыя баравікі каласавікі (*А. Камароўскі*).

4. Капаць было цяжка, і Алена хутка такі стамілася (*Т. Гарэлікава*).

5. З'яўляючыся аўтарам «Давыд-гарадоцкіх канонаў», Георгій Марчук разам з тым стварыў такія раманы, як «Кветкі правінцыі», «Крык на хутары»… (*В. Локун*).

***А21. Адзначце сказы, у якіх ёсць размоўныя словы:***

1. Статак зуброў пакалашмаціў гэтых гора-паляўнічых (*А. Брытун*).

2. Сонцу першым падставіўшы спіну, нерастуе ў затоцы шчупак (*В. Гарановіч*).

3. Мама ўвесь час прасіла прыехаць, каб паглядзець на ўнукаў, і я паляцела з хлопчыкамі ў Беларусь (*А. Бензярук*).

4. Уночы, пры святле месяца і маяка, стары лавіў рыбу, якой было многа ў заліве паміж скалаў (*Г. Сянкевіч, пер. М. Кенькі*).

5. Сабака шмыгануў каля ног гаспадара на вуліцу і пачаў гучна і злосна брахаць на лес (*А. Брытун*).

***А22. Адзначце сказы, у якіх неабходна паставіць працяжнік:***

1. На агромністай ільдзіне рыбакі нібы пінгвіны на планеце антарктычнай (*Т. Кручэнка*).

2. Надворак, агарод, сад, поле за ім усё выглядала абноўленым і чыста вымытым (*А. Бутэвіч*).

3. Кветкі без святла, вершы без аптымізму яшчэ адна прычына, чаму Васіль Гадулька не спяшаўся выходзіць да шырокага чытача (*А. Каско*).

4. Міжволі я зірнула на стол і ўсё зразумела перад начальнікам ляжала мая сценгазета (*А. Тулупава*).

5. У творы Васіля Жуковіча Тадэвуш Касцюшка самаахвярны змагар-пакутнік (*А. Трафімчык*).

***А23. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць коскамі паміж аднароднымі азначэннямі:***

1. Невялікая ціхая бухта з пастаянна спакойным прыбоем (*Н. Цыпіс*).

2. Агатэля накінула на плечы вялізную клятчатую хустку і пайшла з хаты (*З. Дудзюк*).

3. Гарачае сухое лета было ў самым разгары (*С. Сцяпан*).

4. Валобрынка — гэта невялікая надзвычай маляўнічая рачулка з чыстай светлай ласкавай вадою (*І. Міско*).

5. Моцная гордая незалежная натура, з юных гадоў звыклая спраўляцца з цяжкасцямі сама, Ларыса Пампееўна ўсё моўчкі насіла ў сабе (*А. Ладыгіна*).

***А24. Адзначце сказы з адасобленымі членамі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Атлант лічыў што няма на зямлі разумнейшага ад яго чалавека (*Г. Марчук*).

2. Віхор лёгенька вывернуў з карэннем сасну якая сваёю вершалінаю ледзьве не пашкодзіла будан і завываючы і пасвістваючы панёсся ў глыб лесу на хаду ламаючы і крышачы дрэвы (*В. Гігевіч*).

3. Позняй восенню лес даваў яшчэ даніну зялёнкі і падзялёнкі (*А. Камароўскі*).

4. Іван Міхайлавіч акрамя работы ў школе быў вымушаны весці прыватныя заняткі (*Н. Міцкевіч*).

5. Рыгораў жарабец перабіраў капытамі а вочы былі поўныя страху (*А. Брытун*).

***А25. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:***

1. Несціхана бухаў пярун, малаціў … як сто цапоў на таку (*А. Бутэвіч*).

2. Нібы свечка на цёмнай дарозе … немінучы агеньчык мільгне праз віхуру (*У. Марук*).

3. Людзі сядзяць у хатах з сям'ёй, а мы з табой … як валацужнікі якія (*А. Брытун*).

4. З-за таго, што снег наліп на поўсць, зубры выглядалі … як снежныя гурбы (*А. Брытун*).

5. Пазіцыя Мамонічаў умацавалася пасля таго … як яны атрымалі права друкаваць кнігі юрыдычнага характару (*А. Марціновіч*).

***А26. Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы трэба выдзеліць коскамі:***

1. А дзеці *і гэта ўсім вядома* без слоў ведаюць, добры ці ліхі чалавек перад імі (*В. Гігевіч*).

2. Бог выбраў цябе *жанчына* паслаць па шляху за мною (*Я. Чыквін*).

3. Маня ва ўсім *мусіць* іншым саступаць (*А. Бутэвіч*).

4. За спінаю Рана *гэта Сын мядзведзя разумеў* маячыў старэйшына роду (*В. Гігевіч*).

5. Зямля і праўда *як казала некалі Тэкля* забірае ўсе адмоўныя эмоцыі, дадае сілы (*А. Бутэвіч*).

***А27. Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Прыняў я гэтага чалавека за Чортавага бацьку, а то быў нядобры знак (*В. Чаропка*).

2. Гербарый атрымаўся надзвычай прыгожым і інфарматыўным і я аддала яго ў школьны кабінет батанікі (*Н. Міцкевіч*).

3. На небе іскрыліся зоркі, і блішчэў яркі месяц, а пад нагамі гучна рыпеў снег (*А. Брытун*).

4. У гэты час у ваўкоў пачынаецца гон і яны збіраюцца ў зграі (*А. Брытун*).

5. Устала сонца і пайшло сінхронна гудзенне, шапаценне і віццё асвойваць, запаўняць зямное лона на ўдасканаленне, на развіццё (*С. Шах*).

***А28. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць двукроп'ем:***

1. Жанчыны ішлі да будана, дзе хаваліся грыбы, ягады, ядомае карэнне ўсё, што трэба было высушыць і што рыхтавалася на халодную пару (*В. Гігевіч*).

2. Твор памерам невялікі, аднак нездарма кажуць малы залатнік, ды дарагі (*Г. Макарчык*).

3. Ведаеш, што я надумала пасватаю цябе за свайго брата (*З. Дудзюк*).

4. Рыгор зірнуў праз акно там малады стралок прывязваў каня (*А. Брытун*).

5. Вылечаць дактары мае́ ногі я буду толькі бегаць і хадзіць, хадзіць і бегаць (*З. Дудзюк*).

***А29. Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх дададная частка звязана з галоўнай пры дапамозе злучальнага слова:***

1. А яшчэ я любіў бегаць да чыгункі, што праходзіла непадалёку ад хутара (*І. Міско*).

2. Той, хто ўдыхае ў сябе такое жыццядайнае, жыватворнае паветра, не можа заставацца абыякавым да зямлі, на якой жыве (*Г. Макарчык*).

3. Жэрдкі на плот былі новыя, бо старыя, як і частакол, пайшлі ў печ (*А. Камароўскі*).

4. Часнок, калі стаяла сухмень, даўшы ў бочку колькі рыдлёвак попелу, гаспадар палівaў часта нанач (*А. Камароўскі*).

5. Ды і пра іншых знакамітых людзей, у чыёй біяграфіі прапісалася Ашмяншчына, ідзе гаворка (*Г. Макарчык*).

***А30. Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх прапушчаны знакі прыпынку паміж іх часткамі:***

1. У галаву прыходзіць думка: пакуль я гэты адрэзак ракі прайду лодку затопіць (*В. Новак*).

2. У Марусі я нічога не спытаў, аднак у мяне таілася кволая надзея, што яна вернецца ў Вільню і Данута распытае яе сама (*А. Карпюк*).

3. Цяжка было слухаць яго разважанні і адначасова было шкода чалавека, які па дурасці так нявечыць сваё жыццё (*А. Карпюк*).

4. Вобразна-метафарычныя творы Юркі Голуба лёгка пазнаць па адметным паэтычным почырку; росныя словы ў паэта гэтак вясёлкава пераліваюцца рознымі адценнямі, што міжволі заўважаеш: «жарэбчыкам радок танцуе ў канюшыне» (*У. Мазго*).

5. Кожны раз, калі Карней бачыў Уладзіка на калясцы яму згадваўся бязногі бацька, пачынала балець сэрца і розныя горкія думкі лезлі ў галаву (*З. Дудзюк*).

***А31. Адзначце складаназалежныя сказы з дададнай дапаўняльнай часткай:***

1. У касцёл набілася столькі народу, што было не прадыхнуць.

2. Варта ўпусціла мяне ў горад, калі паказаў я ліст пана ваяводы.

3. Слуга прывёў мяне ў прасторную залу, на сценах якой віселі карціны.

4. Тады мне нялёгка было ўявіць, што кароль, як кожны чалавек, хоча быць шчаслівым.

5. Пасля пан спытаў мяне, хто я такі ёсць.

*В. Чаропка*

***А32. Адзначце, які знак прыпынку прапушчаны пры афармленні простай мовы:***

«Надыходзіць вясна, князь, і рэкі разальюцца, — сказаў Астрожскі Рапалоўскаму і па-сяброўску параіў — Не цягні з выступленнем, бо ў такі час цяжка весці нават невялікі атрад» (*І. Шамякін*).

1. Кропка.
2. Двукроп'е.
3. Коска.
4. Пытальнік.
5. Шматкроп'е.

## Тэст В

***В1. Знайдзіце ў сказе слова з арфаграфічнай памылкай. Выпраўце яе і запішыце слова ў пачатковай форме:***

І знешнім выглядам: стройнасцю ліній, дакладнасцю прапорцый — вялікакняжацкі палац у Вільні зрабіў на Алену вялікае ўражанне (*І. Шамякін*).

***В2. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. Полісемія — гэта наяўнасць у слове некалькіх значэнняў.
2. Лексічныя амонімы адносяцца да адной часціны мовы.
3. У беларускай мове пераважае стылістычна афарбаваная лексіка.
4. Слова, якое найбольш поўна выражае агульнае значэнне групы слоў, аб'яднаных сінанімічнымі адносінамі, называецца дамінантай.
5. Арфаэпія — раздзел мовазнаўства, які вывучае паходжанне, гісторыю і семантычную эвалюцыю слоў.

***В3. Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх часцінамоўнай прыналежнасцю. Адзначце нумар правільнага адказу.***

| | |
|---|---|
| А. Данілка, шустры і кемлівы хлапчук, лавіў кожны ўзмах рукі і ківок кухара і тут жа **вопрамеццю** нёсся ў падзамкавыя скляпенні (*А. Камароўскі*).<br>Б. За Марысяй у сані палезлі **іншыя** госці (*А. Камароўскі*).<br>В. Рамейка адмовіўся ад прапановы, **паколькі** ён не згодзен з аўтарскаю трактоўкаю наконт галоўных сіл у Варшаўскім паўстанні (*У. Дамашэвіч*).<br>Г. Гатова ўспыхнуць іскра, якая можа запаліць не **адно** сухое сена ў гумне (*А. Бутэвіч*). | 1. Злучнік.<br>2. Прыслоўе.<br>3. Займеннік.<br>4. Лічэбнік.<br>5. Часціца. |

1. А3 Б5 В4 Г2.
2. А1 Б3 В4 Г2.
3. А3 Б5 В2 Г1.
4. А1 Б3 В5 Г2.
5. А2 Б3 В1 Г5.

***В4. Да назоўніка*** *роўнядзь* ***дапасуйце прыметнік рачны. Словазлучэнне запішыце ў форме творнага склону.***

**Тэкст да заданняў В5–В8**

1. Мёд — складаны біялагічны прадукт. 2. Ён **утрымлівае** комплекс каштоўных біялагічных рэчываў, неабходных чалавеку для жыццядзейнасці, захавання здароўя, падаўжэння актыўнага жыцця. 3. Мёд лёгка засвойваецца арганізмам. 4. У ім утрымліваюцца ў пэўных прапорцыях вітаміны, ферменты, кіслоты, мінеральныя рэчывы. 5. У мёдзе 17 працэнтаў вады і 81 працэнт цукраў: фруктозы, глюкозы, мальтозы, сахарозы і іншых. 6. Даволі шмат у ім вітамінаў: С, $B_1$, $B_2$, РР і іншых.

7. Рознабаковымі гаючымі якасцямі валодае **пропаліс** — прадукт жыццядзейнасці пчол. 8. Гэта смалістае рэчыва зялёна-бурага ці карычневага колеру з прыемным пахам таполевых пупышак, воску, мёду і ванілі. 9. Пропаліс мае складаны хімічны састаў: гэта і духмяныя рэчывы, і смолы, і флавоны, і мінеральныя рэчывы. 10. Многія кампаненты пропалісу дагэтуль невядомыя.

11. Ён аказвае бактэрыцыднае, бактэрыястатычнае ўздзеянне, якое немагчыма параўнаць з уласцівасцямі якога-небудзь іншага натуральнага рэчыва. 12. Пропаліс валодае, акрамя таго, антысептычнымі, сасудапашыральнымі, гіпатэнзіўнымі, жоўцевыдзяляльнымі якасцямі, дапамагае пры дэрматытах, захворваннях прастаты, эндакрынных і стаматалагічных захворваннях.

*П. Сабіна*

***В5. Ад асновы выдзеленага ў 1-м сказе дзеяслова ўтварыце дзеепрыслоўе і запішыце яго.***

***В6. Вызначце сінтаксічную ролю выдзеленага ў 7-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.***

***В7. Знайдзіце ў тэксце складаназалежны сказ і ўкажыце яго нумар.***

***В8. Вызначце стыль тэксту. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.***

## ВАРЫЯНТ XII

### Тэст А

***А1. Адзначце адпаведнасць паміж выдзеленымі літарамі і гукамі, якія яны абазначаюць. Адзначце нумар правільнага адказу:***

| | |
|---|---|
| А. А***д***крыць. В. Спе***ц***брыгада.<br>Б. Пазней. Г. Ра***с***чапіць. | 1. [ш]. 2. [дз]. 3. [з] 4. [т] 5. [з’] |

1. А3 Б5 В1 Г2.
2. А4 Б5 В1 Г3.
3. А4 Б1 В5 Г3.
4. А3 Б1 В5 Г2.
5. А4 Б5 В2 Г1.

***А2. Адзначце словы, у якіх аснова выдзелена правільна:***

1) заўтра; 2) завуголле; 3) метро; 4) бабулін; 5) слухаў.

***А3. Адзначце словы, якія з'яўляюцца адназначнымі:***

1) працаваць; 2) растрэсці; 3) наталіць; 4) інфармаваць; 5) перакласці.

***А4. Адззначце словы, у якіх прапушчана літара а:***

1) фельч...р; 2) тэнд...р; 3) ві...дук; 4) інт...р'ер; 5) гр...надзёр.

***А5. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара е:***

1) бум...ранг; 2) каз...мат; 3) дыс...дэнт; 4) высм...яны; 5) высп...ванне.

***А6. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара о:***

1) мн...гараз...вы; 2) пр...ціпастаўлены; 3) мн...габорац; 4) р...мбападобны; 5) р...знаўзроставы.

***А7. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара я:***

1) н...значны; 2) І...рданія; 3) патры...рхальны; 4) с...гмент; 5) індзе...ц.

***А8. Адзначце выпадкі, дзе прапушчана літара ў (нескладовае):***

1) За...ралле; 2) са...на; 3) прачытаўшы, ...спомніў; 4) раман ...разіў; 5) раманс «Зорка Венера» ...падабаў.

***А9. Адзначце словы, дзе прапушчана літара ь (мяккі знак):***

1) вал...ера; 2) зімоў...е; 3) прос...ба; 4) канс...ерж; 5) подз...віг.

***А10. Адзначце словы, у якіх прапушчаны апостраф:***

1) вар...етэ; 2) медал...ён; 3) гіл...яціна; 4) кур...ер; 5) грудз...мі.

***А11. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара ы:***

1) акард...он; 2) проч...рк; 3) ігр...к; 4) інц...дэнт; 5) тр...вожны.

***А12. Адзначце выпадкі, у якіх ужываюцца прыстаўныя літары:***

1) развіваць ...льнопрамысловасць;
2) дрэсіраваць ...львіцу;
3) пастаноўка ...оперы;
4) конскае ...ржанне;
5) газеты ...абласці.

***А13. Адзначце правільна напісаныя словы:***

1) звышінтэлігентны; 3) падіграць; 5) субінспектар.
2) адыходлівы; 4) стагадовы;

***А14. Адзначце назоўнікі, якія ў родным склоне маюць канчаткі -у(ю):***

1) плач; 3) маладняк; 5) глей.
2) інжынер; 4) мандарын;

***А15. Адзначце прыметнікі, якія пішуцца разам:***

1) (інша) моўны; 4) (вугра) падобны;
2) (быта) апісальны; 5) (практычна) здаровы.
3) (прадметна) лагічны;

***А16. Адзначце сказы, у якіх ужываецца займеннік*** *сябе****:***

1. Усяслаў, пакуль не пабудуюць асобны хорам-палац для прысланага ўладара, не мог не запрасіць каралевіча Рамана, княжну Агапу і яе бацькоў з блізкай раднёю да ... (*Г. Далідовіч*).

2. Пашыла Каця новыя строі ... і сястры, каб выглядаць не горш за маладую (*З. Дудзюк*).

3. Усё на зямлі мяняецца, запомняцца добрыя справы, харошыя людзі, але не тыя, хто працаваў толькі на ... (*Г. Чарказян*).

4. Кардонскі быў не падобны сам да ..., вочы ліхаманкава гарэлі (*Ул. Сцяпан*).

5. Алена была пераканана, што толькі дома Аляксандр верне ... калі не фізічную, то духоўную моц (*І. Шамякін*).

***А17. Адзначце лічэбнікі, якія напісаны правільна:***

1) дваццаты; 3) шэсцьдзесят; 5) дзвесце.
2) васьмы; 4) сямнаццаць;

***А18. Адзначце двухтрывальныя дзеясловы:***

1) акампанаваць; 3) замяняць; 5) хлынуць.
2) інсцэніраваць; 4) дэградаваць;

***А19. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы пішуцца разам:***

1. **(На) працягу** апошніх дзесяці год я не сустракаў жанчыны, якой бы мне так хацелася спадабацца (*А. Андрэеў*).

2. Жыццё ў тайзе без усялякіх выгод не абцяжарвала вучонага **(ні) колькі** (*М. Бандарэнка*).

3. Са стрэльбамі **(на) пагатове** стражнікі акружылі месца здарэння (*А. Брытун*).

4. Цячэнне сагнала Данілку трохі **(у) ніз** (*А. Камароўскі*).

5. На трэніроўцы Сушко быў не **(у) меру** прыдзірлівы да сваіх выхаванцаў (*А. Савіцкі*).

***А20. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з’яўляюцца прыслоўямі:***

1. Гардзей і Зося пайшлі **ўдоўж** ціхай вясковай вуліцы (*З. Дудзюк*).

2. Гэта была дзяўчына, падлетак, якая мо **ўпершыню** прыйшла на танцы (*З. Дудзюк*).

3. Вялікі князь Аляксандр, жаніх Алены, прыслаў ёй **насустрач** многа вяльможных паноў (*І. Шамякін*).

4. Пасля вайны вакол сасны паставілі жалезную агароджу, **побач**, на мемарыяльнай дошцы, імёны, прозвішчы тых, хто тут загінуў (*У. Гніламёдаў*).

5. **Нашто** мне чужыя сны разумець, калі я ў сваіх разабрацца не магу? (*А. Бруй*).

***А21. Адзначце сказы, у якіх ужываецца прыназоўнік*** *са:*

1. Часам які-небудзь дазорца маяка сыходзіць ... службы (*Г. Сянкевіч, пер. М. Кенькі*).

2. Густы чалавечы ланцуг ... крыкам і грукатам рухаўся наперад (*А. Брытун*).

3. Мужчыны моцна, як даўнія сябры, абняліся і ... шчаслівымі тварамі селі за стол (*А. Брытун*).

4. Цяпер ужо ... смехам расчырванелыя госці садзіліся ў сані (*А. Камароўскі*).

5. Бацька вывучаў эсперанта і вёў перапіску ... эсперантыстамі многіх краін (*Н. Міцкевіч*).

***А22. Адзначце сказы з параўнальнымі зваротамі:***

1. Гнуткім носам мамант лёгенька, як былінку, абхапіў дрэўка дзіды і пераламаў яе (*В. Гігевіч*).

2. Разабраўся гэты пан з жаўнерамі, як ліс з куранятамі (*В. Чаропка*).

3. Здавалася, што хлопец быў зліты з вярбою, а моцная дзіда з крэмневым наканечнікам была як звешаная да вады высахлая галіна (*В. Гігевіч*).

4. Я ж, як руплівы шкаляр, запісваў тыя довады, а таму магу некаторыя з іх назваць (*В. Чаропка*).

5. Шчыра, як дзіця, верыла Ганна ў тыя гісторыі (*В. Чаропка*).

***А23. Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Спіць у калысцы хлопчык кучаравы, і толькі ён яшчэ злучае нас (*А. Аўруцін, пер. М. Шабовіча*).

2. Раптам прарваліся жаралы нябёсаў і лінула вада (*В. Чаропка*).

3. Зноў бачны ўвесь блакіт і ўвесь зеніт у яве разлагоджанай, раскрытай, і далеч кліча праявіць зноў спрыт і наталіцца колераў палітрай (*С. Шах*).

4. Досвіткам Рыгор знайшоў тры старыя дубы, там жа ўбачыў прывязанага каня (*А. Брытун*).

5. Дома настане поўны парадак, і спыняцца гэтыя істэрыкі (*А. Брытун*).

***А24. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы трэба ўзяць у дужкі або аддзяліць працяжнікамі:***

1. Бабулі амаль дзевяноста, жыве яна асобна і **як мне падалося** не вельмі любіць свайго зяця (*А. Тулупава*).

2. Фёдар, вельмі здольны хлопец, у юнацкім узросце **як расказваў бацька** многа часу праводзіў з сябрамі, а вучобу зусім закінуў (*Н. Міцкевіч*).

3. Вось якім, па меркаванні маіх рэчынцаў, бывае балота: голае, парослае, іржавае, бруднае, праточнае, застойнае, гнілое, зыбучае, вязкае, альховае **алёс**, бярозавае, асаковае, махавое **амшарыны**, бязлеснае, выжар **балота, якое гарэла**, багна, дрыгва… (*Ул. Ліпскі*).

4. Трымаючы ў галаве месцы мінулага ўраджаю, Ной помніў **як казаў яго знаёмы аграном** пра севазварот і таму мяняў грады, як карты ў калодзе (*А. Камароўскі*).

5. Непрыязь да схізматычкі, якая нават ад кароны праз веру адмовілася **а паны моцна распальвалі гэтую непрыязь ажно чатыры гады**, адразу пагасла, бо паны палюбілі сваю каралеву за яе павагу да іх веры (*І. Шамякін*).

***А25. Адзначце складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем:***

1. Але даступны сэнс жыцця ва ўсім, пакуль я з Вамі, пакуль Вы са мною, пакуль між лёсаў нашых і між зім мы лучаныя доляю адною (*С. Шах*).

2. Увечары, калі ўся сям'я Кірылы сабралася падчас вячэры за сталом, Каця абвясціла дома, што знайшла добрую дзяўчыну для Серафіма (*З. Дудзюк*).

3. Мо там, у чужых багатых людзей, і падгледзела баба Фаіна, што са звычайнай паперы самымі звычайнымі нажніцамі можна рабіць надта прыгожыя рэчы, якія называюцца выцінанкамі (*А. Бутэвіч*).

4. Угледзеў я, як князёўна змянілася з твару, і зразумеў, што перажывае яна за мяне (*В. Чаропка*).

5. Ах, сонейка гаючае, ратуй маленькую зялёную хваінку, што мкнецца ўвысь, каб з небам гаварыць (*Н. Маеўская*).

***А26. Адзначце сказы з правільна пастаўленымі знакамі прыпынку:***

1. У фользе можна запякаць, быццам у вясковай печы або на кастры, ці над вуголлем (*А. Камароўскі*).

2. Хлопцы глянулі пад ногі, дзе бялеў пясок і зелянела трава (*В. Гігевіч*).

3. Мацейка — хутарскі вяшчун — усё ведае і на ўсё мае свой погляд (*А. Бутэвіч*).

4. Распарадчык пачаў нешта тлумачыць старшаму жандарму, той толькі ківаў галавой, згаджаючыся (*А. Брытун*).

5. Праз гадзіны тры, калі прыгрэла сонца хлопчыку надакучылі і арэхі, і пякучая крапіва (*А. Камароўскі*).

***А27. У якім парадку трэба размясціць сказы, каб атрымаўся звязны тэкст? Адзначце варыянт правільнага адказу.***

1. Вартавы пазнаёміўся і з чайкамі, якія жылі ў расселінах скалаў, а вечарамі бавілі час на даху маяка.

2. Стары хадзіў сярод чаек, нібы пастух сярод авечак.

3. Стары прызвычаіўся прыносіць ім рэшткі ежы і так прыручыў іх, што неўзабаве птушкі зляталіся і каля яго бушавала сапраўдная бура белых крылаў.

4. Стары дазорца маяка прывык да вежы, да ліхтара, да скалаў, да берагавога пяску і самоты.

5. Няма нічога больш аднастайнага, чым жыццё на маяку, дзе адзін дзень робіцца падобным на другі, але Скавінскі адчуваў сябе такім шчаслівым, якім яшчэ ніколі ў жыцці не быў.

*Г. Сянкевіч, пер. М. Кенькі*

1) 1, 5, 3, 2, 4;
2) 1, 4, 3, 2, 5;
3) 5, 1, 3, 2, 4;
4) 5, 4, 1, 3, 2;
5) 5, 2, 4, 3, 1.

***А28. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць двукроп'ем:***

1. Мне раптам падалося гэтая бабуля — выпадкова ацалелы сведка ўсіх войнаў на зямлі (*Н. Цыпіс*).

2. Бялынкавічы незабыўна прыгожае старадаўняе мястэчка на высокім беразе Бесядзі (*Л. Левановіч*).

3. Скажам яму праўду можа пакрыўдзіцца (*А. Брытун*).

4. Злавіўшы сома, Ран пераканаўся бацька не пакінуў яго, перадаў яму свой дух адважнага паляўнічага (*В. Гігевіч*).

5. Адбылося галоўнае талент, інтэлект перамаглі ўсё на доўгім жыццёвым шляху (*А. Ліс*).

***А29. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Божа барані каб гэтыя патаемныя далёка ад людзей схаваныя думкі сталі вядомыя некаму чужому (*А. Бутэвіч*).

2. Недзе там, каля граніцы Беларусі і Літвы ёсць куток святой зямліцы — маладосці астравы (*Г. Тарасевіч*).

3. На Палессі матчынае мовы ёсць яшчэ жывыя астравы дзе гаркоту здыме пах мядовы і суцешыць пошум баравы (*В. Гардзей*).

4. Дажджавыя хмары ці то засердавалі ці то недзе зблудзілі абмінаючы нясвіжскую зямлю (*А. Камароўскі*).

5. Карней ледзь не подбегам кінуўся назад да доктара бо толькі той мог сказаць куды падзеўся Кося (*З. Дудзюк*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца запазычанымі:***

1. Для **аб'ектыўнай інтэрпрэтацыі** з'явы неабходна пэўная **дыстанцыя** часу*(А. Ладыгіна)*.

2. Гаворка ідзе пра **неардынарны** чалавечы лёс *(А. Ладыгіна)*.

3. Ужо даўно няма Ларысы Пампееўны Александроўскай, і толькі бронзавая **скульптура** Заіра Азгура на Маскоўскіх могілках ды **мемарыяльная** дошка на доме па вуліцы Захарава ўваскрашаюць яе воблік (*А. Ладыгіна*).

4. Знешне шчаслівае жыццё было напоўнена пакутамі і **горыччу** страт, няспраўджаных надзей і **расчараванняў** (*А. Ладыгіна*).

5. Ды і мы з табою не лепшы прыклад дзецям падавалі: родныя брат з сястрою, а жывём амаль як чужыя (*Б. Сачанка*).

***А31. Адзначце сказы з састаўным дзеяслоўным выказнікам:***

1. Нямую ісціну дарог здаўна спасцігнуць прагнуць колы (*А. Аўруцін*).
2. Дапамажы з бяды-нядолі выбавіцца (*З. Дудзюк*).
3. Пасля ўручэння падарункаў нявесце і жаніху госці з боку жаніха пачалі збірацца дадому (*З. Дудзюк*).
4. Такому прызнанню Алена не магла не паверыць (*І. Шамякін*).
5. Не думаю я адбіваць тваю абранніцу (*А. Бутэвіч*).

***А32. Адзначце, які знак прыпынку прапушчаны пры афармленні простай мовы:***

— Вось усё, што мы знайшлі. Пазнейшыя дакументы не захаваліся, са шкадаваннем заўважыла маладзічка. — Зрэшты, у нас ёсць музей, вунь той двухпавярховы будынак (*З. Дудзюк*).

1. Працяжнік.
2. Двукроп'е.
3. Кропка.
4. Коска.
5. Шматкроп'е.

## Тэст В

***В1. Адзначце правільныя сцверджанні:***

1. У беларускай мове ўсе дзеясловы адносяцца ці да першага, ці да другога спражэння.
2. Анатацыя — гэта падрабязны пераказ зместу твора.
3. Мнагазначныя словы могуць мець прамыя і пераносныя значэнні.
4. Прыслоўе ў сказе можа выступаць у ролі недапасаванага азначэння.
5. Злучальныя словы знаходзяцца ў даданай частцы складаназалежнага сказа.

***В2. Вызначце тып пераноснага значэння слова ў наступным сказе. Запішыце слова ў форме назоўнага склону.***

Хутка хлопец зноўку паявіцца на тым высокім беразе, дзе яго чакаюць заплаканыя чорныя вочы (*В. Гігевіч*).

***В3. Знайдзіце інфінітыўны сказ і выпішыце яго граматычную аснову:***

1. Мядзведзя выпусцілі з клеткі ў загон (*В. Чаропка*).
2. Ехалі па палявой дарозе (*А. Бутэвіч*).
3. Прыходзьце да мяне ў сад часцей (*З. Дудзюк*).

4. А гэтых аматараў палявання даставіць у галоўную сядзібу (*А. Брытун*).

5. Для вас няма нічога патаемнага ў Польшчы (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

***В4. Запішыце назоўнік*** *племя* ***ў форме множнага ліку.***

**Тэкст да заданняў В5–В8**

1. Выкладчык Брэсцкага педінстытута Царапкоў калісьці чытаў лекцыі па антычнай літаратуры. 2. Стары мінчанін, ён расказаў пра выпадак, які здарыўся з яго сынам Жэнем. 3. Гадавалае дзіця, ён яшчэ толькі вучыўся трымацца на нагах, выпаўз на вулічны брук, па якім ішоў няспынны рух featuring рознага транспарту. 4. Здарылася гэта якраз насупраць дома, у якім жыў паэт Янка Купала. 5. Пясняр у той час вяртаўся з лазні, што знаходзілася ў Траецкім прадмесці. 6. Ён трымаў пад рукой ражку і скрутак з бялізнай. 7. Ажно бачыць: на бруку соўгаецца малое, а зверху, ад Савецкай вуліцы, спускаецца запрэжаны парай коней ламавік. 8. Мяркуючы па ўсім, фурман малога не заўважае. 9. Вось-вось адбудзецца трагедыя. 10. Купала, не раздумваючы, кінуў тое, што трымаў у руках, і кінуўся да малога. 11. Выхапіў дзіця літаральна **з-пад** конскіх капытоў. 12. Выратаваў.

*Н. Міцкевіч*

***В5. Вызначце, якая з прыведзеных характарыстык адпавядае тэксту:***

1) мастацкі стыль, апісанне;
2) публіцыстычны стыль, апавяданне;
3) афіцыйна-дзелавы, пратакол з месца здарэння;
4) галоўная думка тэксту выражана ў 9-м сказе;
5) адна з задач тэксту — паказаць неабходнасць ўважлівага нагляду за малымі дзецьмі з боку дарослых.

***В6. Вызначце, пры дапамозе якіх сродкаў звязаны 10-ты і 11-ты сказы тэксту:***

1) няпоўны сказ; 3) злучнік; 5) лексічны паўтор.
2) займеннік; 4) сінонім;

***В7. Знайдзіце ў тэксце складаны сказ з рознымі відамі сувязі. Адказ пазначце адпаведнай лічбай.***

***В8. Вызначце часцінамоўную прыналежнасць выдзеленага ў 11-м сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.***

## ВАРЫЯНТ XIII

### ТЭСТ А

***А1. Адзначце словы з гукамі, якіх няма ў рускай мове:***

1) вечар; 2) рэмень; 3) заўтра; 4) цвет; 5) тэатр.

***А2. Адзначце словы, у якіх вымаўляецца падоўжаны гук [ч]:***

1) сучча; 3) загадчык; 5) шчыры.
2) расчыстка; 4) дасведчаны;

***А3. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару я:***

1) ранн...спелы; 3) жыцц...апісальны; 5) л...давік.
2) г...нетычны; 4) з...млянін;

***А4. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару а:***

1) д...кодар; 3) Ч...лябінск; 5) в...даспуск.
2) тр...скатня; 4) ваг...наважаты;

***А5. Адзначце выпадкі, у якіх на месцы пропуску пішацца літара ў (нескладовае):***

1) архівары...с; 3) закаханы ... цябе; 5) а...кцыён.
2) бачыў ...чора; 4) фіна - ...горскі;

***А6. Адзначце словы, якія напісаны правільна:***

1) абязброіць; 3) рассольнік; 5) плоданасіць.
2) цэнаўтварэнне; 4) упэўненасць;

***А7. Адзначце словы з аднолькавай марфемнай будовай:***

1) зрубіць; 3) глыбіня; 5) паглыбіўшы.
2) ізаляванасць; 4) аснашчаны;

***А8. Адзначце словы, якія з'яўляюцца кніжнымі:***

1) дэ-юрэ; 3) каларыфер; 5) дэкорум.
2) каларыт; 4) дэфініцыя;

***А9. Адзначце словы, у якіх прапушчана літара:***

1) грэбці; 3) міласэрны; 5) аб'езчык.
2) асяродзе; 4) Кранштат;

***А10. Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі парамі слоў і іх сэнсавай характарыстыкай. Адзначце нумар правільнага адказу.***

| | |
|---|---|
| А. Бібліятэчны калектар — кабельны калектар. | 1. Амонімы. |
| Б. Кампанейскі сябар — кампанейскі метад. | 2. Мнагазначныя словы. |
| В. Канструктарскае бюро — канструктыўная прапанова. | 3. Сінонімы. |
| | 4. Паронімы. |
| Г. Гарачы дзень — халодная зіма. | 5. Антонімы. |

1. А3 Б5 В1 Г4.
2. А4 Б1 В3 Г4.
3. А1 Б4 В3 Г2.
4. А2 Б1 В4 Г5.
5. А3 Б4 В1 Г2.

***А11. Адзначце назоўнікі, у якіх пры ўтварэнні формы меснага склону адзіночнага ліку адбываецца чаргаванне апошняга зычнага асновы:***

1) Вольга;
2) Брэст;
3) імшарнік;
4) эпоха;
5) падарунак.

***А12. Адзначце словы, якія пішуцца праз злучок:***

1) (паў) гадзіны;
2) (леса) апрацоўчы;
3) (садова) агародны;
4) (хранікальна) дакументальны;
5) (карабель) спадарожнік.

***А13. Адзначце сказы з асабовымі дзеясловамі:***

1. Слава вялікага Вітаўта поўніла сэрца гонарам за нашу Літву (*В. Чаропка*).
2. І босыя шукаюць ногі любімай Случчыны дарогі (*Л. Шашкова*).
3. Мне хочацца ўдала выдаць цябе замуж (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).
4. Вельмі вялікая колькасць капытных, асабліва дзікоў, стварае мноства праблем для лясной экасістэмы (*Т. Дзярабіна*).
5. Хапіла б толькі на ўсё часу (*С. Лобан*).

***А14. Адзначце дзеясловы, якія ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу маюць канчатак -а:***

1) тачыць;
2) сказаць;
3) падбегчы;
4) пароць;
5) адпісаць.

***А15. Вызначце суадносіны паміж сказамі і сінтаксічнай роляй інфінітыва ў іх. Запішыце адказ.***

| | |
|---|---|
| А. Ездзіў ў Гданьск пабачыць на свае вочы касцёл святой Тройцы (*В. Чаропка*).<br>Б. Давялося дзяліць патроху зямлю і аддаваць ва ўладанне сынам (*А. Бутэвіч*).<br>В. Без цябе я не ўмею дыхаць, без цябе я не ўмею бачыць… (*Ю. Пацюпа*).<br>Г. Аматары самотнай філасофіі Леаніда Галубовіча маюць магчымасць далучыцца да роздумаў аўтара ў чарговай нізцы запісаў «Жыццё мастака ў мініяцюры, або Зацемкі з левай кішэні» («*ЛіМ*»). | 1. Азначэнне.<br>2. Акалічнасць.<br>3. Уваходзіць у склад выказніка.<br>4. Дапаўненне.<br>5. Дзейнік. |

***А16. Адзначце сказы з прыналежнымі займеннікамі:***

1. Васковыя слёзы пякучым дакорам апальваюць нашы счарсцвелыя душы (*Т. Сямёнава*).
2. Іван трымаў Каціны рукі ў сваіх і з ласкавай пяшчотнасцю глядзеў на дзяўчыну (*М. Лук'янаў*).
3. Людзі спалохана перашэптваліся, але ніхто нічога пэўнага не ведаў (*А. Асіпенка*).
4. Я прарасці хачу на ўзлеску блакітнай першаю пралескай, каб вочы радаваць твае! (*В. Міхно*).
5. Усім вядома, як з даўніх часоў у нас праходзілі падобныя з'езды (*Ю. Крашэўскі, пер. Кенькі*).

***А17. Адзначце, якія марфалагічныя прыкметы адпавядаюць выдзеленаму ў сказе слову:***

Спытка закрычаў і ўзняў угару **абедзве** рукі (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

1. Лічэбнік;
2. Колькасны;
3. Зборны;
4. Просты;
5. У форме жаночага роду множнага ліку, ужыты ў вінавальным склоне.

***А18. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць асобна:***

1. Воўк без ахвоты патрусіў **(у) бок** балотных зараснікаў (*Ю. Татарынаў*).
2. **(На) што** свецяцца слёзы ў вачах? (*Я. Пушча*).
3. Петэрс не мог паверыць, што перад ім **(не) хто** іншы, як Андрэй Бусел, ягоны сябра і калега па міліцэйскай акадэміі (*В. Праўдзін*).
4. Хлопец спахапіўся, што яшчэ не падзякаў Богу **(за) тое**, што ён выратаваў яго ад смерці, не даў загінуць сярод чужынцаў (*З. Дудзюк*).
5. Каця абудзілася з пачуццём крыўды на Гардзея, а **за (адно)** і на Зосю (*З. Дудзюк*).

***А19. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з’яўляюцца вытворнымі прыназоўнікамі:***

1. Амерыканская пяхота выстраілася ў баявыя шыхты **ўпоперак** дарогі і частымі залпамі змусіла брытанцаў спыніцца (*Я. Конеў*).
2. І Алесь не мог і падумаць, што гэтая дзяўчына, **злева**, звязваецца з ім усім гэтым у нешта апошняе і неразрыўнае (*У. Караткевіч*).
3. — Аман, запыні кароў, бо зараз у чужы агарод уваляцца, — закрычала Весяліна і сама кінулася **напярэймы** статку (*З. Дудзюк*).
4. Палкоўнік Таран стаяў **побач**, апусціўшы галаву, вінавата пазіраў на братоў, імкнучыся не глядзець ім у вочы (*З. Дудзюк*).
5. **Пад** высокай разлапістай елкай было суха, як у будане (*В. Гігевіч*).

***А20. Адзначце сказы, у якіх часціца* не *ужываецца асобна:***

1. Няма такога паэта, які б ... прысвячаў твораў сваім родным мясцінам (*Д. Кулеш*).
2. Лізу Глеб успамінаў усюды, куды б ... закідаў яго лёс (*Б. Сачанка*).
3. Даруйце ўсе, каго пакрыўдзіў, можа, сляпы ад шчасця часам, ... знарок (*М. Маляўка*).
4. Атожылкаў кветак хапала ўсім, колькі іх ... выкопвалі (*І. Стадольнік*).
5. Хвіліну воўк стаяў ... рухаючыся (*В. Даліда*).

***А21. Адзначце словазлучэнні:***

1) паклікаць сяброўку;
2) сорак шосты;
3) насуперак абставінам;
4) моцна стомлены;
5) перапоўнены аўтобус.

***А22. Адзначце сказы, у якіх выяўляюцца асаблівасці кіравання, спецыфічныя для беларускай мовы:***

1. Як мы ні аглядалі міжпланетны карабель, ніякіх жывых істот не знайшлі (*Р. Баравікова*).

2. Усе лаўцы, загоншчыкі кінуліся за мядзведзем, які, здавалася, жартаваў з пагоні (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

3. Пракоп прапанаваў звярнуцца па дапамогу да вядомай знахаркі (*Н. Міцкевіч*).

4. Вясной сорак першага маці цяжка захварэла на плеўрыт (*Н. Міцкевіч*).

5. Гэтую песню Зося чула яшчэ ад нябожчыцы мамы (*З. Дудзюк*).

***А23. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Жніво — гэта не проста праца, гэта вянец цыкла сялянскага года (*З. Дудзюк*).

2. Усю зіму шчыраваў Кірыла: перакрыў дах, ладзіў столь, паставіў печ і толькі пад вясну перабраўся з дочкамі ва ўласнае жытло (*З. Дудзюк*).

3. Для Вас я ўсяго выпадковасць, а Вы — мой найсветлы ўспамін (*І. Ляшковіч*).

4. Бойка невядома чым магла скончыцца — гэта Ран зразумеў адразу (*В. Гігевіч*).

5. Няволя самая агідная рэч на свеце (*З. Дудзюк*).

***А24. Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць коскі паміж аднароднымі азначэннямі:***

1. Дзве тоўстыя светлыя касы ляжалі на плячах (*З. Дудзюк*).

2. Пранізлівы заходні вецер імкліва гнаў нізка над зямлёю шэрыя хмары, паліваючы зямлю густой імжою (*В. Новак*).

3. Данілка папраставаў да краю стала, акуратна паставіў паднос на белы вышываны залацістымі ніткамі абрус (*А. Камароўскі*).

4. Ран і Мая абмяняліся хуткімі бліскучымі позіркамі (*В. Гігевіч*).

5. Рану кінулася ў вочы таўшчэзная толькі што выламаная ў лесе сырая дубіна (*В. Гігевіч*).

***А25. Адзначце сказы з адасобленымі членамі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Мая раённая сталіца калыска мар маіх і сноў я шчыра прагну наталіцца тваёй гасціннасцю ізноў (*У. Мазго*).

2. Ой ты Стася смуглявая Стася ўзгадаваў цябе Случчыны гай! (*Я. Пушча*).

3. Вясельная дружына спявала і скакала апантаная агульным уздымам (*З. Дудзюк*).

4. Я не мог пазбавіцца ад гнятлівага пачуцця чорнай пустаты не заселенай гледачом залы (*А. Асіпенка*).

5. Не слухаючы Аленіных пратэстаў жанчыны пачалі дапамагаць ёй (*А. Асіпенка*)

***А26. Адзначце сказы, у якіх трэба выдзеліць знакамі прыпынку азначэнні:***

1. Дзіўна зачараваны паглядаў я на Ганну (*В. Чаропка*).

2. Ала Фёдараўна расправіла перад люстрам шматлікія складкі свайго шыфонавага сарафана (*С. Бязлепкіна*).

3. Абвітая вінаградам белая прыгожая альтанка надзейна хавала ад чужых вачэй (*Ю. Татарынаў*).

4. Ахопленыя страхам з пенай на губах гучна храплі коні (*А. Брытун*).

5. Ды і бацька Воліс не даваў знаку падымацца з-за стала (*А. Казлоў*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх трэба выдзеліць знакамі прыпынку акалічнасці:***

1. Уладзік згадзіўся не раздумваючы (*З. Дудзюк*).

2. Наш эшалон з дэмабілізаванымі салдатамі і афіцэрамі адгрукаўшы сотні кіламетраў па чужой Еўропе амаль не спыняўся (*А. Асіпенка*).

3. Абыходзячы па начах каравулы Касцюшка часта натыкаўся на дэзерціраў, што сыходзілі з лагера ў снежную бель (*Я. Конеў*).

4. Аляксей Скакун заклікаў узяцца за гэту справу закасаўшы рукавы (*Ул. Ліпскі*).

5. У гэты момант рыпнулі дзверы і бабуля высунуўшы галаву з-за дзвярэй паклікала Рыгора (*А. Брытун*).

***А28. Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску неабходна паставіць коску:***

1. У доме пісьменніка Дуніна-Марцінкевіча гучала музыка … і ставіліся спектаклі на яго п’есы (*К. Цвірка*).

2. Пасля грыбных паходаў выпальвалася печ … і нанізаныя на пруткі баравікі і чырвонагаловікі ехалі на гарачы под, засушваліся і поўнілі палатняныя торбы (*А. Камароўскі*).

3. Княжычы паглядвалі на бацьку, як бы жадаючы прачытаць ягоныя пачуцці … але твар князя Вокаміра быў спакойны … а позірк скіраваны ўперад (*З. Дудзюк*).

4. З’яўленне пад Лідай перадавых татарскіх атрадаў вымусіла Глінскага і яго штаб найхутчэй адаслаць хворага караля ў Вільню … але ж першыя вёрсты паездкі ў безрысорнай карэце аднялі ў Аляксандра мову (*І. Шамякін*).

5. Бацькі яшчэ спалі … турысты ж на гэтыя выхадныя пакуль не прыехалі (*Л. Адамовіч*).

***А29. Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць двукроп'ем:***

1. Рагвалод быў маім гаспадаром два яго сыны раслі разам са мною, дачка, Рагнеда, была мне як сястра (*У. Караткевіч*).

2. Рыгор ведаў звычкі зуброў яны ў густым лесе не адбіваюцца, а ўцякаюць на адкрытае месца (*А. Брытун*).

3. Ядвіга працягвала іграць ролю пакутніцы яна знарок не паказвалася на людзях (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

4. Распарадчыку нядаўна на многае адкрыліся вочы цяпер на ўсё ён глядзеў інакш (*А. Брытун*).

5. Клічнікам загадна рэкнуў гром прыпыніць у сказах перашэпты! (*Ю. Голуб*).

***А30. Адзначце складаназалежныя сказы з сузалежным неаднародным падпарадкаваннем:***

1. Чамусьці ўспомнілася, як Міколаў сусед — Міхась Базылёк — расказваў пра рыбацкі паход на аддаленую старыцу, што затулілася кустамі на Княжым лузе (*А. Камароўскі*).

2. Глеб захапіў з сабою падручнікі, канспекты, каб падрыхтавацца да здачы чарговага экзамену, і паехаў у сваю родную вёску, што была на Палессі (*Б. Сачанка*).

3. Хлопец ведаў, што тут жыве знакаміты доктар, у якога лячыліся толькі багатыя людзі (*З. Дудзюк*).

4. А калі зазвінелі званочкі і пачуліся спевы, гаспадар і гаспадыня выйшлі з хаты, каб хлебам-соллю сустрэць маладых (*З. Дудзюк*).

5. Калі мы гаворым пра дакументальную літаратуру, то маем на ўвазе перш за ўсё тыя кнігі, якія напісаны хай сабе немудрагеліста, проста, але шчыра і праўдзіва (*В. Быкаў*).

***А31. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Год назад татары штурмавалі Слуцк ды удава Сымона Слуцкага княгіня Анастасія ўзначаліла абарону і адбіла татарскую раць.

2. Магчыма, паны лепш, чым сам кароль, уяўлялі што калі ўладар іх і адужае хваробу то ранейшай актыўнасці не верне.

3. Алене здалося што пад яе нагамі праламалася падлога і яна правальваецца ў бездань.

4. Пад вечар з'явіліся стомленыя заплёханыя гразёю ганцы з Масквы з сумнай весткай памёр Аленін бацька.

5. Ксенія вельмі баялася, каб сын яе не пайшоў па слядах дзеда і бацькі што бясследна загінулі невядома дзе і хацела вывучыць яго на духоўніка.

*І. Шамякін*

***А32. Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх прапушчаны знакі прыпынку паміж іх часткамі:***

1. Двума скачкамі ласіха адолела праломы ям, узбегла на абрыў берага і, убачыўшы крыгі разводдзя, хацела павярнуць назад, але левы частакол раптам адступіў, аднесены дужымі рукамі, утварыўшы вольны пралаз і яна пайшла ў яго, знікла ў кустах лазняку (*А. Камароўскі*).

2. Лёгкаю птушкаю выпырхнула Зося з хаты ў пахмурны вясновы дзень, адзін з тых, калі яшчэ спала неадагрэтая зямля, а душа дзяўчыны спявала і жыла прадчуваннем нечага незвычайнага і шчаслівага (*З. Дудзюк*).

3. На малюнку былі і школа, і царква і асабліва выразнай там выглядала тая дарога праз поле, па якой хлапчук штодня хадзіў у школу (*К. Камейша*).

4. Машына хутка сціхла за паваротам, зніклі ўміг за ёй яркія чырвоныя агні, і зрабілася цёмна (*І. Пташнікаў*).

5. Слугі адчынілі клетку і пачалі каламі выпіхваць мядзведзя, але той не хацеў пакідаць сваёй крэпасці, толькі хапаў і драпаў лапамі сабак што падбягалі да яго (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

## Тэст В

***В1. Вызначце суадносіны паміж сказамі і тыпам памылкі, дапушчанай у іх. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Але ўпотай паны ўзрадваліся, калі прачулі, што Алена збіраецца везці караля ў Вільню (*І. Шамякін*).<br>Б. Па твары суддзі можна было прачытаць, што ён не адказвае сабе ў жыццёвых задавальненнях (*С. Белаяр*).<br>В. — Пане Станіслаў, падыходзіце сюды і пакажыце ваш дазвол на адстрэл зуброў! — крыкнуў Раман (*А. Брытун*).<br>Г. Але наперад памятай, што для траянцаў гонар, годнасць вышэй усяго (*Г. Марчук*). | 1. Памылка ва ўжыванні ладу дзеяслова.<br>2. Лексічная памылка.<br>3. Арфаграфічная памылка.<br>4. Памылка ва ўтварэнні ступені параўнання прыметніка.<br>5. Памылка ва ўжыванні ступені параўнання прыслоўя. |

***В2. Запішыце прыведзены ў дужках дзеяслоў у форме 2-й асобы множнага ліку цяперашняга часу:***

— Не (пазнаваць) мяне, дзядзька Янка? — усклікнуў Міхась (М. Лук'янаў).

***В3. Параўнайце вымаўленне выдзеленых у сказе слоў з іх транскрыпцыяй. Адзначце нумары правільнай транскрыпцыі.***

Пачалі **з вялізнага мядзведзя**, які яшчэ **ў клетцы паводзіў** сябе так, што перапужаў усіх **звяроў** (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

1) [з’ в’ал’і́знага]; 3) [ў кл’э́ц̄ы]; 5) [з’в’аро́ў].
2) [мадз’в’э́дз’а]; 4) [паво́д’з’іў];

***В4. Вызначце суадносіны паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх часцінамоўнай прыналежнасцю. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. **Рабочыя** завода ездзілі адпачываць на базу кожныя выхадныя (*М. Лук’янаў*).<br>Б. **Хай** у цябе не баліць душа па благой жанчыне, яна таго не вартая! (*Ю. Крашэўскі*, *пер. М. Кенькі*).<br>В. **Згодна з** поглядамі некаторых гісторыкаў, слова «хімія» паходзіць ад старажытнагрэчаскага «хіма» — тэрміна, што абазначае майстэрства выплаўкі металаў («*Полымя*»).<br>Г. Я ратую закаханых **альбо** тых, каго кахалі ці будуць яшчэ кахаць (*А. Бароўскі*). | 1. Прыназоўнік.<br>2. Злучнік.<br>3. Прыметнік.<br>4. Часціца.<br>5. Назоўнік. |

**Тэкст да заданняў В5–В8**

1. Я прачытаў новую кнігу Паўэла Каэльё — «Вераніка вырашае памерці». 2. Мне падалося, што гэта — адна з самых дасканалых, самых мастацкіх кніг папулярнага раманіста. 3. Тут ёсць усё: напружаны, драматычны сюжэт, яркія, паўнакроўныя, самабытныя характары, інтрыга, якая раскрываецца літаральна на апошняй старонцы, і, канечне ж, глыбокая філасофская думка, без якой любы твор ператвараецца ў простую гаварыльню на прызбе.

4. Зрэшты, думка, якую сцвярджае сваім раманам Каэльё, не такая ўжо і новая. 5. У ёй адсвечваецца вопыт і мудрасць тысячагоддзяў. 6. Сутнасць яе такая. 7. Кожны з нас — індывідуальнасць. 8. Са сваім светаадчуваннем, сваім светапоглядам. 9. Кожнаму з нас Бог вызначыў свой уласны лёс. 10. І калі мы прытрымліваемся гэтага шляху, то ўсе сілы Сусвету садзейнічаюць нам у дасягненні нашай мэты.

11. Разам з тым на гэтым шляху нас чакае і нямала розных выпрабаванняў, расчараванняў, пакут. 12. І далёка не кожны іх вытрымлівае. 13. Але той, у каго $^{1}$хапае $^{2}$мужнасці, $^{3}$цярплівасці, рашучасці $^{4}$ісці сваім $^{5}$шляхам да канца, не толькі дасягае жаданай мэты, але і знаходзіць сапраўднае шчасце.

*З. Прыгодзіч*

***В5. Вызначце стыль і жанр тэксту.***

***В6. Адзначце, якія з пранумараваных у 13-м сказе слоў з’яўляюцца мнагазначнымі.***

***В7. Вызначце ў 13-м сказе слова, утворанае прыставачна-суфіксальным спосабам, і запішыце яго ў той форме, у якой яно ўжыта ў тэксце.***

***В8. Вызначце ў тэксце складаназалежны сказ з даданай дзейнікавай часткай. Укажыце нумар сказа.***

## ВАРЫЯНТ XIV

### Тэст А

***А1. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія з’яўляюцца словазлучэннямі:***

1) вяртаўся з палявання;
2) усміхаецца дзецям;
3) сярод людзей;
4) занадта пышна;
5) усе чакаюць.

***А2. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, у якіх сувязь паміж словамі — дапасаванне:***

1) хітрая ліса;
2) дамагаецца спакваля;
3) пацвердзіць ахвотна;
4) шматзначнае маўчанне;
5) дваццаць сталоў.

***А3. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія не з’яўляюцца словазлучэннямі:***

1) мусіў саступіць;
2) мару і жадаю;
3) ставіцца зычліва;
4) быў пасаромлены;
5) трэцяя старонка.

***А4. Адзначце словазлучэнні, у якіх выдзеленыя словы з’яўляюцца галоўнымі:***

1) **сплецены** з васількоў;
2) узяць **ахвотна**;
3) **атрыманы** адказ;
4) **дзейнічаць** актыўна;
5) **папрасіў** пачакаць.

***А5. Адзначце словазлучэнні з памылкай у дзеяслоўным кіраванні:***

1) хварэе на гепатыт;
2) жартаваць над сястрой;
3) пабег па бацьку;
4) паехалі за рыбай;
5) ажаніўся з Таняй.

***А6. Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова (словы) з’яўляецца дзейнікам:***

1. Доўгі **час** у нашай вёсцы быў пастухом дзівакаваты Язэпка (*М. Гіль*).

2. **Беларусь, край** слёз, пакут, нябёс, ты дазволь мне сынам называцца (*Г. Чарказян*).

3. Раптам у небе над балотам закружыў **каршун** (*Р. Ігнаценка*).

4. У ваколіцах дуба ў вайну збіраліся народныя **мсціўцы** (*Т. Хадкевіч*).

5. Лідачка, паслухмянае **дзіця**, вунь прыбірае ў гародчыку (*Т. Гарэлікава*).

***А7. Адзначце сказы са складаным дзейнікам:***

1. Збоку валюхаста галапавалі два ласі з ласіхай, трывожна азіраючыся па баках (*А. Камароўскі*).

2. Са змроку выступілі бліжнія ствалы дрэў (*А. Брытун*).

3. Мала такіх твараў сёння на нашых вуліцах (*Н. Цыпіс*).

4. Да дэльфійскага аракула прыходзілі тысячы людзей (*Н. Цыпіс*).

5. Кугукнула ўдалечыні нябачная сава (*В. Гігевіч*).

***А8. Адзначце сказы з простым дзеяслоўным выказнікам:***

1. Я збіраўся з раніцы падрыхтаваць ялінку для навагодняга свята (*А. Брытун*).

2. А сабака гойсаў сабе па лесе (*А. Федарэнка*).

3. Вось гэты чалавек зараз будзе вырашаць лёс зняволенага (*С. Белаяр*).

4. Па вершах Міхася Стральцова можна правяраць свой паэтычны слых, настройвацца на чытанне сапраўднай паэзіі (*М. Скобла*).

5. Світанак тым часам набіраў моц (*В. Шабалтас*).

***А9. Адзначце сказы з састаўным іменным выказнікам:***

1. Хутка брычку давялося пакінуць і далей ісці пешшу (*А. Брытун*).

2. Коўдра і посцілкі былі хоць і старыя, але чыстыя (*З. Дудзюк*).

3. Пытанне маёра было недарэчным, але для палкоўніка яно стала нейкай асновай для прыняцця канчатковага рашэння (*М. Лук'янаў*).

4. З-за лесу ўпершыню за колькі дзён паказаўся нясмелы краёчак чырвонага сонейка (*В. Шабалтас*).

5. Безумоўна, самыя галоўныя задумы таленавітага паэта Сымона Блатуна засталіся няздзейсненымі (*К. Камейша*).

***А10. Адзначце сказы з састаўным дзеяслоўным выказнікам:***

1. У многіх на вокнах віселі выразаныя з каляровай паперы фіраначкі (*А. Бутэвіч*).

2. Кожная падзея, памяці вартая на нашай зямлі, павінна запісана быць на патомныя часы (*В. Чаропка*).

3. Усе апошнія дні пасля сустрэчы з Алесяй кожны тэлефонны званок прымушаў яго ўздрыгваць (*М. Лук'янаў*).

4. У Мацея нешта не заладзілася са здароўем (*С. Лобач*).

5. Міхась Стральцоў мог закончыць празаічны твор вершамі, як, напрыклад, аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь» (*М. Скобла*).

***А11. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць працяжнік:***

1. Я Вашай самотаю стала, а Вы … мой прытулак для мар (*І. Ляшковіч*).

2. Гэта з'ява … ўнікальная, нікім не вывучаная, нікім не даследаваная (*А. Бароўскі*).

3. Мікола Купрэеў … пісьменнік з абвостраным адчуваннем «зломнасці» сучаснай яму эпохі (*В. Локун*).

4. І днём, і вечарам, і ноччу … заўсёды ля агню былі людзі, якія ўлагоджвалі яго і кармілі (*В. Гігевіч*).

5. Мясны Бор … гэта якраз тыя мясціны, дзе Мікола Аўрамчык трапіў у палон (*К. Камейша*).

***А12. Адзначце сказы, у якіх ёсць прамыя дапаўненні:***

1. Я не знайшоў слоў, каб усё ж выказаць сваё здзіўленне і адначасова недаўменне (*А. Бароўскі*).

2. Вярнуўся я ў замак са смутным цяжарам (*В. Чаропка*).

3. Мікола Чарняўскі падараваў мне дзіцячую кніжку «Сонца ў хованкі гуляе» (*У. Скарынкін*).

4. Ігумен Даніїл у сваім «Хаджэнні» распавядае пра выбітныя гарады і паселішчы на Святой зямлі (*І. Саверчанка*).

5. Запасы энергіі ветру больш чым у сто разоў пераўзыходзяць рэсурсы гідраэнергіі ўсіх рэк Зямлі (*І. Ліштван*).

***А13. Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова (словы) з'яўляецца акалічнасцю месца:***

1. Святы горад Іерусалім размешчаны **ў цясніне** (*І. Саверчанка*).

2. Не хапіла мне духу ісці **ў падзямелле** (*В. Чаропка*).

3. Нешта **тупа** грукнула аб бераг (*У. Караткевіч*).

4. Дзяўчаты вылучаліся крамнаю вопраткаю, якую прывезлі **з бежанства** (*З. Дудзюк*).

5. Мы **нясмела** выцягвалі з кішэні **папалам** складзеныя старонкі вучнёўскіх сшыткаў (*К. Камейша*).

***А14. Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова (словы) з'яўляюцца акалічнасцю часу:***

1. **Назаўтра** з гарадской брамы выйшла княжацкая дружына: Глеб і дваццаць старэйшых кметаў — на конях, дзвесце малодшых кметаў — пешшу (*Я. Конеў*).

2. **Да канца дзевятнаццатага стагоддзя** ў народзе вельмі ж любілі збіцень (*А. Камароўскі*).

3. Заржаў сівы конь **на ўсю сталіцу**, узвіўся ўгору і даскочыў да прыгажуні-царэўны (*У. Ягоўдзік*).

4. Дзяўчына займала пакуль яшчэ не зусім звычайную **ў школе** пасаду сацыяльнага педагога (*Т. Пяшко*).

5. Потым **у цямноцці** пачуліся глухія жаласлівыя галасы, успуджаныя крокамі Невядомага (*У. Караткевіч*).

***А15. Адзначце сказы з недапасаванымі азначэннямі:***

1. Хлопцу здавалася: цемра цярусіць над тутэйшымі пушчамі і балотамі непазбыўны сум (*Я. Конеў*).

2. Вечар быў цёплы, звонкі, з лёгкім туманком над Бесяддзю (*Л. Левановіч*).

3. Высокага росту, з маленькай галавой і вялікага памеру сандалямі, ён быў падобны да Гулівера (*А. Тулупава*).

4. З якой радасцю я выгінаю алоўкам крутую конскую шыю, як смела кідаю на вецер лёгкую грыву! (*У. Ягоўдзік*).

5. Цягнік даімчыць вас з аэрапорта да мегаполіса з хуткасцю трыста пяцьдзясят кіламетраў у гадзіну (*М. Анішчанка*).

***А16. Вызначце суадносіны паміж сказамі і сінтаксічнай роляй інфінітыва ў іх.***

| | |
|---|---|
| А. Ніколі не лічы лішнім разумных і бывалых людзей паслухаць (*Г. Далідовіч*).<br>Б. Якраз цяпер і настаў момант падтрымаць у чалавеку яго лепшыя якасці (*Т. Пяшко*).<br>В. Нашым мінскім чыгуначным вакзалам беларусы маюць права ганарыцца як адным з самых светлых, прыгожых і чыстых у Еўропе (*М. Анішчанка*).<br>Г. Пасажыру, які прылятае ў галоўны аэрапорт Ганконга, прапаноўваюць дабрацца да горада на ўтульным цягнічку, які ездзіць па магнітных рэйках і … не мае машыніста, бо поўнасцю аснашчаны аўтаматыкай (*М. Анішчанка*). | 1. Дзейнік.<br>2. Выказнік.<br>3. Азначэнне.<br>4. Дапаўненне.<br>5. Акалічнасць. |

***А17. Адзначце двухсастаўныя няпоўныя сказы:***

1. Невялікая ціхая бухта з пастаянна спакойным прыбоем (*Н. Цыпіс*).
2. Глухое сяло ў балотах (*Н. Цыпіс*).
3. А каму ты там такі патрэбны з боку прыпёку? (*В. Чаропка*).
4. На стале гарачыя бліны, смятана (*С. Лобач*).
5. Я сам ёй свае паслугі прапанаваў (*І. Тулупава*).

***А18. Адзначце няпэўна-асабовыя сказы:***

1. Гладка зачэсаныя назад чарнявыя валасы (*А. Камароўскі*).
2. Трымалася з апошніх сіл (*С. Лобач*).
3. Чалавек з мужнасцю, з любоўю да радзімы (*У. Караткевіч*).
4. З асіны вычэсваюць бярвёны для лазні, ладкуюць зруб для калодзежа (*А. Камароўскі*).
5. Сыноў-юнакоў загналі ў розныя дальнія манастыры (*І. Шамякін*).

***А19. Адзначце, чым ускладнены просты сказ:***

Дарэмна, прагнучы дзвюх розных душ зліцця, штодня трымаў ён перад ёй экзамен на вернасць і на шчырасць пачуцця (*В. Гадулька*).

1) пабочным словам;
2) адасобленым азначэннем;
3) аднароднымі членамі;
4) адасобленай акалічнасцю;
5) звароткам.

***А20. Адзначце інфінітыўныя сказы:***

1. Паехаць да пляменніцы Ларысы, усё расказаць ёй (*Т. Гарэлікава*).
2. Як пахла мёдам, сонцам сена ў стагах! (*С. Лобач*).
3. Сакавік на двары (*С. Лобач*).
4. Настройваць сябе кожны дзень на радасць, на змаганне з усім злом свету (*В. Іпатава*).
5. Збегчы б, здаецца, туды, на поплаў, пагарэзаваць разам з бярозкамі (*А. Крэйдзіч*).

***А21. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі:***

1. Калі б Рыгор пайшоў насустрач зубру, або зрабіў рэзкі рух, зубр імгненна, апусціўшы галаву, кінуўся б у атаку (*А. Брытун*).

2. Кук не любіў дарогу, але сустрэў паведамленне аб камандзіроўцы са стаічнай стрыманасцю (*Ю. Станкевіч*).

3. Заказнікі вельмі патрэбны, жыццёва неабходны сёння на Палессі, каб абараніць, уратаваць, захаваць некранутыя куточкі, унікальныя па сваёй значнасці мясціны (*П. Сабіна*).

4. Іван перайшоў па кладцы вузкую абмялелую рачулку, падняўся на процілеглы бераг (*С. Сцяпан*).

5. За горадам машына з’ехала з шашы, павярнула на шырокую, пясчаную дарогу, якая ішла па маладым, залітым сонцам сасонніку (*А. Дзятлаў*).

***А22. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць двукроп’ем:***

1. Вольна пачуваецца аўтар і ў разнастайнасці жанраў і форм балады і паэмы, трыялета і санета (у тым ліку вянка санетаў), актавы і народнай песні (*А. Каско*).

2. Кепска напісаныя літары Пятрок асцярожна саскрэбваў сцізорыкам разгладжваў месца кавалкам ласінага рога, затым, абмакнуўшы гусінае пяро ў густое чарніла, пад наглядам кніжніка старанна выводзіў літару (*Э. Ялугін*).

3. І пасля размовы з дзецьмі Вежа стаў асабліва з’едлівы з гасцямі шакіраваў іх усіх мужыцкай мовай уперамешку з самай вытанчанай французскай, назнарок нападаў на тое, што было дарага субяседніку, — словам, расклеіўся (*У. Караткевіч*).

4. Побач з міскай паклала драўляную лыжку і паставіла накрытую льняной сурвэткай, пляцёную з лазы кашолачку з духмяным хлебам (*А. Брытун*).

5. У парыве гневу яна страціла дзве самыя лепшыя якасці жанчыны сарамлівасць і пачуццё ўласнай годнасці (*А. Брытун*).

***А23. Адзначце сказы з адасобленымі азначэннямі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Апранутая ў цёмную закрытую сукенку яна выглядала сумнай і стомленай (*А. Разановіч*).

2. Ці ж не коні дагледжаныя і выпешчаныя прывезлі Радзівілу са скачак сотні дукатаў? (*Ю. Крашэўскі*, *пер. М. Кенькі*).

3. Хлеб услужліва пададзены конюхам скакуны бралі з князевых рук далікатна і асцярожна (*Ю. Крашэўскі*, *пер. М. Кенькі*).

4. Зубрыха не перастаючы жаваць назірала за сваім гадаванцам і сабакам (*А. Брытун*).

5. Абхапіўшы галаву рукамі Раман сядзеў каля кладкі і глядзеў на ваду (*Ю. Зарэцкая*).

***А24. Адзначце абагульнена-асабовыя сказы:***

1. Над словам і над гукам, даўмеўшыся пары́, спярша на рукі хукай, пасля ўжо твары (*М. Стральцоў*).

2. Многіх перабежчыкаў лічылі за польскіх шпіёнаў (*А. Бутэвіч*).

3. Ад гэтага разумення крыху сумна (*У. Караткевіч*).

4. Прыгожы нос, акуратны і строгі (*У. Караткевіч*).

5. Шануй бацьку з маткаю: другіх не знойдзеш (*Прыказка*).

***А25. Адзначце сказы, у якіх паміж аднароднымі членамі трэба паставіць дзве коскі:***

1. Гукаю і бору і сонцу ў зяніце ды толькі журлівае чую: «Ку-ку!» (*В. Гардзей*)

2. Сноўдаюць, як чаўнакі, сюды-туды шпакі асвойваюць уладкоўваюць сваё жытло (*Я. Сіпакоў*).

3. Праз леты і зімы не будзе мне прыкра за веру і праўду, што людзям нясу (*В. Гардзей*).

4. Алена дала зарок нічога не хаваць ад мужа: ні думак ні перажыванняў ні тайных пісем (*І. Шамякін*).

5. Рыбіна нечакана і рэзка выгнулася і ўдарам хваста зваліла Рана на пясок (*В. Гігевіч*).

***А26. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў неабходна паставіць коскі:***

1. Выдатна, Ахрэм, ты малайчына, службу нясеш … як належыць (*А. Брытун*).

2. Рамантычная гісторыя кахання Таццяны і Анегіна заўсёды хвалявала хлопцаў і дзяўчат такога ўзросту … як у яе вучняў (*Т. Пяшко*).

3. Стаяць … як здані … берагам стагі (*К. Камейша*).

4. У вочы чамусьці кідаюцца адны вараныя ракі, чырвоныя, вялікія … як лангусты (*А. Федарэнка*).

5. Гісторыя барацьбы Кейстута з Ягайлам выкладзена ў «Летапісе вялікіх князёў літоўскіх» … як бы на адным дыханні, ёмка, дакладна, дынамічна і выразна (*В. Чамярыцкі*).

***А27. Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:***

1. На пляжы пасля начнога шторму ўсё было амаль як у першы дзень яго прыезду (*А. Федарэнка*).

2. Надзея была неразбуджаная, зусім халодная, халодная, як лёд (*У. Караткевіч*).

3. Коні былі ўсе ў палосах і плямах, як рысі або леапарды, з белымі ноздрамі і чырвоным агнём з глыбіні вачэй (*У. Караткевіч, пер. М. Кенькі*).

4. «Аповесць пра трох каралёў» цікавая не толькі як сведка духоўных запатрабаванняў пэўнага кола чытачоў Беларусі XV–XVII стагоддзяў, але і як адна з крыніц іх гісторыка-геаграфічных уяўленняў пра краіны Блізкага Усходу (*В. Чамярыцкі*).

5. Як асветнік К. Марашэўскі бачыў у чалавеку, у яго маральным удасканаленні панацэю ад усіх сацыяльных праблем (*А. Мальдзіс*).

***А28. Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропускаў неабходна паставіць коскі:***

1. Кудысьці падзенуцца сум і нуда … і ўпрочкі адыдуць трывогі (*Т. Сямёнава*).

2. Баляслаў моўчкі запрасіў рукой Усяслава і Любку сесці злева ад яго … і сам апусціўся ў крэсла з высокай выразанай спінкай (*Г. Далідовіч*).

3. У водблісках пячнога жару я ўбачыў бабулін твар … і быў ён падобны на жывую бронзавую маску (*Н. Цыпіс*).

4. Каханы мой вячэраў у доме маім, у сціплым і бедным пакоі … і не зайздросціла я гаспадыні маёй у пышных яе палацах (*Н. Кучмель*).

5. Незадоўга да гэтага абараніў кандыдацкую … і цяпер яго часцей называюць вучоным-эколагам (*П. Сабіна*).

***А29. Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. І ў гэты час Максенцый палічыў, што ён перамагае і загадаў адчапіць пантонны мост (*Л. Дайнека*).

2. Калі Карней пасадзіў хлопчыка на аднарога, і яны рушылі ў бок поплаву, вочы Уладзіка засвяціліся шчасцем (*З. Дудзюк*).

3. Адзначым, што ўзнікненне Псалтыра звязана з імёнамі многіх аўтараў, сярод якіх асабліва вылучаецца імя біблейскага цара Давіда (*К. Лецка*).

4. Лес Калатай любіў, бо жыў блізка пры лесе, хадзіў летам у ягады, восенню ў грыбы, а зімою ездзіў з бацькам па дровы (*У. Дамашэвіч*).

5. Пакуль Гоча радаваўся, што нездарма згубіў столькі часу, мужчына зноў з'явіўся на прыпынку (*Г. Чарказян*).

***А30. Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропуску неабходна паставіць двукроп'е:***

1. Прыйшоў да цябе чалавек са сваёй бядою … ты абавязаны дапамагчы (*Ю. Зарэцкая*).

2. Усхваляваны кароль, стоячы за пюпітрам, яшчэ раз выступіў у адказ … ён падзякаваў ксяндзу і высока ўзнёс заслугі, годнасць і дабрачыннасць славутага роду Радзівілаў (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

3. Звычайнай мовай не перадасі майго захаплення ад Анюцінага танца на канаце … гэта можна зрабіць хіба што вершам (*А. Асіпенка*).

4. Творчасці Ван Гога ніхто не разумеў … усё жыццё славуты зараз мастак пражыў у галечы (*Р. Несцераў*).

5. Сярод усіх майстроў князь і дружыннікі асабліва паважалі збройнікаў … яны выкоўвалі незаменныя на вайне сякеры і мячы, прычым вострыя як брытва. (*У. Арлоў*).

***А31. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць дзвюма коскамі:***

1. Гэтую мелодыю хлопцы з маленства чулі ў лесе дзе спявалі птушкі і гаманілі між сабою сосны (*В. Гігевіч*).

2. Перад імі абапал сцежкі з сухой травою ляжала пераараное поле быццам жыццё на якім яшчэ трэба было нешта сеяць і чакаць ураджаю (*З. Дудзюк*).

3. Як сваім вас пакрыўдзіў няшчасцем калі ласка даруйце вы мне (*А. Капацкевіч*).

4. Як і звычайна падчас палявання, людзей прабіралі дрыжыкі бо яны кожны міг адчувалі тую няўлоўную жахлівую мяжу апынуўшыся за якой не маглі вярнуцца назад (*В. Гігевіч*).

5. Людзі разумелі род не загіне бо старым паляўнічым падрасла добрая змена (*В. Гігевіч*).

***А32. Адзначце сказы з чужой мовай, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. «Абмый свае грахі, а не толькі твар» — напісана было на мармуровай дошцы ў храме Святой Сафіі (*Л. Хаб'яновіч-Джуравіч*).

2. «Ларыса Александроўская — гэта адна з самых яркіх з'яў беларускага народа, — пісаў Змітрок Бядуля. — У выкананні ёю народных песень мы адчуваем крышталёвае, чыстае і ўзвышанае сэрца беларускага народа».

3. — Добра, дарагая, ты адпачывай, — пляснуў па каленях Рыгор і дадаў — А я пакармлю скаціну і таксама буду адпачываць (*А. Брытун*).

4. Праз хвіліну Ларыса ўжо авалодала сабой, павярнулася да яго і сказала стрымана, але з унутраным агнём: « — Хай будуць сведкамі гэтае неба і гэтыя дрэвы, што я ўсё жыццё чакала такога моманту» (*У. Дамашэвіч*).

5. «Марудна (дужа марудна, бо ад жыццёвых клопатаў застаецца мала вольнага часу і думак) нараджаюцца песні і іншага складу вершы», — скардзіўся Францішак Багушэвіч у лістах да Яна Карловіча (*Я. Янушкевіч*).

## Тэст В

***В1. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і аднароднымі членамі ў іх. Адзначце нумар правільнага адказу.***

| | |
|---|---|
| А. Тры дні і тры ночы калыхала мора ладдзю (*З. Дудзюк*).<br>Б. Прахалода вечаровага туману атуляе і лагодзіць незнарок (*У. Марук*).<br>В. Грудзі і жывот пакрыў жаўтлява-карычневы пылок з каласоў (*А. Камароўскі*).<br>Г. У славян была добрая асадная тэхніка і вопыт асады гарадоў (*З. Дудзюк*). | 1. Аднародныя выказнікі.<br>2. Аднародныя дзейнікі.<br>3. Аднародныя акалічнасці.<br>4. Аднародныя дапаўненні.<br>5. Аднародныя азначэнні. |

***Варыянты адказаў:***

1. А1 Б3 В4 Г2.
2. А2 Б1 В3 Г5.
3. А4 Б2 В5 Г1.
4. А3 Б1 В4 Г2.
5. А3 Б2 В5 Г1.

***В2. Устанавіце адпаведнасць паміж сказам і яго характарыстыкай. Адзначце нумар правільнага адказу.***

| | |
|---|---|
| А. Паражэнне можна было апраўдаць неспрыяльнымі ўмовамі (*А. Марціновіч*).<br>Б. Збяру кветкі колеру тваёй самоты (*Ю. Новік*).<br>В. Пяць белых пялёсткаў (*У. Караткевіч*).<br>Г. Тут, відаць, святкуюць імяніны ці нейкую іншую святочную падзею (*В. Вольскі*). | 1. Няпэўна-асабовы.<br>2. Безасабовы.<br>3. Назыўны.<br>4. Абагульнена-асабовы.<br>5. Пэўна-асабовы. |

***Варыянты адказаў:***

1. А5 Б3 В4 Г2.
2. А4 Б1 В5 Г2.
3. А2 Б1 В3 Г4.
4. А2 Б5 В3 Г1.
5. А2 Б3 В4 Г5.

***В3. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і адасобленымі членамі ў іх. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. На праверку прыехаў са штабам маршал Г. К. Жукаў — камандуючы Адэскай акругі (*В. Быкаў*).<br>Б. А яшчэ Мамута адчуў вельмі востра не зведаную раней прагу — жыць наперакор усялякаму ліху! (*Л. Левановіч*).<br>В. Аповесць Івана Сяргейчыка «Біклажка», прысвечаная падзеям «афганскай» вайны, кранае драматызмам лёсаў галоўных герояў («*ЛіМ*»).<br>Г. Толькі тут, на мокрай сцежцы, я змог добра разгледзець гэты дом-палац (*У. Караткевіч*). | 1. Адасобленае дапасаванае азначэнне.<br>2. Адасобленае недапасаванае азначэнне.<br>3. Удакладняльная адасобленая акалічнасць.<br>4. Адасоблены прыдатак.<br>5. Адасобленае дапаўненне. |

***В4. Знайдзіце безасабовы сказ і выпішыце яго граматычную аснову:***

1. Адзеў красавік у лісцвяныя ўборы альшэўнік за вёскай і гай белакоры (*М. Мятліцкі*).
2. Танцавала, іграла на гітары, мандаліне і балалайцы (*Г. Краўчанка*).
3. На творчасці І. Пташнікава можна напісаць не адну дысертацыю (*І. Шамякін*).
4. Разумныя, праніклівыя вочы (*У. Караткевіч*).
5. Узважаныя яблыкі высыпалі ў бункер (*З. Дудзюк*).

***В5. Устанавіце адпаведнасць паміж складаназалежнымі сказамі і тыпамі дадзеных частак у іх. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Да святла прабівае дарогу і спяшаецца, нібы ганец, каб сустрэць ледзяную аблогу, непакорнай вясны пасланец (*В. Вабішчэвіч*).<br>Б. На плошчах, адведзеных пад заказнік, знайшлі вялікую колькасць вяртлявай чаротаўкі, якая на сённяшні дзень стала сімвалам беларускага Палесся (*П. Сабіна*).<br>В. Бацька сёння хацеў высветліць, наколькі моцна Мянжынскі кахае яго дачку (*Ю. Татарынаў*).<br>Г. Падняцца б над полем, над раніцай золкай і хоць на хвіліну вярнуцца б туды, дзе ў жыце, на лузе, пад яркай вясёлкай, у садзе мае засталіся сляды (*В. Гардзей*). | 1. Дададзеная азначальная.<br>2. Дададзеная акалічнасная месца.<br>3. Дададзеная акалічнасная мэты.<br>4. Дададзеная дапаўняльная.<br>5. Дададзеная акалічнасная прычыны. |

***В6. Адзначце элементы характарыстыкі, якія адпавядаюць наступнаму сказу:***

Хай і цень мой з пагорка бачыць жыта, сосны і валуны (*Н. Гілевіч*).

1. Просты.
2. Апавядальны.
3. Двухсастаўны.
4. Няпоўны.
5. Ускладнены аднароднымі дапаўненнямі.

***В7. Адзначце сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Юны Фердынанд Талочка з ягонай схільнасцю да скептыцызму абяцаў быць, калі стане дарослым, мізантропам: ён захапляўся кабалістыкай, спірытызмам, магіяй, верыў у пярэваратняў, мерцвякоў, што прымаюць выгляд жывых (*Ю. Татарынаў*).

2. Хмары, якія ўвесь дзень разгортваліся сувоямі над вёскаю, да вечара скаціліся за далягляд; неба ачысцілася, вецер сціх, і каб не камары ды мухі, якія гэтай парой былі асабліва ўедлівыя, дык лепшага часу і нельга было жадаць (*З. Дудзюк*).

3. Але зямляк не перабольшваў з ухвалой: гэта Янковіч недаацэньваў сваёй якасці — рабіць дабро з такою лёгкасцю, з якою майстра-піяніст націскае на клавішы і адорвае людзей эстэтычнаю асалодаю (*В. Жуковіч*).

4. У гонар Міхала Клеафаса Агінскага названа адна з вуліц Маладзечна, а на будынку музычнага вучылішча, якое таксама носіць яго імя, вісіць мемарыяльная дошка, дакладна такая, што і на доме ў італьянскай Фларэнцыі дзе пражыў свае апошнія дні аўтар паланэза «Развітанне з Радзімай» («*Маладосць*»).

5. Ласіха з цяжкасцю перасоўвала ногі, а самой здавалася, што яна, як калісьці, поўная моцы, імчыць разам з маленькім па родным полі (*В. Праўдзін*).

***В8. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і схемамі. Адказ запішыце.***

А. Скарына разумеў, што наперадзе ў Беларусі цяжкія выпрабаванні, і, каб умацаваць дух народа і ягоную веру ў свае сілы, вучоны пастанавіў даць землякам шмат мудрых кніг на зразумелай кожнаму мове (*У. Арлоў*).

Б. Калі Алена Кукрэш, аўтар вядомай кнігі «Жорсткі раманс», паехала ў восеньскую фальклорную экспедыцыю па вёсках са сваімі студэнтамі і пачала мэтанакіравана збіраць песні такога кшталту, як «Маруся атравілась», пачула, з якой пяшчотай і эмацыянальнасцю іх выконваюць беларускія кабеты, яна зразумела: гэта яе лёс і ад яго нікуды не падзецца. (*І. Клімковіч*).

В. Было вырашана зрабіць аблаву, але цяжкасць выканання гэтай задумы была ў тым, што сваім логавішчам шэры выбраў багністае месца, якое мела ў наваколлі дрэнную славу (*Ю. Татарынаў*).

Г. Статная, з гордым, трошкі як бы смяшлівым паглядам вачэй, з якіх, здаецца, струменіліся дабрыня і ласкавы спакой, з дзвюма доўгімі, тоўстымі пляцёнкамі светлых, амаль ільняных валасоў, якія Ліза любіла насіць спераду, яна, калі праходзіла міма, міжвольна абдавала незразумелым цяплом, прымушала павярнуцца да яе, нібы электрызавала вакол сябе паветра (*Б. Сачанка*).

Д. З зародка, што быў у прабірцы, і з’явілася на свет істота, якую ты назваў малпаю, але я паўтараю: гэта не малпа, таму што вельмі хутка яна засвоіла ўсе зямныя мовы (*Р. Баравікова*).

1. [..., (якіх…), …, (якія)…, (калі…), …].
2. […, (што…),…], (якую…), але [ ]: [ ], (таму што…).
3. [ ], але [ ], (што…), (якое…).
4. (Калі…), (якой…), [ ]: [ ] і [ ].
5. [ ], (што…), і, (каб…), [ ].

## ВАРЫЯНТ XV

### ТЭСТ А

***А1. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія не з’яўляюцца словазлучэннямі:***

1) першая друкарня;
2) вяртаўся з прыгодамі;
3) насустрач лёсу;
4) лацінскі і стараславянскі;
5) прызнанне ўражвае.

***А2. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, у якіх сувязь паміж словамі — прыназоўнікавае кіраванне:***

1) ажаніўся з удавою;
2) вясновае раўнадзенства;
3) чэрпаць інфармацыю;
4) выйшла з саду;
5) спазніцца на заняткі.

***А3. Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, у якіх сувязь паміж словамі — прымыканне:***

1) далі сёння;
2) грунтуецца на паданнях;
3) аформлены прыгожа;
4) прымушае слухаць;
5) больш актыўна.

***А4. Адзначце словазлучэнні з памылкай у дапасаванні:***

1) два тоўстых слоўнікі;
2) дзве русыя касы;
3) белы гусь;
4) якасная шампунь;
5) тры вялікія дамы́.

***А5. Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца дапаўненнем:***

1. Захавалася значная творчая спадчына гэтага **пісьменніка** (*В. Чамярыцкі*).

2. Магутным **сродкам** культурнага прагрэсу чалавецтва стала кнігадрукаванне (*В. Чамярыцкі*).

3. Мемуарыст Фёдар Еўлашоўскі з замілаваннем расказвае пра шматлікія **эпізоды** з жыцця дробнай і сярэднепамеснай шляхты (*А. Каршунаў*).

4. Сувязь з традыцыямі Адраджэння, а праз яго і з **антычнасцю** выразна адчуваецца ў многіх вершах Сімяона Полацкага (*М. Грынчык*).

5. З'яўленне скарынаўскіх друкаваных перакладаў стымулявала далейшае **развіццё** перакладчыцкай дзейнасці на беларускіх землях (*В. Чамярыцкі*).

***А6. Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца азначэннем:***

1. Першапачаткова **батлейкавы** тэатр меў выключна рэлігійны характар (*А. Мальдзіс*).

2. Імкненне **ўпрыгожыць** сваё жыллё і побыт, імкненне да хараства і дасканаласці ніколі не пакідала беларуса-працаўніка, нават у самыя цяжкія часы (*В. Чамярыцкі*).

3. Рукі мае́ за час касавіцы агрубелі, сталі намнога **дужэйшыя** (*В. Новак*).

4. Дабро памножым на дабро, каб сонца свяціла **кожнаму** даўжэй (*С. Грахоўскі*).

5. **Пачутае** аб сутычцы сабакі з ваўкамі зрабіла вялікае ўражанне на слухачоў (*А. Брытун*).

***А7. Адзначце сказы з састаўным іменным выказнікам:***

1. Жанчына здалася занадта экстравагантнай нават для гэтай стыльнай залы з багатымі драпіроўкамі, бліскучымі манекенамі са шкловалакна і дарагімі люстрамі на столі (*С. Бязлепкіна*).

2. Сымон Блатун быў пастаянным аўтарам часопіса «Вожык» (*К. Камейша*).

3. Разгадаць мне хацелася ўсмешку адной зараньві, яснай як дзень (*Я. Пушча*).

4. Над поплавам рассцілаўся пульхны сувой туману (*З. Дудзюк*).

5. З тых часоў скарб ніхто і не можа адкапаць (*А. Кажадуб*).

***А8. Адзначце сказы, у якіх дапушчана памылка ў каардынацыі дзейніка і выказніка:***

1. Стражнік разам са знойдзеным сабакам кожны дзень неслі сваю службу (*А. Брытун*).

2. На галоўнай вуліцы стоўпіліся столькі гараджан, што каралеўскі картэж ледзьве рухаўся (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

3. Пераследнік калясіў па ўсім горадзе, мяняў маршруты (*Ю. Станкевіч*).

4. Акрамя натуральных буйных вадасцёкаў і невялікіх азёр, якіх налічваецца крыху болей за сорак, на тэрыторыі парку «Прыпяцкі» захавалася некалькі каналаў, пракапаных яшчэ ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя ў часы заходняй экспедыцыі І. І. Жылінскага для лесасплаву (*А. Казулін*).

5. На пажары загінулі мноства зуброў і іншых рэдкіх звяроў (*А. Брытун*).

***А9. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца простым дзеяслоўным выказнікам:***

1. Тэма нацыянальнага адраджэння ў прадмовах да зборнікаў «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» **становіцца асновай** творчасці Францішка Багушэвіча (*Я. Янушкевіч*).

2. Івану даўно і моцна **ўпала ў вока** Пахвалёнчыкава Стася (*А. Бутэвіч*).

3. На думку бацькі, наш Арсень недзе **сабак ганяе** (*Н. Міцкевіч*).

4. Вяселле **згулялі** паводле старадаўніх звычаяў, з усімі належнымі цырымоніямі (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

5. Усё ў зале выглядала **дагледжаным, чыстым** і **ўтульным** (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

***А10. Адзначце сказы, у якіх неабходна паставіць працяжнік:***

1. Адна з галоўных задач літаратурнага навучання прывіць вучням цягу да кнігі, патрэбу ў пастаянным чытанні (*М. Лазарук*).

2. Першыя хвіліны і першыя дні жыцця дзіцяці самыя крытычныя, самыя важныя і адказныя (*У. Ліпскі*).

3. Літаратурная дзейнасць Васіля Цяпінскага яркі феномен у гісторыі беларускай старажытнай літаратуры (*А. Каршуноў*).

4. Статут ВКЛ звод правоў феадальнага часу, прадукт ідэалогіі пануючага класа, канстытуцыя беларуска-літоўскай шляхты (*В. Чамярыцкі*).

5. Яна́ прынцыповы чалавек ва ўсім: на працы, у сям'і, у творчасці, у сяброўстве (*У. Ліпскі*).

***А11. Адзначце сказы з ускоснымі дапаўненнямі:***

1. Падрабязна прасочвае Алесь Карлюкевіч і творчы шлях Алеся Марціновіча (*Г. Макарчык*).

2. Гэта просьба не была асаблівай навіной для Ткачукоў (*У. Ліпскі*).

3. Раптам з-за дзвярэй вылецела воблака пары (*А. Камароўскі*).

4. З трэскам ірвала каўнер бліскавіца на дубе (*Ю. Голуб*).

5. Некалі Ной на ровары з лесу па бервяну на хату навазіў (*А. Камароўскі*).

***А12. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца акалічнасцю спосабу дзеяння:***

1. Грушы-дзічкі раслі **побач** (*А. Бароўскі*).

2. Высахлая лістота **даўно** асыпалася з дрэў (*А. Казлоў*).

3. Мялешчык **бясшумна**, але вельмі хутка пачаў паднімацца (*М. Южык*).

4. Хуткім часам з'еду ў сталіцу і акунуся **з галавой** у сапраўднае жыццё (*А. Брытун*).

5. **Летам** пасля Крайскай школы я яшчэ насіў пошту (*І. Пташнікаў*).

***А13. Устанавіце адпаведнасць паміж інфінітывам і яго сінтаксічнай роляй у сказе. Адзначце нумар правільнага адказу.***

| | |
|---|---|
| А. А гэты нахабнік яшчэ на каленях прыпаўзе і будзе маліць, каб я вярнулася (*А. Брытун*).<br>Б. Схуднелая Насця, з уцягнутымі шчокамі, з цёмнымі кругамі пад вачыма, ад'язджала здаваць выпускныя экзамены (*Л. Дрожжа*).<br>В. Гэтыя чужынцы умеюць вызваляць агонь з каменю (*В. Гігевіч*).<br>Г. Здольнасць успрымаць падзеі і свет не адразу вярнулася да Цімошкі (*Б. Сачанка*). | 1. Дзейнік.<br>2. Просты дзеяслоўны выказнік.<br>3. Частка састаўнога дзеяслоўнага выказніка.<br>4. Азначэнне.<br>5. Акалічнасць. |

***Варыянты адказаў:***

1. А1 Б2 В3 Г5.
2. А4 Б1 В5 Г3.
3. А5 Б2 В4 Г1.
4. А2 Б5 В3 Г4.
5. А3 Б1 В4 Г2.

***А14. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску неабходна паставіць коскі:***

1. Гаспадыня кожную раніцу прыносіць Валодзіну некалькі свежых … курыных яек (*А. Федарэнка*).

2. Мікола Гусоўскі ў «Песні пра зубра» лічыць князя Вітаўта выдатным … мудрым дзеячам (*У. Калеснік*).

3. Апынуўшыся у Рыме, культурным цэнтры еўрапейскага Адраджэння, Гусоўскі бачыў, што смелы … рызыкоўны … знаходлівы ў небяспечных пераплётах чалавек быў і тут героем дня (*У. Калеснік*).

4. У сярэдзіне шаснаццатага стагоддзя ва ўмовах абвостранай … антыфеадальнай і нацыянальна-рэлігійнай барацьбы ўзрасло значэнне літаратуры (*А. Коршунаў*).

5. Каб не абразіць сома, хлопец у час хады прыпадымаў над зямлёю яго доўгі … слізкі хвост (*В. Гігевіч*).

***А15. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі:***

1. Сам жа я вырас у вёсцы, босым па балоце блукаў, але ніводнага разу не бачыў цецерукоў (*А. Літошка*).

2. Марыя хацела верыць у тое, што падказвалі ёй яе чысціня, выхаванасць і разуменне жыцця (*Ю. Татарынаў*).

3. Шматмоўная царкоўна-рэлігійная літаратура сярэднявечча распаўсюджвалася як рукапісным так і друкарскім спосабам (*В. Чамярыцкі*).

4. Многія помнікі беларускай літаратуры да нашага часу не дайшлі, або яшчэ не знойдзены (*А. Мальдзіс*).

5. Выгляд у Мікалая Сяргеевіча быў не як у хворага чалавека — вясёлы, жыццярадасны (*М. Лук'янаў*).

***А16. Адзначце сказы з адасобленымі дапаўненнямі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Калі прыйшоў час галасавання ўвесь сінод за выключэннем двух чалавек пайшоў следам за сваім духоўным лідарам Сымонам Будным і выказаўся ў абарону ўрада (*І. Саверчанка*).

2. У сваіх творах акрамя чыста багаслоўскіх пытанняў Іаан Златавуст закранаў важныя праблемы грамадскага жыцця (*В. Чамярыцкі*).

3. Працуючы ў доме смутку не першы год санітарка ўстрымалася ад гучных воклічаў (*Т. Бесараб*).

4. Нягледзячы на разнастайнасць архітэктура палаца падпарадкоўвалася строгай сістэме (*В. Альшэўскі*).

5. Тут падышла Алеся са сваёй прапановай паехаць усім калектывам на базу адпачынку (*М. Лук'янаў*).

***А17. Адзначце сказы з адасобленымі акалічнасцямі (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. Пазіраючы ў цёмныя вокны адзінокі бадзяецца вечар (*К. Дарагонька*).

2. А з другога боку перад Скавінскім адкрываўся як на далоні Аспінваль (*Г. Сянкевіч, пер. М. Кенькі*).

3. Патрэскваючы галавешкі раз-пораз успыхвалі а праз хвіліну-другую тухлі (*Ул. Сцяпан*).

4. І мусім цяпер мы ад горычы плакаць сваю кленучы недарэчную гордасць (*Т. Сямёнава*).

5. Наста быццам трохі акрыяла як бачыш паставіла на пліту патэльню з мясам (*А. Камароўскі*).

***А18. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставяцца знакі прыпынку пры адасобленых прыдатках:***

1. Бачыш, ціха крадучыся, падпаўзлі да самой хаты туманы … дзяды сівыя … і маўчыць прастор зацята. (*І. Ляшковіч*).

2. Не выцягваючы з цела рыбіны дзіды ... трымаючы сома за жабры ... сябры вывалаклі яго на белы пясок (*В. Гігевіч*).

3. На прыстанку маім ... невялічкім узвышшы ... цягнікамі ляцяць мае дні ўсё хутчэй (*І. Ляшковіч*).

4. Ласіха ... ацяжараная будучым ласянём ... стомленая пагонямі ... бегла наперадзе (*А. Камароўскі*).

5. У службовым кабінеце на сцяне віселі паляўнічыя трафеі ... галовы аленя, лася, дзіка (*А. Брытун*).

***А19. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць знакі прыпынку пры ўдакладняльных членах сказа:***

1. Ваявода Крума падзякаваў славянскім воям і запрасіў усіх на наступным тыдні ... дні праз чатыры ... ўзяць удзел у балі пераможцаў у разбуранай Плісцы (*З. Дудзюк*).

2. Васіль Гадулька ... гадаваў ты творы без жаднае хлусні, без мітусні; самотны, да таго ж і сэрцам хворы, так рана ты сышоў, але не знік (*В. Жуковіч*).

3. Час ад часу сом выварочваўся ... выгінаўся дугою ... абапіраючыся хвастом аб белы пясок (*В. Гігевіч*).

4. Сёння ў мяне ўсё добра атрымліваецца ... асабліва скачкі з трамплінаў (*У. Ягоўдзік*).

5. Калісьці ... ажно ў 1954 годзе ... Белгіправадгас распрацаваў тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне асушэння балот (*П. Сабіна*).

***А20. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку пры адасобленых членах:***

1. Аднак Георг Трэці, гесенец паводле нараджэння, імкнуўся выглядаць кансерватарам большым за саміх англічан і ні на якія саступкі не пагаджаўся (*Я. Конеў*).

2. Пасля Чаркашын махнуў рукой музыканту, нібыта сыпнуўшы яму жменю манет, і адразу ж топнуў нагой (*І. Пташнікаў*).

3. Пан быў заможны, і ў яго вокнах замест звычайных пузыроў ужо стаяла сапраўднае шкло (*Я. Сіпакоў*).

4. Цвіце сланечнік у маёй душы, дарогу асвятляючы наперад (*М. Маляўка*).

5. Я, дробная асоба, быў уцягнуты ў інтрыгі ўплывовых людзей (*В. Чаропка*).

***А21. Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў неабходна паставіць коскі:***

1. Забыты ўсімі ... падуладны марам ... люблю ляжаць вось так, да неба тварам, калі яно блакітнае, без хмар! (*М. Маляўка*)

2. Як самы дужы паляўнічы ... Сын мядзведзя захоча ўзяць у жонкі нашу Маю ... адмовіць яму мы ніяк не можам (*В. Гігевіч*).

3. Ісуса Хрыста па патрабаванні раз’юшанага натоўпу распялі ... як злачынцу ... на крыжы салдаты Пілата, рымскага намесніка ў Іерусаліме (*В. Чамярыцкі*).

4. Паўліна перадала брату некалькі сшыткаў ... ведаючы яго звычку ... запісваць назіранні за з’явамі прыроды (*З. Дудзюк*).

5. Чалавек ... заўважыўшы незнаёмых людзей ... паспешліва адступіў назад ... да цёмнай сцяны лесу (*А. Федарэнка*).

***А22. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў неабходна паставіць коскі:***

1. Леанід Дранько-Майсюк прыйшоў у беларускую літаратуру ... як пясняр красы, прыхільнік лірыкі тонкай пачуццёвасці (*А. Бельскі*).

2. Гукі нарасталі, узмацняліся, набліжаліся ... як лава (*А. Брытун*).

3. Ён, бацька, быў ... як тая нябачная сцяна, за якою хлопцу было лёгка і спакойна жыць (*В. Гігевіч*).

4. Не хапіла мне духу ісці ў падзямелле, як над маёй галавой залёталі кажаны такія вялікія ... як галубы (*В. Чаропка*).

5. Голас Ціхана прагучаў ... як гром сярод яснага неба (*А. Брытун*).

***А23. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць знакамі прыпынку пры пабочных словах:***

1. Ведаеш кветкі імкнуцца да сонца, а я да цябе (*А. Бруй*).

2. І ў маторны, закручаны век я збярог чысціню вашу звонкія сані (*С. Блатун*).

3. Здавалася папярочная перакладзіна-бэлька, якая дужа нізка змацоўвала маставую канструкцыю, возьме ды і знясе ўсіх дашных пасажыраў (*А. Асіпенка*).

4. Са скарбніц праўда бралася нешта на падарункі, якія ў тыя часы былі ў нас традыцыяй (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

5. Застануся з табою красуня (*Я. Пушча*).

***А24. Адзначце аднасастаўныя сказы:***

1. Не спакушай нас высокай песняй гэтак рана, Галактыка (*П. Панчанка*).

2. Няма на цяпло ніякіх прыкмет (*К. Камейша*).

3. Ну, Цішка, цяпер толькі на цябе надзея! (*А. Федарэнка*).

4. Перад сном чытаў геаграфію і дзівіўся з разнастайнасці прыроды (*З. Дудзюк*).

5. Змрочная і халодная восень (*З. Дудзюк*).

***А25. Адзначце пэўна-асабовыя сказы:***

1. З новай верай, з новай сілай зажывём, беларускі гімн свой родны запяём (*С. Новік-Пяюн*).

2. Беларускай песні роднае пад тон зааром мы і засеем свой загон (*С. Новік-Пяюн*).

3. Вяселле вырашана было згуляць перад Калядамі (*Ю. Татарынаў*).

4. Але, Каця, больш табе не скажу ні слова (*З. Дудзюк*).

5. Пакіну машыну ў Калінкавічах і пайду пехатою (*І. Шамякін*).

***А26. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю неабходна дапоўніць двукроп'ем пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі:***

1. І з гэтага дня хлопчык не мінаў ужо нідзе ні аднаго гнязда шукаў па балацявінах качыныя і кнігаўчыныя, лазіў па лазняку і спорваў сарочыя, вароніны, а ў хвойніках — драздовыя, клястовыя… (*Б. Сачанка*).

2. У душы героя верша Дамініка Дудніцкага, сярэдневяковага паэта, змагаюцца самыя розныя пачуцці дабро і зло любоў і нянавісць глыбокая вера і рэлігійны скепсіс (*А. Мальдзіс*).

3. Валодзін прыязджаў у гэты пасёлачак на заходнім беразе Крыма трэці год запар у адзін і той жа час, у верасні (*А. Федарэнка*).

4. Міколу Гусоўскага засмучала, што ўніверсальным сродкам вырашэння палітычных канфліктаў становіцца вайна, сіла, а не розум і справядлівасць (*У. Калеснік*).

5. Гусцера і яльцы лавілі на паверхні ўсялякую жыўнасць мух, жукоў, мятлікаў (*В. Гігевіч*).

***А27. Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх часткі звязаны супраціўнымі злучнікамі:***

1. Быў лёгкі прымаразак, і прыгожыя сняжынкі, збітыя ў камякі, сыпаліся з неба, засцілаючы наваколле (*А. Бензярук*).

2. Макрыцкі меўся яшчэ сказаць пра сваю адданасць справе, але словы быццам рассыпаліся, не жадаючы складвацца ў сказы (*В. Праўдзін*).

3. Для цябе я рамонкам была, а хацелася быць незабудкай (*І. Чарняўская*).

4. Са мной такога не было, аднак аб нападзе рысі на чалавека чуў шмат разоў (*А. Брытун*).

5. А мо перагрэўся на санцапёку і яго, чалавека волатаўскага целаскладу, зваліў моцны цеплавы удар? (*А. Ветах*).

***А28. Адзначце складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем:***

1. Псіхолагі кажуць, што першае ўражанне самае правільнае, бо чалавек успрымае іншага на ўзроўні падсвядомасці і адчувае яго сапраўдны характар (*Л. Адамовіч*).

2. Вельмі важна тое, што глухія, першабытныя палескія балоты ідэальна падыходзяць для захавання і размнажэння надзвычай разнастайных раслін і жывёл, сярод якіх ёсць вельмі рэдкія (*П. Сабіна*).

3. Фёдар, калі абараніў кандыдацкую дысертацыю, атрымаў пакой у «прафесарскім» доме, дзе жылі пераважна супрацоўнікі ўніверсітэта (*Н. Міцкевіч*).

4. За вячэрай прызнаўся брату, што яму падабаецца Малання, якая была ў іх на вяселлі (*А. Брытун*).

5. Маліся, родны, і вер, што мінуць хмурныя дзянёчкі і ўступяцца за цябе сілы праведныя, вызваліўшы ад ліха чорнага, ярма праклятага (*А. Ветах*).

***А29. Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропускаў неабходна паставіць двукроп'е:***

1. Не дастанеце з сундука даўнейшыя дываны і посцілкі ... не сяду за варштат (*У. Ягоўдзік*).

2. Зарадзілася глыбокае пачуццё ў аднаго ... з прычыны сваіх таямнічых законаў яно выклікала такое ж самае пачуццё і ў другога (*А. Карпюк*).

3. Нясвіжскі князь Караль Станіслаў Радзівіл здабыў глыбокую павагу караля і шляхты ... ў найбольш цяжкіх палітычных сітуацыях ён імкнуўся заняць нейтральную пазіцыю, знаходзіў станоўчыя моманты ў паводзінах кожнага з варагуючых бакоў і імкнуўся з вышыні свайго аўтарытэту прымірыць іх (*І. Масляніцына*).

4. Талент паэткі Ганны Новік гартавалі дужа суровыя абставіны грамадскага жыцця і асабістага лёсу ... яна расла і выхоўвалася ва ўмовах беспрасветнай беднасці і галечы, штодзённага клопату пра кавалак хлеба, цяжкай фізічнай працы (*М. Мікуліч*).

5. Сілы не хапае любавацца, ночы прыгажосць без гледача ... стомленая восеньскаю працай, вёска замірае на вачах (*Г. Бабарыка*).

***А30. Адзначце сказы з няправільна пастаўленымі знакамі прыпынку:***

1. Ужо сорак гадоў прайшло, як Скавінскі не бачыў радзімы, і толькі Бог ведае, чаму не чуў роднай мовы, а тут мова сама прыйшла да яго, пераплыла акіян і знайшла гаротніка на другім баку зямнога шара, такая дарагая, такая любімая, такая прыгожая!

2. Ноч пабялела: выступаюць са змроку лясы, кустоўе, шэрагі хатак, млын, таполі.

3. У вушах зашумелі сасновыя лясы і забруіліся родныя рэкі.

4. Чайкі праляцелі над маяком, крычалі нібы непакоячыся пра свайго старога сябра.

5. Стары ўскрыкнуў як ад болю і ўпаў на зямлю: яго белыя валасы асыпаў марскі пясок.

*Г. Сянкевіч, пер. М. Кенькі*

***А31. Адзначце сказы з правільна пастаўленымі знакамі прыпынку:***

1. Гардзей не пайшоў з міскай да дзвярэй, дзе праз адкрытае акенца падавалі абед, а дастаў кавалачак сала і лустачку сухога хлеба, што клапатліва ўкінула на развітанне Паўліна, пачаў марудна жаваць (*З. Дудзюк*).

2. З-за таго, што вязні распачалі галадоўку ім забаранілі сустрэчы з роднымі (*З. Дудзюк*).

3. У Забайкаллі Дыбоўскі не толькі даследаваў фаўну края, але так-сама высвятляў такія практычныя пытанні, як пошук прычыны недахопу лясоў у Дауры, магчымасць пашырыць у Забайкаллі хлебаробства (*М. Бандарэнка*).

4. З туману і далечы, з бору і гаю вяснянку лясную, сваю маладосць, ці горка, ці крыўдна, гукаю, гукаю, і неба святлее і крылы ўжо ёсць (*В. Гардзей*).

5. Зося, маўкліва назіраючы за тым, што адбываецца ў хаце задаволена адзначыла сама сабе: Гардзей не хоча, каб яна ішла замуж за другога, значыць, жадае пакінуць яе для сябе (*З. Дудзюк*).

***А32. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку пры цытатах:***

1. У рамане «Толькі аднойчы» Алесь Савіцкі заўважае, што: «Прыходзіць сапраўднае каханне і высвятляе ўсё жыццё, усе ўчынкі, усе словы, кожны крок на зямлі» (*М. Мятліцкі*).

2. У маладосці мой бацька сплаўляў па Нёмане лес, даходзіў неаднойчы нават да Прусіі. Акурат так, як пісаў Колас: «Разоў са два схадзіў у Прусы, куды не трапяць беларусы…» (*В. Дайліда*).

3. «… кожная чалавечая істота ўнікальная ў сваіх праявах, інстын-ктах, спосабах атрымоўваць задавальненне, імкненнях да прыгод», — піша бразільскі пісьменнік Каэльё («Полымя»).

4. Аляксей Карпюк цалкам меў рацыю, калі падкрэсліваў, што «ў Алеся Наварыча тэкст уражвае трапнасцю дэталяў і самабытным апісаннем сітуацый, у якія трапляюць яго героі» (*Д. Бугаёў*).

5. Праз шмат гадоў пасля вайны я прачытаў выказванне рускага філосафа Мікалая Бярдзяева:

— Гераізм ёсць бясстрашша перад ісцінай і смерцю (*М. Зайцаў*).

## Тэст В

***В1. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і аднароднымі членамі ў іх. Адзначце нумар правільнага адказу.***

| | |
|---|---|
| А. Сабака рэзка ўскочыў на лапы, задраў галаву ўверх і амаль як воўк завыў: «У-у-у…» (*А. Брытун*) | 1. Аднародныя дапаўненні. |
| Б. Волю пісьменніка-публіцыста Афанасія Філіповіча да барацьбы супраць уніі не маглі зламаць ні арышты, ні турмы, ні кайданы, ні ссылкі (*А. Коршунаў*). | 2. Аднародныя азначэнні.<br>3. Аднародныя дзейнікі. |
| В. Я прыўставаў, каб яшчэ раз угледзецца ў цвёрдыя, пажаўцелыя ад сонца зярняткі (*У. Ягоўдзік*). | 4. Аднародныя выказнікі. |

| | |
|---|---|
| Г. «Дыярыуш» (дзённік) Афанасія Філіповіча кранае чытачоў эмацыянальнасцю, вобразнасцю, шчырасцю пачуццяў і прастатой выкладу матэрыялу (*А. Коршунаў*). | 5. Аднародныя акалічнасці. |

***Варыянты адказаў:***

1. А1 Б3 В4 Г2.
2. А2 Б1 В2 Г5.
3. А4 Б3 В2 Г1.
4. А4 Б2 В5 Г1.
5. А3 Б4 В1 Г5.

***В2. Устанавіце адпаведнасць паміж сказам і яго характарыстыкай. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Маці спадзявалася, што Антон будзе цяпер пры школе і Веры паспакайнее на сэрцы (*А. Тулупава*).<br>Б. Дзяўчына глядзела на акацыі, якія пасля ўчарашняй шэрані разрасліся на марозе, засерабрыліся і былі падобныя на нейкі дзівосны сад (*А. Тулупава*).<br>В. Алена разумела: санная дарога самая роўная, самая лёгкая для хворага (*І. Шамякін*).<br>Г. Малым заўсёды цяжка вырастаць са сваіх цацак, але ўсяму ў гэтым жыцці ёсць свой час (*К. Камейша*). | 1. Складаны бяззлучнікавы сказ.<br>2. Складаназалежны сказ з аднародным сузалежным падпарадкаваннем.<br>3. Складаназалежны сказ з адной даданай часткай.<br>4. Складаназлучаны сказ.<br>5. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі. |

***В3. Адзначце, чым ускладнены просты сказ:***

Флейта, знойдзеная ў адным з неандэртальскіх паселішчаў, выраблена з галёнкі мядзведзя і па строі нічым не адрозніваецца ад звычайнай флейты (танальнасць сі-бемоль) (*В. Гігевіч*).

1. Адасобленым азначэннем.
2. Аднароднымі членамі.
3. Устаўным спалучэннем.
4. Адасобленай акалічнасцю.
5. Пабочным словам.

***В4. Адзначце нумары пропускаў, на месцы якіх трэба паставіць коску:***

Карней слухаў маладзіцу і думаў [1]... што[2] ... калі была б тут зараз Леакадзія Максімаўна[3] ... яна б ад шчасця памерла[4] ... нашы нашчадкі захавалі беларускую мову[5] ... і цудоўна ёю карыстаюцца! (*З. Дудзюк*).

***В5. Устанавіце адпаведнасць паміж сказам і прапушчаным у ім знакам прыпынку. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Мае пачуцці да Марусі сабраліся ў надзвычай стракаты букет у ім можна было знайсці захапленне і жах, змешаныя з цвярозым усведамленнем бесперспектыўнасці нашых адносінаў (*А. Андрэеў*). | 1. Коска паміж часткамі складаназлучанага сказа.<br>2. Двукроп’е паміж часткамі складанага бяззлучнікавага сказа, у якім другая частка раскрывае сэнс першай. |

| | |
|---|---|
| Б. Збягае з парасона ручаёк а на губах тваіх і ў непагоду трапеча ўсмешка — мокры матылёк — і свеціць мне да новага прыходу (*М. Маляўка*).<br>В. Я ўспамінаю цяпер сваё жыццё, але ў ім не было нічога, акрамя цябе я зразумеў гэта толькі зараз (*А. Бруй*).<br>Г. Проба каштоўных металаў гэта колькаснае змесціва золата, срэбра, плаціны і паладзія ў лігатурным сплаве, з якога выраблюоцца ювелірныя вырабы і адбываецца чаканка манет («*Полымя*»). | 3. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам галоўнай часткі складаназалежнага сказа.<br>4. Працяжнік паміж часткамі складанага бяззлучнікавага сказа, у якім другая частка падагульняе сэнс першай.<br>5. Кропка з коскай у складаным сказе з рознымі відамі сувязі. |

***В6. Вызначце безасабовы сказ і выпішыце яго граматычную аснову.***

1. У беларускім перакладзе апавяданняў Чэхава было шмат калек з рускае мовы (*У. Дамашэвіч*).

2. На пляжы для курортнікаў якіх не ўбачыш цудаў! (*Н. Гілевіч*).

3. У гэтым імклівым руху было ягонае выратаванне, суцяшэнне, самазабыццё (*Л. Дайнека*).

4. З кожнай штольні пахне беларускай баравой смалістаю сасной (*М. Аўрамчык*).

5. Іду сцяжынкаю, дрымотаю спавіты, праз нівы хлебныя да коней на папар (*А. Салавей*).

***В7. Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх прапушчаны знакі прыпынку паміж часткамі:***

1. Акадэмія мастацтваў патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі абітурыентаў яны павінны мець адукацыю мастацкай школы, вучылішча, каб быць гатовымі да засваення праграмы вышэйшай школы (*В. Альшэўскі*).

2. Мабыць, людзі якраз і адрозніваліся ад ваўкоў тым, што спазналі закон усемагутнага, які жыў наверсе: памажы слабейшаму і табе ўсё вернецца (*В. Гігевіч*).

3. У лесе стукалі дзятлы, а высока ў небе крычалі дзікія гусі, якія ляцелі з поўдня (*А. Брытун*).

4. Але насунулася ноч, пагасла ілюмінацыя, у наваколлі ўсё аціхла, ніхто не прыходзіў і бедны Піліп, не распранаючыся, каб на ўсякі выпадак быць гатовым, заснуў у крэсле, паклаўшы галаву на стол (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

5. На свой родны і светлы прасёлак я малюся няспынна штодня, бо адсюль палячу я да зорак, тут — апошняя траса мая (*І. Капыловіч*).

***В8. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і схемамі. Адказ запішыце.***

А. Вярбіцкая ўзяла паперы з такім выглядам, быццам робіць паслугу, але ёй здалося, што нешта абарвалася ўсярэдзіне; па спіне пабеглі халодныя мурашы, кончыкі пальцаў па-здрадніцку ўздрыгвалі (*В. Праўдзін*).

Б. Тусін голас, напачатку ціхі, паступова набіраў сілу, мацнеў; вось ён запоўніў усю хату, яму тут было цесна, і ён тужліва кружыў над галовамі, шукаючы выйсця (*А. Тулупава*).

В. Здалося, што светлы сонечны дзень пацямнеў, быццам злосная, страшная сіла запаланіла ўсё наваколле і морак упаў на грэшную зямлю (*А. Дзятлаў*).

Г. Трэба падтрымліваць добрыя адносіны з такім магутным уладаром, бо ён наш сусед, і гэта азначае, што настала пара накіраваць у Франкскае каралеўства паслоў з падарункамі (*З. Дудзюк*).

Д. А вось абараняць прыроду, змагацца за яе, асабліва на першым этапе, калі экалагічная свядомасць, адукацыя, культура для многіх — цёмны лес, якія б ты званні і пасады ні займаў, вельмі цяжка (*П. Сабіна*).

1. [ …, (калі), (якія…), … ].
2. [ ], (бо…), і [ ], (што…).
3. [ ], (быццам…), але [ ], (што…); [ ], [ ].
4. [ ]; [ ], [ ], і [ ].
5. [ ], (што…), (быццам ( ) і ( )).

## ВАРЫЯНТ XVI

### ТЭСТ А

***А1. Адзначце пабуджальныя сказы:***

1. Прыхілюся да бярозкі і паплачу, мо ўжо любага ніколі больш не ўбачу (*З народнага*).
2. Няхай лесапрамысловец частку сваіх людзей паставіць на высечку прасек (*А. Брытун*).
3. Дзяўчына прайшла б міма, але, пачуўшы нечакана як бы сваё імя, прыпынілася (*А. Бутэвіч*).
4. Хай Кацярына едзе туды, адкуль прыехала (*Т. Гарэлікава*).
5. Будзь і ты нашым саратнікам супраць агульнага злодзея і захопніка (*І. Шамякін*).

***А2. Адзначце, якому сказу адпавядае наступная характарыстыка:*** *просты, апавядальны, няклічны, двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі членамі і ўстаўным словам.*

1. Сяброў шукаць мне цяжка на зямлі (*М. Южык*).
2. Вера стаяла паніклая, але, бачна, расчуленая песняй (*А. Тулупава*).

3. Кожны з герояў трылогіі Алеся Савіцкага будзе мужна бараніць зямлю ад чужынцаў («*Полымя*»).

4. Эпохі, як жывыя істоты, маюць сваю маладосць і сваю старасць (*У. Калеснік*).

5. Грамадскія ідэалы жывуць у характарах, поглядах і справах людзей (*У. Калеснік*).

***А3. Адзначце сказы, у канцы якіх неабходна паставіць пытальнік:***

1. Колькі ж солі трэба было ўлажыць на вярсту, каб вярнуць уяўнасць толькі што мінулай зімы (*А. Камароўскі*).

2. Хіба ж не можа маладая прыгожая князёўна стаць апошняй уцехай у ягоным жыцці (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

3. У сумятні марнуем нашы дні, а старасць непрыкметна падступае (*М. Дзюбак*).

4. Дык вось што Алеся насіла ў сабе ўвесь час, вось у чым парывалася прызнацца яму цэлы вечар (*А. Федарэнка*).

5. Пайшла б ты, калі б знайшоўся добры і разумны чалавек і паклікаў цябе за сабой (*А. Федарэнка*).

***А4. Адзначце аднасастаўныя сказы:***

1. Цвёрды, спадыспаду нібы абсыпаны мукою (ішоў дождж, і кроплі, падскокваючы ад зямлі, білі пад ягоны парасон, а потым высахлі), крамяны, як сыр, грыб (*У. Караткевіч*).

2. Стагі спалілі за апошнія дні ў шляхцюка Маркі Стахевіча (*У. Караткевіч*).

3. Сад цвіў вялізнымі белымі суквеццямі (*А. Крэйдзіч*).

4. Так, часам мне таксама хочацца шчырага сяброўства, любові (*З. Дудзюк*).

5. Князёўна толькі смяялася з маіх адказаў (*В. Чаропка*).

***А5. Адзначце сказы з састаўным іменным выказнікам:***

1. З шырокіх зарэчных заліўных лугоў часта дзьмулі халодныя вятры (*В. Гігевіч*).

2. Думкі мае былі невясёлымі (*У. Караткевіч*).

3. А тут і Саша Назанаў свае тры грошы ўставіў (*А. Бутэвіч*).

4. Такі вырадак пекла можа нешта прыдумаць (*У. Караткевіч*).

5. Няхай залатыя і сярэбраныя ўпрыгожанні на княгіні будуць яшчэ лепшымі, чым у нямецкіх жанчын (*В. Іпатава*).

***А6. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з’яўляюцца азначэннямі:***

1. Дзень народзінаў **Валі** вырашылі сустракаць да раніцы (*У. Ліпскі*).

2. Цяпер **Скакуноў** хлопец быў рашучым, як ніколі (*У. Ліпскі*).

3. Толькі шчасце **нядоўгім** было (*А. Марціновіч*).

4. **Убачанае** і **пражытае** перапаўнялі Рыгора пачуццямі (*А. Брытун*).

5. Я напішу свайму начальству **дакладную** аб самавольнай вылазцы на чужую тэрыторыю (*А. Брытун*).

***А7. Адзначце сказы, будова якога адпавядае схеме:***

1. Мабыць, толькі ў такім месцы мог нарадзіцца выдатны паэт Алесь Пісьмянкоў — прыгожы, чысты, светлы чалавек, тонкі лірык і мудры філосаф (*Л. Левановіч*).

2. На невялікі стол, засланы квяцістай цыратай, цётка паставіла міску капусты, чыгунок цёплай бульбы, парэзала скрылямі сала і пакінула яго ляжаць на жоўтай дошчачцы (*А. Ветах*).

3. На акопах мы знаходзілі трохгранёвыя штыкі, нямецкія цесакі, розны порах — трубчаты, як макароны, і круглячкаваты, падковападобны ў шоўкавых мяшэчках (*У. Содаль*).

4. Адначасова ў працэсе свайго жыцця чалавек з разрозненых фрагментаў-уражанняў стварае ўласную духоўную культуру, цэласны ўнутраны свет (*В. Альшэўскі*).

5. Праз тыдзень з усімі асвечанымі традыцыяй абрадамі адбылося пышнае пахаванне караля (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

***А8. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць коскамі пры адасобленых азначэннях (улічыце, што знакі прыпынку не пастаўлены):***

1. У лесе апрача Лявона не было ніводнай жывой душы (*Г. Пчалаводава*).

2. Птушыны сум гняздо радзімы з маленства ў сэрцы я нашу (*В. Коўтун*).

3. Магутным доўгім метэорам аўтамабіль набіраючы хуткасць паляцеў па дарозе (*М. Кулеш*).

4. Тэма кахання пазначаная ў першай кнізе лёгкімі штрыхамі ў далейшым зойме ў творчасці Я. Янішчыц па сутнасці цэнтральнае месца (*Д. Бугаёў*).

5. Змалку звезены з любай Айчыны адарваны ад матчынай мовы ён вярнуўся Паэтам і Сынам улюбёным у край свой і Слова (*М. Пазнякоў*).

***А9. Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць знакі прыпынку пры адасобленых акалічнасцях:***

1. Дзверы адчыненыя насцеж маўкліва запрашаюць у вялікі пакой (*У. Ягоўдзік*).

2. Раскатурхаўшы сяброў Ран ускочыў на ногі і пачаў узірацца ў той бок, адкуль даносіўся трэск (*В. Гігевіч*).

3. Акрамя звання «Герой Савецкага Саюза» Сцяпан Пашкевіч узнагароджаны медалем «За баявыя заслугі» (*В. Лешчанка*).

4. Аповесць «Лонва» нягледзячы на яе сучасны змест уся «дыхае» трагічным подыхам вайны (*Л. Ламека*).

5. Падобна добрым лясным духам не стуліўшы вока ўсю ноч браты дзяжурылі каля зуброў (*А. Брытун*).

***А10. Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў трэба паставіць коскі:***

1. У нарысе Навума Гальпяровіча «Мінёр з Полацка» Сцяпан Пашкевіч паказаны не толькі ... як герой вайны ... але і як сапраўдны герой мірнага часу (*В. Лешчанка*).

2. Панна, якая ішла замуж з двара, заўсёды мела ад князя нейкі падарунак: або пенсіён ... або пажыццёвае ўладанне ... або вёсачку ці пасаг (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

3. Ягайла моўчкі адставіў кубак, бо ... як не пераносіў яблычнага паху ... так не мог вытрываць і духу хмельнага пітва (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

4. Рэчка вясною ... ні з таго ... ні з сяго раптам мяняла рэчышча (*В. Гігевіч*).

5. Жахлівая твань праглыне і вазок ... і коней ... і людзей ... і ўранні ніхто нават не здагадаецца аб страшным здарэнні (*У. Караткевіч*).

***А11. Адзначце сказы, у якіх неабходна выдзеліць знакамі прыпынку ўдакладняльныя члены сказа:***

1. Тут на Лысай гары мы разам хадзілі і ў ягады, і ў грыбы (*Н. Міцкевіч*).

2. Аднойчы ў дзяцінстве два старэйшыя браты ўзялі Колю з сабой у арэхі (*А. Камароўскі*).

3. Даўным-даўно шмат гадоў таму планету з прыгожай назвай Сольдзія пакінуў велізарны карабель (*Г. Ануфрыеў*).

4. Сёння спілавалі засохлую рыжую яліну насупраць нашых вокнаў (*К. Камейша*).

5. І неяк раптам у адно імгненне ўспыхнулі ўсе верхавіны дрэў, як быццам іх спасцігла азарэнне, што ранак з ночы выбрацца сумеў (*С. Шах*).

***А12. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:***

1. У сёмым класе настаўніца хіміі Надзея Іванаўна Папова ... яна потым шмат гадоў кіравала Лідай у якасці першага сакратара гаркама партыі ... паставіла з вучнямі невялічкі спектакль пра Ламаносава, каб зацікавіць школьнікаў сваім прадметам (*Ю. Сохар*).

2. Кажуць ... першае каханне — гэта разьба па камені (*А. Карпюк*).

3. Аднак ... Крушынскаму было не да рамантыкі і не да шкадавання (*А. Федарэнка*).

4. Згодна тлумачэнням лейтэнанта ... вайна паміж Брытаніяй і яе амерыканскімі калоніямі распачалася з-за кошту на гарбату! (*Я. Конеў*).

5. Біяграфіі літаратараў падаюцца ў даведніках, у прадмовах ці пасляслоўях аўтарскіх кніг, а таксама ... як правіла ... ў часопісных публікацыях (*М. Берлеж*).

***А13. Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы (спалучэнні слоў, сказы) трэба выдзеліць дужкамі ці працяжнікамі:***

1. Пад раніцу мы варылі на кухні студэнцкі «кандзёр» **вермішэль, шчодра прыпраўленая падсмажанымі кавалачкамі сала**, такім чынам дапамагаючы адзін аднаму прыстасавацца да самастойнага жыцця (*Ю. Сохар*).

2. Вясковыя жанчыны вырашылі так: у Карнея падняўся ціск **калі дзед яго мерае?**, страціў чалавек прытомнасць, а пасля ачомаўся ды прысунуўся дахаты (*З. Дудзюк*).

3. **Як вядома са старажытнагрэчаскай міфалогіі** Антэй — непераможны герой-волат, якому дотык да зямлі даваў сілы (*М. Кузьміч*).

4. Тут **як мне здаецца** аўтар выходзіў на надзённую праблему адчужанасці чалавека ад дома, ад сям'і (*М. Кузьміч*).

5. Яна шляхцянка **іначай яе не пасадзілі б за адзін стол з князем**, выйшла замуж за збяднелага шляхціца (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

***А14. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:***

1. Я быў увесь ... нібы добра настроены раяль (*А. Карпюк*).

2. Цёмна-блакітныя ... як марская вада ... вочы глядзелі на яе з люстэрка насцярожана, дапытліва і шчасна (*У. Караткевіч*).

3. У Нясвіжы мёд цаніўся вышэй ... чым найстарэйшае віно (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

4. Паляўнічыя ведалі: прышлых зуброў трэба ... як мага болей напалохаць, тады яны не заўважаць высокага абрыву (*А. Камароўскі*).

5. Балоты, пэўна, раней многім уяўляліся ... як адна суцэльная непраходная багна, твань, дрыгва, як рассаднік нечысці ўсялякай — камароў ды гадаў паўзучых, таму яны і не заслугоўвалі аніякай увагі і літасці да сябе (*П. Сабіна*).

***А15. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць працяжнікам:***

1. Самка зубра целіцца раз у тры гады, і згуба самкі або зубраняці заўсёды заўважная страта (*А. Брытун*).

2. Не яго гэта шлях па-сабачы падбрэхваць з-за плота, а потым хавацца, каб не злавілі (*З. Дудзюк*).

3. Адрывачныя запісы ў дзённіку нямыя сведкі перажыванняў актрысы (*А. Ладыгіна*).

4. У нарысе пра лётчыка Мікалая Зайцава ёсць усё расказ пра дзяцінства, вучобу, сяброў, успаміны пра пасляваеннае жыццё (*В. Лешчанка*).

5. Па праекце трэба было агінаць сцяну трубой, але брыгадзір знайшоў больш эфектыўны выхад ісці напрамкі, бо так і час скароціцца для ўстаноўкі, і абагрэў будзе лепшы (*А. Бароўскі*).

***А16. Адзначце сказы, у якіх пунктуацыю трэба дапоўніць двукроп'ем:***

1. Для маці звальненне сына з працы стала шокам тут, у палескай глушы, за працу ў такой саліднай установе любы трымаўся б да апошняга (*А. Ветах*).

2. За магчымасць хоць адзін раз згуляць у футбол Уладзік быў гатовы аддаць усе свае хлапечыя скарбы стары замок без ключа, каляровыя алоўкі і нават кніжку казак, якую яму падаравала Леакадзія Максімаўна (*З. Дудзюк*).

3. Тут жыцця і натхнення выток, і ніякай экзотыкі нам не трэба бласлаўляем родны куток, бласлаўляем роднае неба!.. (*М. Маляўка*)

4. Адно можна пэўна сцвярджаць археалогіяй Нарбут быў захоплены ўсур'ёз і помнікі мінуўшчыны яго цікавілі на працягу ўсяго жыцця (*А. Марціновіч*).

5. Аэрапорты Каіра і Куала-Лумпура пабудаваныя такім чынам што, з якога б боку вы ні падляталі, пірамiды ў даліне Гізы і 500-метровыя вежы бачныя задоўга да пасадкі (*В. Альшэўскі*).

***А17. Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коскі:***

1. Гервасій меў замак-развалюху, некалькіх коней, латы, ды меч, ды яшчэ шахматную дошку ... затое быў ён багаты сябрамі і не абдзелены жаночай увагай (*У. Караткевіч*).

2. Адно тваё неасцярожнае слова ... і справядлівая помста выслізне з нашых рук (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

3. Невядома адкуль з'явіўся моцны вецер ... і спалоханыя дрэвы, кусты тут жа залапаталі лісцем, зашушукаліся, зашумелі: «Шшу-шу, шшшу…» (*А. Брытун*).

4. За апошнія дзесяць гадоў Кашын двойчы выбіраўся народным суддзёй ... а два гады назад яго прызначылі пракурорам (*В. Шабалтас*).

5. Яшчэ і зараз на Палессі падчас паводкі многія вёскі стаяць на астравах або па калена ў вадзе ... і па вуліцах ходзяць маторныя лодкі (*У. Караткевіч*).

***А18. Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх дадaная частка (часткі) знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай:***

1. З цягам часу замянілі прыбор новым, які зрабілі са старых спружын французскіх вагаў (*М. Бандарэнка*).

2. Я папрашу, каб мяне прапусцілі за цябе, і ўсё растлумачу (*Ю. Крашэўскі*).

3. Калі госць нарэшце паехаў, гаспадар ужо забыў пра неверагодныя фантазіі сына, затое ўспомніў пра воўка-людажэра (*Ю. Татарынаў*).

4. Позняй восенню, калі ўжо задзьмулі пранізлівыя вятры і застудзянела зямля, полацкія стругі паплылі ўверх па Дзвіне (*Я. Конеў*).

5. Даследчыкі, каб не залежаць ад надвор'я, пабудавалі лёгкую перасоўную лямцавую юрту, набылі чыгунную печку, устанавілі іх на сані і маглі з поспехам рабіць пераезды з месца на месца, ад адной палонкі да другой, і нават жыць, назапасіўшы прадуктаў, цэлымі тыднямі пасярод Байкала (*М. Бандарэнка*).

***A19. Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх дададзеная частка звязана з галоўнай пры дапамозе падпарадкавальнага злучніка:***

1. Так здарылася, што праз нейкі час я зноў сустрэў гэтага пана (*В. Чаропка*).

2. Кажуць, у Машэкі была такая сіла, што ён адной рукою спыняў каня (*В. Чаропка*).

3. Дарога, што адкрыла цэлы свет, вяртаецца да роднага парога (*У. Мазго*).

4. Стары не прызнаваў містыкі, не жадаў прызнаваць, аднак, пражыўшы дастаткова, не мог не згадзіцца з тым, што лёс, адзін толькі лёс кіруе чалавекам (*Ю. Татарынаў*).

5. Я паплыў да берага, што ледзь угадваўся ў белым тумане (*А. Кажадуб*).

***A20. Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх дададзеная частка (часткі) звязана з галоўнай пры дапамозе злучальнага слова:***

1. Рачок — іранічная мянушка ляснічага Ракоўскага з паэмы «Новая зямля», разбэшчанага багаццем і ўладай пана, які не ведаў межаў ні ў злосці, ні ў нікчэмнай важнасці, ганарлівасці (*В. Шур*).

2. Прабабка так спалохалася, што пасля гэтага не змагла паздаравець, паправіцца і неяк ціха, прасветлена памерла (*Я. Сіпакоў*).

3. Цярэшка быў для сваёй гаспадыні тым анёлам-ахоўнікам, дзякуючы якому з ёю за больш чым васямнаццаць гадоў ні разу не здарылася нічога благога (*Ю. Татарынаў*).

4. Калі вецер сцішыўся, полымя свечак пачало гарэць роўна, патрэскваючы, як дровы ў грубцы (*А. Разановіч*).

5. І з якой таямнічай крыніцы чэрпаў сілы ён, веру, натхненне, каб нязгаснаю зоркай свяціцца для наступных усіх пакаленняў? (*М. Пазнякоў*).

***A21. Адзначце сказы, у якіх неабходна паставіць дзве коскі:***

1. Князь даведаўся што ты без ягонага дазволу хацеў падаць каралю просьбу і справядліва загадаў цябе замкнуць (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

2. Калі малады Калупайла выехаў з лесу і ўбачыў у лагу свой дом яму зрабілася да таго балюча што ён зарыдаў (*Ю. Татарынаў*).

3. Маракі кажуць што калі мора разбушуецца то нехта нібы кліча іх ў начной цемрадзі (*Г. Сянкевіч, пер. М. Кенькі*).

4. У гутарках з даверанымі асобамі князь Чартарыйскі часта ўзгадваў лета 1764 года калі яму споўнілася 30 гадоў і яго лічылі першым прэтэндэнтам на трон пасля смерці Аўгуста Трэцяга Саса (*Я. Конеў*).

5. Мы ўсе азірнуліся і пабачылі што кратар вулкана які быў ад нас за некалькі кіламетраў пырхае агнём і па яго схіле сцякае вогненная рака (*Р. Баравікова*).

***А22. Адзначце складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем:***

1. Дзяўчаты, якія праводзілі сваіх новых знаёмых, перадалі, што Іван абяцаў вярнуцца пасля вайны і абавязкова аддаць ватоўку (*А. Бутэвіч*).

2. Стары не адказаў, бо зразумеў, што сын не зменіць свайго рашэння і ўсе намаганні пераканаць яго дарэмныя (*Ю. Татарынаў*).

3. Тонкія і лоўкія пальцы гарманіста так хутка бегалі па гузіках гармоніка, што прысутным толькі заставалася дзівіцца, як ён запамінае процьму ладоў і басоў, каб гэтак хораша выводзіць мноства знаёмых і невядомых мелодый (*З. Дудзюк*).

4. Памкненні Федзькі сталі мяняцца, калі яго разлучылі са старэйшым братам, якога князь Міхайла ўсё часцей браў у працяглыя паездкі (*Э. Ялугін*).

5. Князь то супакойваўся, калі яго запэўнівалі, што ўсё гатова, то раптам, успомніўшы нешта, усхопліваўся, будзіў кагосьці, пасылаў па штосьці, клікаў слуг, не даваў спакою, дарэмна разбудзіў палову двара (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

***А23. Адзначце складаназалежныя сказы з аднародным сузалежным падпарадкаваннем:***

1. Калі да става асталося ўжо зусім нямнога і адтуль дыхнула вільготным павевам, Міхаліна ўбачыла цень, што рухаўся ёй насустрач (*У. Караткевіч*).

2. Не разумеючы яшчэ да канца, што такое каханне, Алесь ведаў, што яго кахаюць і ён сам кахае (*У. Караткевіч*).

3. Любы пісьменнік, які напіша мудрую кніжку, што чытаецца (асабліва дзецьмі!) без усялякай прынукі, прычым напіша яе на роднай мове, здзяйсняе подзвіг слова (*М. Верціхоўская*).

4. Ты ведаеш, што я заўсёды імкнуўся несці ў тваё сэрца толькі яснасць і шчасце, бо ты была адзіным праменьчыкам святла за ўсё маё жыццё (*А. Бруй*).

5. Я дарую вам крыўды ўсе да адной, дарагія шчаслівыя людзі, хай на сэрцы вам радасна будзе і ў душы хай пануе спакой! (*А. Капацкевіч*).

***А24. Адзначце складаназалежныя сказы са змешаным падпарадкаваннем:***

1. Старонні чалавек мог бы падумаць, што гэта ідуць муж і жонка, якія вельмі кахаюць адно аднаго, бо дзяўчатам і хлопцам гэтак хадзіць нельга (*З. Дудзюк*).

2. Як жа здзівілася Інга, калі ўбачыла, што і іншыя людзі жывуць паводле сваіх жа догмаў (*Т. Бесараб*).

3. Толькі тут русін здагадаўся, што нехта выдаў таямніцу пра петыцыю, якую ён хацеў падаць каралю, і што гэта некаму не спадабалася (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

4. Адзін з трох хлявоў неяк бокам усунуўся ў лес, быццам ніхто яго не будаваў, а ён вырас тут сам, разам з калматымі пахучымі соснамі, што шчыльна ўзялі яго ў палон (*В. Праўдзін*).

5. Хлопчык крыху спалохаўся, калі раптам весніцы асцярожна, з рыпам, прыадчыніліся і ў шчыліну прасунулася белая пыса Косі (*З. Дудзюк*).

***А25. Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць працяжнік:***

1. Будзе бацька строгім і патрабавальным ... дзеці вырастуць сапраўднымі людзьмі (*У. Дамашэвіч*).

2. Чуйным сэрцам ён Маці-Радзіму, боль яе шматвяковы падслухаў і пацвердзіў усім ... немагчыма знішчыць плынь беларускага духу (*М. Пазнякоў*).

3. Не любяць жа людзі Ворана-крумкача, вечнага скавытальніка па лёсах людскіх ... нясе ён на сваім чорна-зямлістым пер'і скруху, наклікае хаўтуры паселішчам (*А. Казлоў*).

4. Паабяцаў князь вялікія грошы і поўную свабоду творчасці пры будаўніцтве ... пацягнуліся ў Трокі муралеі-хітрацы з Германіі, Чэхіі і Польшчы, жадаючы ўзводзіць палацы і дамы́ на новым месцы (*В. Іпатава*).

5. Ад Рыгоравага стрэлу адзін з ваўкоў закруціўся на месцы ... пачуўся гучны віск і гырканне раненага звера (*А. Брытун*).

***А26. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коску (коскі) пры зваротках:***

1. Высаджу я цябе сярод дрымучага лесу, і ты ... мая любая ... будзеш там сядзець і трымцець як асінавы лісток (*А. Афяроўскі*).

2. Па ўспамінах маці ... Валодзя быў маёй пяшчотнай нянькай (*В. Казлова*).

3. Да нас будзь літасцівы ... Божа, не пазбаўляй нас ласкі светлай, дай у каханні жыць прыгожа ў тваёй краіне запаветнай (*І. Пракаповіч*).

4. Бацюхна Пакроў ... нагрэй хатачку без дроў, дзетак малых накармі, людзей старых паміры (*З народнага*).

5. Калі да гэтага тэмп апавядання быў трохі запаволены, то зараз ён будзе ... наадварот ... ці не занадта хуткім (*У. Караткевіч*).

***А27. Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Крушынскі сціснуў зубы, на міг заплюшчыў вочы, і падалося яму, што не лес гэта шуміць, а вухае мінамёт і трашчаць аўтаматныя чэргі і што не снегам і хвоямі пахне, а порахам і крывёю… (*А. Федарэнка*).

2. Жаночыя галасы то зліваліся ў адзін струмень, то разбягаліся ручайкамі, і столькі было ў іх адценняў, фарбаў і пачуццяў, што здавалася — нічога і нікога на свеце няма акрамя двух закаханых, якія цягнуць адно да аднаго рукі і не могуць дацягнуцца (*А. Тулупава*).

3. Туся пайшла праз лён напрасткі, нібы праз сцяну; сцяна прапускала яе, расхінаючыся перад жанчынай, потым, як бы апамятаўшыся, загортвала Тусю ў шоўкавы дрыготкі блакіт, і Антон палохаўся: яму здавалася што каханая ідзе, ахопленая ўся полымем, і тое полымя вось-вось спапяліць яе (*А. Тулупава*).

4. Узаемаразуменне ўсталявалася між імі імгненна: пра што ні загаворыць адзін, другі тут жа знаходзіў, што дадаць (*Я. Конеў*).

5. Я прадчуваю, што ў любы міг можа здарыцца бяда: Ран і Сын мядзведзя сутыкнуцца між сабою ў лесе адзін на адзін і тады ў родзе не стане аднаго паляўнічага (*В. Гігевіч*).

***А28. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коску пры выклічніку:***

1. О ... якая жахлівая, якая вечная і нязмерная твая туга, Беларусь! (*У. Караткевіч*).

2. Як хараша ... мама ... ты ўмела спяваць, душу расплятаць сваю светлую! (*У. Ягоўдзік*).

3. Ах ... чаму мяне няма з табою побач? (*А. Бруй*).

4. Ох ... як хацелася жаўручку вярнуцца на свой палетак, пачуць над сабою ласкавы шэпт залацістага жыта; хоць дыханнем падтрымаць каласок у няроўнай бойцы з нягоднікам асотам! (*У. Ягоўдзік*).

5. Дарэчы ... рамансы Вярцінскага, Лешчанкі, Козіна пранізваюць тэкст рамана Аляксандра Станюты «Сцэны з мінскага жыцця» (*Т. Алешка*).

***А29. Адзначце сказ, які не з’яўляецца складаным з рознымі відамі сувязі:***

1. Можа, гэта быў плач душы па тых, каму не суджана было нарадзіцца і прадоўжыць жыццё, але пачуццё няўцешнага гора ахапіла Агеева так моцна, што ён, страціўшы спакой, падняўся, сеў на пасцелі і раптам зусім незнарок заплакаў (*В. Быкаў*).

2. Ленд-ліз — праграма амерыканскай дапамогі ў гады вайны, па якой Савецкаму Саюзу для барацьбы супраць гітлераўцаў даваліся грашовыя крэдыты, тэхніка, метал для ваеннай прамысловасці, адзенне, абутак і харчаванне для арміі і насельніцтва; у гэтай праграме як донары ўдзельнічалі таксама Англія і Канада (*В. Гурскі*).

3. Па ўсім відаць, што Кандрат Крапіва ў глыбіні душы цяжка перажываў расправу з наркамам Зміцерам Прышчэпавым, які ствараў сялянскія гаспадаркі; за гэта ён быў двойчы асуджаны і загінуў у ГУЛАГу (*А. Рагуля*).

4. Як жа дасюль я не здагадаўся, што ёсць музыка, якая здольная расхінаць цесныя цагляныя сцены, паднімаць цябе пярынкаю высока-высока над зямлёю і кружыць, паказваць, як на далоні, тое, што найбольш люба сэрцу, пра што найчасцей думаеш?! (*У. Ягоўдзік*).

5. Хоць мужчыны пераважна займаліся рамесніцтвам, шмат хто з іх працаваў пры двары князя, але жанчыны па даўняй звычцы трымалі шмат свойскай жывёлы і птушкі (*З. Дудзюк*).

***А30. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Я ўрач, і мяне вучылі, што, калі я апынуся на полі бою і параненых будзе зашмат, то я ў першую чаргу павінен ратаваць тых, каму можна дапамагчы (*Э. Лінкевіч*).

2. Часам у глыбінях мільгане сіняе вераценца скумбрыі; па распаленых пахучых баках каменя бегаюць цікаўныя крабы, а мора наступае і адступае, і мой камень, здаецца, гайдаецца ў вадзе то вырастаючы, то апускаючыся, звонкі, як бронзавы карабель арганаўтаў, неўміручы «Арго» (*У. Караткевіч*).

3. Паглядзім, што там у хатцы-леснічоўцы робіцца, і заадно пазнаёмімся з героем дарослым, які вось ужо два раздзелы нецярпліва прабіваецца на старонкі аповесці, патрабуючы і да сябе ўвагі (*А. Федарэнка*).

4. Дзіўна: за суткі, што аддзялялі мяне ад наступнай сустрэчы, я ніводнага разу не спытаўся ў сябе навошта прызначыў спатканне дзяўчынцы Марусі з філасофскага факультэта (*А. Андрэеў*).

5. Шкада, што воблакі не разумеюць людзей і я не магу папрасіць іх напісаць на блакіце белакрылымі літарамі тваё чароўнае імя, каб увесь свет зразумеў, якая страта напаткала яго абыякавых да ўсяго дзяцей (*А. Бруй*).

***А31. Адзначце нумары пропускаў, на месцы якіх трэба паставіць коску:***

Старая спачатку не хацела ісці і ўпіралася[1] ... яна думала[2] ... што яе хочуць схапіць[3] ... як чараўніцу і кінуць у спрат[4] ... але, павагаўшыся[5] ... прыйшла і пачала гадаць каралю па воску (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

***А32. Адзначце сказы, у якіх няправільна пастаўлены знакі прыпынку:***

1. Яшчэ імгненне, і Іван будзе каля царэўны-прыгажуні (*У. Ягоўдзік*).

2. Кожны выхад да дошкі для мяне пакута (*У. Ягоўдзік*).

3. Балота часта не вораг, а захавальнік вільгаці, рэзервуар з'яўлення аблокаў, пачатак крыніцы, ручаіны, ракі (*У. Караткевіч*).

4. Ціша, зоры, і неба, і сад у паўцьме — усё вітала ласкава мяне (*Н. Арсеннева*).

5. Разгарнуў перададзеную Марынай Юр'еўнай кнігу і ў мяне задрыжалі ад хвалявання рукі (*У. Ягоўдзік*).

## Тэст В

***В1. Устанавіце адпаведнасць паміж сказам і прапушчаным у ім знакам прыпынку. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Цёмныя, варожыя чалавеку сілы прыроды і грамадства ўвасоблены ў чарадзейных казках у абагульненых адмоўных вобразах вялікай мастацкай сілы шматгаловага змея, Кашчэя Бессмяротнага, Баба Ягі (*В. Чамярыцкі*). | 1. Працяжнік ставіцца ў складаназлучаным сказе, бо другая яго частка з'яўляецца вынікам дзеяння першай. |

| | |
|---|---|
| Б. Скажа дзіця няўдзячнае слова і трапяткое сэрца маці закалоціцца, зойдзецца ад невыноснага болю (*У. Ягоўдзік*).<br>В. На экзамене ў тэатральна-мастацкі інстытут прачытаныя на памяць творы У. Маякоўскага, Я. Еўтушэнкі, Я. Купалы, К. Крапівы выявілі інтэлект, а паказаныя эцюды: «няўдалая рыбалка», «першае спатканне» шчырасць пераўвасаблення ў прапанаваныя сітуацыі і абставіны (*Ю. Сохар*).<br>Г. Я заняў зручную пазіцыю з якога боку ні падышла б Маруся, я ўбачыў бы яе першы, а яна б мяне не заўважыла (*А. Андрэеў*). | 2. Працяжнік ставіцца ў складаназлучаным сказе, бо другая яго частка з'яўляецца вынікам дзеяння першай.<br>3. Двукроп'е ставіцца ў складаным сказе з markрознымі відамі сувязі, бо наступныя часткі раскрываюць сэнс першай.<br>4. Працяжнік ставіцца ў складаным бяззлучнікавым сказе, бо першая частка паказвае на час або ўмову таго, пра што гаворыцца ў другой.<br>5. Двукроп'е ставіцца ў простым ускладненым сказе пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі.<br>6. Працяжнік ставіцца ў складаназлучаным сказе пасля аднародных членаў, якія знаходзяцца пасля абагульняльнага слова ў сярэдзіне другой часткі. |

***В2. Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і схемамі. Адказ запішыце.***

А. Абое яны быццам забыліся, дзе знаходзіліся, што ў свеце грымела вайна і небяспека пагражала кожнаму (*В. Быкаў*).

Б. Я ж ніколі не забудуся пра той снег, і, дзе б ні была і што б ні рабіла, ведай: калі будзе падаць снег, я буду думаць пра цябе (*Г. Забаўская*).

В. Чым бы ні займалася, з кім ні размаўляла, Ядзя ніяк не магла засяродзіцца на рабоце, пазбавіцца наслання: у вачах стаяў Калеснік і загадкава пасміхаўся (*В. Праўдзін*).

Г. Было душна, грудзі і плечы надта пацелі, хацелася піць, але да перапынку Агееў наважыўся ўстрымацца ад вады, каб не перагружаць сэрца (*В. Быкаў*).

Д. На ўсіх, хто прайшоў вайну, на былых афіцэраў з вайсковай выпраўкай я глядзеў як на людзей калі не з іншай планеты, дык як на сапраўдных герояў, з якіх трэба браць прыклад, у якіх трэба вучыцца і пераймаць іх баявы і чалавечы вопыт (*У. Дамашэвіч*).

1. […], і, (дзе...ні) і (што...ні), […]: (калі…), […].
2. […, (хто…), …], (… якіх), (… якіх).
3. […], […],[…], але […], (каб…).
4. […], (дзе…), (што…(…) і (…)).
5. (чым...ні), (…кім ні…) […]:[…].

***В3. Вызначце суадносіны паміж складаназалежнымі сказамі і тыпамі дадзеных частак. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Вілен адчуў, як яго сэрца напаўняецца невытлумачальнай радасцю (*А. Казлоў*).<br>Б. І тут прыключылася тое, што ў адчыненае акенца ў мой пакой уляцела птушка сінічка (*В. Чаропка*).<br>В. Уцёкі працўніка набылі настолькі масавы характар, што многія кідалі зброю (*А. Марціновіч*).<br>Г. «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» І. Я. Лепешава — тлумачальны нарматыўны фразеалагічны слоўнік сучаснай беларускай мовы, у якім лексікаграфічна апісана каля шасці тысяч фразеалагізмаў (*І. Саламевіч*).<br>Д. Зося зрабіла рэверанс, як вучыла старая немка-выхавацелька у самарскім дзіцячым прытулку (*З. Дудзюк*). | 1. Спосабу дзеяння.<br>2. Азначальная.<br>3. Дапаўняльная.<br>4. Дзейнікавая.<br>5. Меры і ступені. |

***В4. Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку пры цытатах:***

1. Як сцвярджае Мікола Гусоўскі ў «Песні пра зубра», сучасны яму лавец з'яўляецца свабодным чалавекам, бо «перад законам і правам лясным на здабытак роўны ўсе»; ён вынослівы, смелы і ўмелы, бо на аблаве, як на вайне, «сваімі рукамі трымаеш дзіду ці лук ды і долю сваю пад сярмягай» (*У. Калеснік*).

2. Іван Арамейка ў чатырохрадкоўі «У вянок класіку» гаворыць:
«Між многіх форм літаратуры
Мне наймілей мініяцюры.
Паклон сардэчны Вам, Брыль Янка,
За жменю сонечных брыльянтаў».

3. — Тое, што Б. Дыбоўскі пакідаў месца сваёй ссылкі са смуткам, — пісаў яго біёграф Я. Дамалеўскі, — не здасца дзіўным, калі ўлічыць, што ён там пражыў лепшыя гады жыцця: праводзіў навуковыя даследаванні, якія потым прынеслі яму такое задавальненне, якое атрымлівае кожны вучоны, калі па сканчэнні работы яе вынікі пацвярджаюць тэарэтычныя высновы (*М. Бандарэнка*).

4. Мне, знаёмаму з рукапісным архівам Васіля Гадулькі, нават раннія, юнацкія вершы яго зусім не падаліся «толькі асабістым хобі», як напісаў ён у паўжартоўнай аўтабіяграфіі (*А. Каско*).

5. Немалаважна і тое, як Віктар Гардзей непаўторна «адухаўляе прыроду, якая жыве адзіным жыццём з добрымі людзьмі» (*П. Дзюбайла*).

***В5. Устанавіце адпаведнасць паміж сказам і яго характарыстыкай. Адказ запішыце.***

| | |
|---|---|
| А. Між іншым, ва Уладзіміра Маякоўскага былі і сваяцкія сувязі з Беларуссю: брат яго бацькі, Міхаіл Канстанцінавіч Маякоўскі, доўга жыў і працаваў ляснічым у Белавежскай пушчы («*ЛіМ*»). | 1. Просты ўскладнены сказ. |
| Б. У творчасці Васіля Гадулькі мы бачым у асноўным паэзію класічнага ўзору («адмысловага класічнага ўзору»), як слушна сцвярджаюць знаўцы ягонай творчасці (*А. Каско*). | 2. Складаназалежны сказ з сузалежным аднародным падпарадкаваннем. |
| В. Зноў па лёсе нашага кахання плача несуцешна птушка каня, да напіцца век яна не можа, бо лятае вельмі асцярожна (*Д. Дарошка*). | 3. Складаны бяззлучнікавы сказ. |
| Г. Мой любы край, я веру і цяпер, што, нігілізму цішачы ашчэр, тваё насенне залатое — мова — у новых пакаленнях прарасце і на зямной разветранай вярсце сад беларускі расвіце вяснова (*М. Мятліцкі*). | 4. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі. |
| | 5. Складаназлучаны сказ. |

***В6. Адзначце, якія віды сінтаксічнай сувязі спалучаюцца ў сказе:***

Чалавек не мае магчымасці, без спецыяльных прыбораў, вымераць сілу энергіі — электрычных, магнітных хваляў, але чалавек успрымае іх, на яго дзейнічаюць як вядомыя на сёння віды энергіі, так яшчэ і не даследаваныя навукай (*В. Альшэўскі*).

1) падпарадкавальная і бяззлучнікавая;
2) злучальная і бяззлучнікавая;
3) злучальная, падпарадкавальная і бяззлучнікавая;
4) злучальная і падпарадкавальная.

***В7. Знайдзіце ў сказах фразеалагізмы і вызначце, якім членам сказа яны з'яўляюцца. Адказ запішыце ў форме творнага склону адзіночнага ліку.***

1. За акном радасна зіхаціць, адбірае вочы сакавіцкі дзень (*У. Ягоўдзік*).

2. Без строгага бацькі хлопчык зусім адбіўся ад рук: крыўдзіў ні за што дзяцей, не слухаўся старых паляўнічых (*В. Гігевіч*).

3. Бабка Наталля не надта дае веры дактарам (*У. Ягоўдзік*).

4. Заснула вечным сном старая маці, патух нявыплаканых слёз агонь (*А. Звонак*).

5. Ганна Андрэеўна па слова ў кішэню не лезе і адбрыць можа кожнага (*І. Навуменка*).

***В8. Знайдзіце сказ з памылкай у дзеяслоўным кіраванні. Запішыце словазлучэнне правільна.***

1. Пад цяплом Гардзеевага позірку душа Зосі нібы разгарнулася, расцвіла, як кветка пад сонцам, і дзяўчына цешылася са свята еднасці і разумення (*З. Дудзюк*).

2. Я здзіўляюся з хараства царэўны на сваім малюнку і закрываю ад цікаўных вачэй альбом (*У. Ягоўдзік*).

3. Жончыны пагрозы князь тлумачыў толькі нянавісцю да прыгожай дзяўчыны і пасмейваўся над імі (*Ю. Крашэўскі, пер. М. Кенькі*).

4. Няхай мяне перажыве рачулкі плыткая бруя, расісты россып на траве, вячэрні пошчак салаўя (*М. Мятліцкі*).

5. Любіў жыццё ён больш, чым Бога, як мёд, піў вусны маладзіц (*А. Пісьмянкоў*).

# АДКАЗЫ

| № задання | № варыянта | | | |
|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV |
| **А1** | 1, 4, 5 | 1, 4 | 1, 3 | 1, 2 |
| **А2** | 1, 2, 3 | 3, 4 | 3, 4, 5 | 1, 2, 3, 4 |
| **А3** | 1, 3, 4 | 1, 3, 4 | 1, 3, 4 | 2, 4, 5 |
| **А4** | 2, 3, 4 | 2, 3, 5 | 2, 5 | 1, 3, 4 |
| **А5** | 1, 3, 4, 5 | 1, 3, 5 | 3, 4 | 1, 4 |
| **А6** | 2, 5 | 1, 2, 4 | 1, 3, 4 | 1, 3, 4 |
| **А7** | 1, 2, 4 | 1, 2, 5 | 1, 3, 4, 5 | 3, 5 |
| **А8** | 4, 5 | 1, 4, 5 | 2, 3, 4 | 1, 3 |
| **А9** | 1, 5 | 3, 5 | 3, 5 | 2, 3, 4 |
| **А10** | 3, 4, 5 | 1, 2, 5 | 1, 3, 5 | 1, 2, 5 |
| **А11** | 3, 4, 5 | 2, 4 | 3, 4, 5 | 1, 2, 4, 5 |
| **А12** | 2, 3, 4 | 2, 3 | А4 Б1 В3 Г2 | 1, 2, 5 |
| **А13** | 1, 2, 4 | 1, 3, 4 | 1, 3 | 2, 3 |
| **А14** | 1, 5 | 1, 3, 4 | 1, 2, 4 | 4, 5 |
| **А15** | 1, 4, 5 | 1, 2, 3 | 1, 2, 4 | 3, 5 |
| **А16** | 2, 4 | 1, 3 | 2, 5 | 1, 3, 5 |
| **А17** | 1, 3, 4, 5 | 1, 25 | 1, 2, 3 | 2, 3 |
| **А18** | 3, 4, 5 | 2, 3 | 3, 5 | 3, 4 |
| **А19** | 2, 3, 4 | 1, 4 | 1, 3, 4 | 1, 2, 5 |
| **А20** | 1, 3, 4 | 1, 3, 5 | 1, 2, 5 | 2, 3, 5 |
| **А21** | 2, 5 | 2, 3, 4 | 3, 4 | 2, 3, 4 |
| **А22** | 1, 2, 4 | 2, 5 | 3, 4 | 2, 4 |
| **А23** | 1, 2, 4 | 1, 4, 5 | 1, 2, 3 | 2, 3, 5 |
| **А24** | 3, 4 | 2, 5 | 1, 4, 5 | растлумачыўшы, задумаўшыся |
| **А25** | 2, 5 | 1, 2, 5 | 2, 3, 4 | 4, 5 |
| **А26** | 1, 3, 4 | 1, 4, 5 | 2, 4, 5 | 1, 2, 5 |
| **А27** | 1, 2 | 2, 4, 5 | 1, 3 | 3, 5 |
| **А28** | 1, 3 | 1, 3, 5 | 1, 3, 5 | 1, 4, 5 |
| **А29** | 1, 2, 5 | 1, 3, 4, 5 | 2, 5 | А5 Б3 В4 Г2 |
| **А30** | 1, 2, 3 | 2, 3, 4 | 2, 3 | 3, 4 |
| **А31** | 2, 5 | А5 Б1 В2 Г3 | 2, 5 | 2, 5 |
| **А32** | 2, 3, 4 | 1, 3, 5 | 2, 3 | 2, 4, 5 |
| **В1** | 1, 5 | 1, 5 | 1, 2 | 2, 4, 5 |
| **В2** | А2 Б4 В1 Г3 | А5 Б3 В2 Г4 | А1 Б4 В3 Г2 | А2 Б4 В3 Г1 |
| **В3** | А3 Б5 В1 Г2 | А4 Б2 В3 Г5 | А3 Б4 В1 Г2 | А4 Б1 В2 Г3 |
| **В4** | 3, 4, 5 | А3 Б4 В5 Г2 | 3 | А2 Б3 В1 Г5 |
| **В5** | апавяданне | 6 | 1, 4 | 2, 3, 4 |
| **В6** | 5 | лексічны паўтор | залаты | 2, 4 |
| **В7** | паведаміў | 3, 4, 5 | афарбаваліся | акалічнасцю |
| **В8** | 2, 3, 4 | 2, 3 | акалічнасцю | 1, 3, 5 |

| № задання | № варыянта | | | |
|---|---|---|---|---|
| | **V** | **VI** | **VII** | **VIII** |
| **А1** | 1, 3, 4 | 2, 5 | 1, 3, 4, 5 | 1, 3, 5 |
| **А2** | 2, 3, 4 | 1, 3, 4, 5 | 2, 4 | 1, 2, 5 |
| **А3** | 2, 3, 5 | 1, 3, 4 | 2, 4, 5 | 1, 3, 5 |
| **А4** | 1, 4, 5 | 2, 5 | 1, 3, 5 | 2, 3, 4 |
| **А5** | 3, 5 | 1, 3, 4 | 4, 5 | 2, 3 |
| **А6** | 1, 2, 4 | 2, 3 | 2, 4, 5 | 1, 3, 4, 5 |
| **А7** | 1, 2, 4 | 1, 2 | 1, 3 | 2, 5 |
| **А8** | 1, 3, 4 | 1, 3, 4 | 3, 5 | 1, 2, 4 |
| **А9** | 4, 5 | 1, 2, 4 | 1, 4, 5 | 1, 4 |
| **А10** | 3, 4, 5 | 2, 3, 4 | 1, 2, 4 | 1, 2, 3 |
| **А11** | 1, 2, 5 | 1, 2, 5 | 2, 3, 4 | 2, 3, 4 |
| **А12** | 1, 4, 5 | 3, 5 | 1, 4, 5 | 1, 2, 3 |
| **А13** | 1, 2, 4 | 1, 3, 5 | 4, 5 | 1, 2, 5 |
| **А14** | 2, 3, 4 | 1, 3 | 1, 2, 3 | 2, 5 |
| **А15** | 1, 2 | 1, 2, 4, 5 | 1, 2, 4 | 1, 2, 4 |
| **А16** | 3, 4 | 1, 3, 4 | 1, 3 | 1, 3, 4 |
| **А17** | 1, 2, 5 | 1, 4, 5 | 2, 4, 5 | 1, 3 |
| **А18** | 1, 2, 4 | 1, 3, 4 | 2, 3, 4 | 1, 2, 5 |
| **А19** | 3, 4 | 2, 3, 4 | 1, 2, 4 | 1, 4, 5 |
| **А20** | 2, 3 | 1, 3, 5 | 1, 2, 5 | 1, 4 |
| **А21** | 1, 4 | 1, 2, 5 | 1, 5 | 1, 2, 4 |
| **А22** | 2, 3, 5 | 1, 4 | 4, 5 | 1, 4, 5 |
| **А23** | 1, 4 | 3, 5 | 2, 4 | 3, 4, 5 |
| **А24** | 1, 2, 3 | 2, 4, 5 | 3, 4 | 2, 3, 5 |
| **А25** | 1, 3, 4 | 1, 3, 4 | 1, 3, 4 | 1, 2, 3 |
| **А26** | 2, 3, 4, 5 | 3, 4, 5 | 1, 2 | 4, 5 |
| **А27** | 1, 3, 5 | 1, 2, 3 | 1, 4, 5 | 1, 4, 5 |
| **А28** | 1, 4, 5 | 1, 4 | 1, 3, 4 | 1, 2, 3 |
| **А29** | 2, 3, 5 | 1, 3 | 2, 3, 4 | 2, 4 |
| **А30** | 2, 3 | 2, 5 | 2, 3 | 2, 3, 4 |
| **А31** | А3 Б1 В4 Г2 | 1, 2, 5 | 1, 2 | 1, 4 |
| **А32** | 3, 4 | 2, 4 | 1, 3, 4 | 2, 3 |
| **В1** | 2, 3, 4 | 1, 3, 4 | 1, 4 | 2, 3 |
| **В2** | А4 Б2 В3 Г5 | палягчэла | 2, 3, 4 | А5 Б3 В2 Г4 |
| **В3** | 1, 2, 5 | А4 Б2 В3 Г1 | 3 | А3 Б1 В5 Г2 |
| **В4** | А2 Б4 В3 Г1 | А2 Б4 В1 Г3 | А5 Б2 В4 Г3 | 2, 3, 4 |
| **В5** | 2, 5 | навуковы | 1, 2, 5 | 1, 3, 5 |
| **В6** | 2 | 5 | суфіксальны | з просьбаю |
| **В7** | 4 | кіраванне | 2, 3, 5 | прыдаткам |
| **В8** | азначэннем | 3, 4, 5 | азначэннем | 1, 3, 4, 5 |

| № задання | № варыянта | | | |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| | IX | X | XI | XII |
| A1 | 1, 2 | 4, 5 | 1, 2, 5 | 5 |
| A2 | 2, 4 | 1, 3 | 2, 4 | 1, 2, 5 |
| A3 | 3, 4, 5 | 4, 5 | 2, 3 | 3, 4 |
| A4 | 1, 3, 4 | 1, 5 | 1, 3 | 1, 2, 5 |
| A5 | 1, 2, 5 | 1, 2, 4, 5 | 1, 2, 4 | 1, 2, 4 |
| A6 | 1, 2, 5 | 1, 3 | 4, 5 | 1, 2, 4, 5 |
| A7 | 1, 3, 5 | 2, 4, 5 | 1, 4 | 1, 3 |
| A8 | 2, 3, 5 | 2, 3, 5 | 2, 3, 4, 5 | 1, 2, 5 |
| A9 | 1, 5 | 2, 4 | 1, 2, 5 | 1, 3, 4 |
| A10 | 1, 4, 5 | 1, 4, 5 | 1, 2 | 1, 4 |
| A11 | 1, 2, 3 | 2, 3, 5 | 2, 3 | 2, 4, 5 |
| A12 | 1, 2 | 2, 4 | 1, 3, 5 | 1, 2, 5 |
| A13 | 1, 2, 5 | 1, 3, 4 | 1, 2, 5 | 1, 2, 4 |
| A14 | 1, 2, 5 | 1, 2, 4 | 1, 4, 5 | 1, 3, 5 |
| A15 | 3, 5 | 2, 4, 5 | 3, 4, 5 | 1, 2, 4 |
| A16 | 1, 3 | 1, 4 | 1, 2, 3, 5 | 1, 3, 4 |
| A17 | 2, 4, 5 | 1, 3, 4 | 3, 5 | 1, 4, 5 |
| A18 | 2, 3, 4 | 2, 4, 5 | 2, 4, 5 | 2, 4 |
| A19 | 1, 3, 4 | 3, 5 | 1, 5 | 2, 3, 4 |
| A20 | 2, 3, 5 | 3, 4, 5 | 2, 3 | 2, 4, 5 |
| A21 | 2, 4, 5 | 3, 5 | 1, 5 | 1, 3, 4 |
| A22 | 1, 2, 4 | 1, 5 | 2, 3, 5 | 1, 4, 5 |
| A23 | 1, 4, 5 | 2, 4, 5 | 3, 4, 5 | 1, 2, 3 |
| A24 | 1, 4 | 3, 5 | 2, 3, 4 | 3, 5 |
| A25 | 1, 2, 3, 5 | 1, 3, 4 | 1, 2, 5 | 3, 5 |
| A26 | 2, 5 | 1, 5 | 1, 2, 5 | 2, 3, 4 |
| A27 | 2, 5 | 2, 3, 4 | 1, 4 | 4 |
| A28 | 2, 3, 5 | 2, 5 | 2, 3, 4 | 1, 4, 5 |
| A29 | 1, 3 | 3, 5 | 1, 3, 5 | 1, 4, 5 |
| A30 | 2, 4 | 1, 4 | 1, 3, 5 | 1, 2, 3 |
| A31 | 1, 3 | 1, 2, 4 | 4, 5 | 3, 4 |
| A32 | 1, 3, 5 | 1, 2, 5 | 2 | 1 |
| B1 | 2, 3, 4 | 2, 4, 5 | велікакняжацкі | 3, 4, 5 |
| B2 | паўтара цэнтнерам | 4 | 1, 2, 4 | сінекдаха |
| B3 | дзвюма | вышэйшы | 5 | даставіць |
| B4 | 2 | 3 | рачной роўняддзю | плямёны |
| B5 | ландшафтным | 3 | утрымліваючы | 2, 5 |
| B6 | 2, 4 | вялікімі | дзейнік | 1, 4 |
| B7 | распрацаваўшы | 2 | 11 | 7 |
| B8 | суфіксальны | 3, 4, 5 | навуковы | прыназоўнік |

| № задання | № варыянта | | | |
|---|---|---|---|---|
| | XIII | XIV | XV | XVI |
| **А1** | 1, 3, 4 | 1, 2, 4 | 3, 4, 5 | 2, 4, 5 |
| **А2** | 1, 3, 4 | 1, 4 | 1, 4, 5 | 2 |
| **А3** | 1, 4 | 1, 2, 4 | 1, 3, 4 | 2, 5 |
| **А4** | 2, 5 | 1, 4, 5 | 1, 3, 4 | 1, 2, 4 |
| **А5** | 3, 4, 5 | 2, 4 | 3, 4, 5 | 2, 5 |
| **А6** | 2, 4, 5 | 3, 4 | 1, 2 | 1, 2 |
| **А7** | 1, 5 | 1, 3, 4 | 1, 2 | 5 |
| **А8** | 1, 4, 5 | 2, 3, 5 | 1, 2, 5 | 4, 5 |
| **А9** | 2, 5 | 2, 3, 5 | 2, 3, 4 | 2, 4, 5 |
| **А10** | 4 | 2, 5 | 1, 3, 4 | 2, 5 |
| **А11** | 1, 2, 4 | 3, 4, 5 | 2, 3, 4, 5 | 1, 3, 5 |
| **А12** | 3, 4, 5 | 1, 3, 5 | 3, 4 | 2, 4, 5 |
| **А13** | 2, 4 | 1, 2, 4 | 4 | 1, 2, 5 |
| **А14** | 2, 4, 5 | 1, 2 | 2, 3 | 2, 3 |
| **А15** | А2 Б3 В4 Г1 | 3, 5 | 1, 2, 5 | 2, 3, 5 |
| **А16** | 1, 2, 4 | А1 Б3 В2 Г4 | 1, 2 | 1, 2, 4 |
| **А17** | 1, 3, 5 | 2, 4 | 1, 3, 4 | 1, 4 |
| **А18** | 1, 3, 4 | 4, 5 | 1, 3, 5 | 2, 4, 5 |
| **А19** | 1, 3 | 3, 4 | 1, 4, 5 | 1, 2, 4 |
| **А20** | 1, 5 | 1, 4, 5 | 2, 4, 5 | 1, 3 |
| **А21** | 1, 4, 5 | 2, 3 | 1, 2, 5 | 1, 2, 3 |
| **А22** | 2, 3, 4 | 1, 3, 5 | 2, 4 | 3, 4, 5 |
| **А23** | 1, 2, 4 | 1, 2, 3 | 1, 3, 4 | 2, 5 |
| **А24** | 3, 5 | 1, 5 | 1, 2, 5 | 1, 3, 4 |
| **А25** | 3, 5 | 1, 2, 4 | 1, 2, 4, 5 | 1, 4 |
| **А26** | 1, 3, 4 | 2, 3, 4 | 1, 2, 5 | 1, 3, 4 |
| **А27** | 2, 3, 5 | 1, 3, 4 | 2, 3, 4 | 1, 4, 5 |
| **А28** | 3, 4, 5 | 1, 4, 5 | 1, 2, 4 | 1, 3, 4 |
| **А29** | 2, 3, 5 | 3, 4, 5 | 3, 4, 5 | 4 |
| **А30** | 2, 5 | 2, 5 | 2, 4, 5 | 2, 3, 5 |
| **А31** | 2, 5 | 2, 3, 4 | 1, 3 | 2, 4, 5 |
| **А32** | 1, 3, 5 | 1, 2, 5 | 2, 4 | 1, 5 |
| **В1** | А3 Б2 В1 Г4 | 4 | 3 | А5 Б2 В6 Г3 |
| **В2** | пазнаяце́ | 4 | А2 Б3 В1 Г4 | А4 Б1 В5 Г3 Д2 |
| **В3** | 1, 3, 5 | А4 Б2 В1 Г3 | 1, 2, 3 | А3 Б4 В5 Г2 Д1 |
| **В4** | А5 Б4 В1 Г2 | можна напісаць | 1, 2, 3 | 1, 4, 5 |
| **В5** | публіцыстычны, водгук | А3 Б1 В4 Г2 | А2 Б1 В5 Г3 | А3 Б1 В4 Г2 |
| **В6** | 1, 4, 5 | 1, 3, 5 | пахне | 2 |
| **В7** | сапраўднае | 1, 2, 5 | 1, 2, 4 | выказнікам |
| **В8** | 13 | А5 Б4 В3 Г1 Д2 | А3 Б4 В5 Г2 Д1 | пасмейваўся з іх |

## ЛІТАРАТУРА


### *Асноўная*

1. *Арашонкава, Г. У.* Кароткі слоўнік беларускай мовы / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. Мінск : Мастацкая літаратура, 1994.
2. *Баханькоў, А. Я.* Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / А. Я. Баханькоў, І. М. Гайдукевіч, П. П. Шуба. Мінск : Paradox, 2000.
3. *Беларуская* мова / пад агул. рэд. Л. М. Грыгор'евай. Мінск : Выш. шк., 2004.
4. *Беларускі* арфаграфічны слоўнік. Мінск : Бел. нав., 2009.
5. *Булыка, А. М.* Слоўнік іншамоўных слоў : у 2 т. / А. М. Булыка. Мінск : БелЭн, 1999.
6. *Бурак, Л. І.* Сучасная беларуская мова. Арфаграфія і пунктуацыя. Практыкум / Л. І. Бурак, І. Л. Бурак. Мінск : Універсітэцкае, 1993.
7. *Гаўрош, Н. В.* Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы / Н. В. Гаўрош. Мінск : Выш. шк., 1998.
8. *Клышка, М. К.* Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў / М. К. Клышка. Мінск : Бел. нав., 2005.
9. *Лепешаў, І. Я.* Слоўнік беларускіх прыказак / І. Я. Лепешаў, М. А. Якалцэвіч. Мінск, 2002.
10. *Лобан, М. П.* Арфаграфічны слоўнік / М. П. Лобан, М. Р. Суднік. Мінск, 1997.
11. *Мысліцелі* і асветнікі Беларусі. X–XIX стагоддзі. Мінск : БелЭн, 1995.
12. *Правілы* беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мінск : Нац. цэнтр прав. інфарм. Рэсп. Беларусь, 2008.
13. *Прыгодзіч, М. Р.* Асобна, разам, праз дэфіс. Слоўнік-даведнік / М. Р. Прыгодзіч. Мінск : Нар. асвета, 1994.
14. *Санько, З. Ф.* Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем / З. Ф. Санько. Мінск : 1991.
15. *Слоўнік* беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / пад рэд. М. В. Бірылы. Мінск, БелСЭн, 1987.
16. *Слоўнік* лексічных формаў : сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы і амафоны. Мінск : Paradox, 2004.
17. *Сямешка, Л. І.* Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. Мінск : Універсітэцкае, 1996.
18. *Тлумачальны* слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. Мінск : БелЭн, 2005.
19. *Уласевіч, В. І.* Літара вялікая або малая : слоўнік-даведнік / В. І. Уласевіч, С. Я. Рапацэвіч, І. Л. Капылоў. Мінск : Сучаснае слова, 2003.
20. *Шуба, П. П.* Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў / П. П. Шуба. Мінск : Нар. асвета, 1993.

### *Дадатковая*

21. *Бардовіч, А. М.* Школьны марфемны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч, Л. С. Мормыш, Л. М. Шакун. Мінск : Аверсэв, 2005.
22. *Бардовіч, А. М.* Школьны словаўтваральны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч, М. М. Круталевіч, А. А. Лукашанец. Мінск : Аверсэв, 2006.
23. *Кандраценя, І. У.* Сучасная беларуская арфаграфія : акадэмічны даведнік / І. У. Кандраценя, Л. П. Кунцэвіч, А. А. Лукашанец. Мінск : Аверсэв, 2012.
24. *Малажай, Г. М.* Цэнтралізаванае тэсціраванне : Беларуская мова / Г. М. Малажай. Мінск : 2009.

25. *Плотнікаў, Б. А.* Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы / Б. А. Плотнікаў, В. П. Трайкоўская. Мінск : 2004.

26. *Пішам па-беларуску :* даведнік па арфаграфіі і пунктуацыі з каментарыямі : дапам. для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовах навучання / З. І. Бадзевіч [і інш.]. Мінск : Аверсэв, 2010.

27. *Сіўковіч, В. М.* Беларуская мова ў пытаннях, адказах і практыкаваннях / В. М. Сіўковіч. Мінск : 2004.

**ЗМЕСТ**

Вучэбнае выданне

**Клімавец** Вольга Паўлаўна

# Беларуская мова для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання

## Зборнік тэстаў

Адказны за выпуск В.У. Белы
Рэдактар
Камп'ютарны набор М.А. Амельчанка
Камп'ютарная вёрстка

Падпісана да друку __________. Фармат 60x84/16. Папера пісчая.
Рэзаграфія. Гарнітура «Times».
Ум. друк.арк. ______ Ул.-выд. арк. ______. Тыраж ______ экз. Заказ ______.
Выдавец і паліграфічнае выкананне —
Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт.
ЛВ № 02330/0133420 ад 14.10.2004; ЛП № 02330/0131503 ад 27.08.2004.
220030, г. Мінск, вул. Ленінградская, 6.